

*Маці Божая Ружанцовая*
*з лідскага касцёла Узвышэння Святога Крыжа*

У нумары 4/2013
НАША ВЕРА

* * *

...Заклік да еднасці, апроч усяго, пакліканы быць рэхам малітвы, якую наш Збаўца ўзнёс да Бога Айца падчас Апошняй Вячэры: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне» (Ян 17, 21). Няма ніякага сумнення, што гэтая просьба будзе прынятая, як была прынятая крывавая ахвяра Галготы. Ці ж наш Пан не сцвярджаў, што Айцец заўжды выслухоўвае Яго? <...>

Просім нашага Пасярэдніка і Заступніка перад Айцом (гл. 1 Цім 2, 5; 1 Ян 2, 1), каб адарыў усіх хрысціянаў ласкаю распазнаваць знакі Яго сапраўднага Касцёла, каб стаць Яго вернымі дзецьмі. Няхай Пан зміласцівіцца і ўчыніць, каб хутка настаў світанак таго благаслаўлёнага дня ўсеагульнага пакаяння і прымірэння, калі велізарны хор адзінай сям'і ўсіх збаўленых у радаснай любові заспявае разам з псальмістам ва ўдзячнасці да міласэрнасці Божай: «Як жа добра і прыемна, калі браты жывуць разам» (Пс 133, 1).

З энцыклікі папы Яна XXIII
«*Aeterna Dei Sapientia*»
(11.11.1961).

27 красавіка 2014 года, калі паўсюдны Касцёл будзе адзначаць свята Божай Міласэрнасці, у Ватыкане адбудзецца кананізацыя двух благаслаўлёных папаў: Яна XXIII і Яна Паўла II.

Абодва будучыя святыя (сустрэліся падчас Другога Ватыканскага Сабору, у якім Караль Вайтыла ўдзельнічаў як малады біскуп) кіравалі Каталіцкім Касцёлам у другой палове XX стагоддзя і першыя гады новага тысячагоддзя: благаслаўлёны Ян XXIII у 1958–1963 гг., а благаслаўлёны Ян Павел II у 1978–2005 гг.

Папу Яна XXIII — Анджэла Джузэпэ Ранкалі (1881–1963) — абвясціў благаслаўлёным 3 верасня 2000 г. Ян Павел II, якога ў сваю чаргу 1 мая 2011 г. узнёс да хвалы алтара яго наступнік Бэнэдыкт XVI.

Кананізацыя 27 красавіка стане першым у гэтым стагоддзі сакральным абрадам, падчас якога будуць абвешчаныя святымі адразу два папы.

Асоба благаслаўлёнага Яна Паўла II, якога пры жыцці сучаснікі называлі «гігантам духу» і «Божым атлетам», добра вядомая нашым чытачам: на старонках часопіса мы не раз друкавалі артыкулы пра гэтага Вялікага Папу, змяшчалі ўрыўкі з яго кнігаў і энцыклікаў у перакладзе на беларускую мову.

У гэтым нумары прапануем вашай увазе артыкул Паўла Бяліньскага пра благаслаўлёнага Яна XXIII.

# Ян XXIII: «Каб усе былі адно…»

*Нягледзячы на кароткі Пантыфікат, благаслаўлёны Ян XXIII лічыцца адным з самых выдатных Папаў Рымскіх у гісторыі Касцёла. Вядомы перадусім як ініцыятар Другога Ватыканскага Сабору, «добры Папа» — як яго называлі — быў перш за ўсё чалавекам вялікай асабістай абаяльнасці, сціпласці і пакоры, а таксама дасканалага пачуцця гумару.*

У «Дзённіку душы», які ён пакінуў пасля сябе, паўстае постаць хрысціяніна, які моцна любіў Бога, асцерагаўся граху і адорваў прыязнасцю ўсіх людзей, не зважаючы на іх погляды і веру.

**Усё пачалося ў Бергама**

Джузэпэ Ранкалі нарадзіўся ў 1881 г. у горнай вёсцы недалёка ад горада Бергама ў Паўночнай Італіі. У школу ён хадзіў за 6 кіламетраў ад дома праз горы, часцей за ўсё босы. Хоць ён быў здольным вучнем, аднак не захапляўся вучобаю. Нягледзячы на гэта, яго прынялі ў семінарыю ў Бергама. Пра святарства Джузэпэ думаў з дзяцінства: марыў стаць вясковым пробашчам. Вывучэнне тэалогіі працягваў у рымскай семінарыі імя св. Апалінарыя, абраўшы дадаткова спецыялізацыю па гісторыі Касцёла. Праз дзень пасля прэзбітэрскага пасвячэння, якое было ў 1904 г., стоячы на каленях перад папам Піем X, кс. Джузэпэ пачуў словы: «Жадаю, каб тваё святарства стала суцяшэннем для Божага Касцёла». «Хачу быць заўсёды добрым да ўсіх», — занатаваў аднойчы малады святар.

Калі праз некалькі дзён ён служыў прыміцыйную Імшу ў сваёй роднай вёсцы, хтосьці пажартаваў: «Цяпер ксёндз павінен пастарацца і стаць Папам Рымскім».

Аднак пакуль што малады святар стаў прэфектам у базыліцы св. Апалінарыя і аднačасова працягваў вучобу — на гэты раз яго цікавіла кананічнае права, але на пачатку 1905 г. Джакома Марыя Радзіні-Тэдэскі, новы біскуп Бергама, прызначыў яго сваім сакратаром. У хуткім часе 24-гадовы кс. Ранкалі таксама распачаў выкладаць у мясцовай семінарыі — спачатку гісторыю Касцёла, а пасля яшчэ апалагетыку і патрыстыку. Біскуп палюбіў сакратара як сына і з цягам часу ўсё больш далучаў яго да справаў кіравання дыяцэзіяй. Ён прызначыў кс. Джузэпэ галоўным рэдактарам «Дыяцэзіяльнага жыцця», пасылаў яго ў Францыю, Іспанію, Аўстра-Венгрыю, Святую Зямлю. Часам гэтыя паездкі мелі характар спецыяльных місій, якія выконваліся па даручэнні Апостальскай Сталіцы. Даклад кс. Ранкалі пасля вяртання з Люрда ў 1908 г. павінен быў спрычыніцца да больш добразычлівага стаўлення рымскіх курыялістаў да цудаў, якія там здзяйсняліся, і на шматлікіх пілігрымаў.

Першая сусветная вайна

азначала для Ранкалі вайсковую службу, хоць у войску ён адслужыў яшчэ клерыкам. Цяпер жа ён знаходзіўся на службе як святар у званні сержанта, пасля — паручніка, дапамагаў параненым у шпіталі.

Вярнуўшыся ў Бергама, кс. Джузэпэ не толькі выкладаў у семінарыі, дзе стаў духоўным айцом, але таксама займаўся моладдзю. Заўважыўшы яго таленты, Бэнэдыкт XV паставіў яго на чале італьянскай «Справы пашырэння веры». Менавіта кс. Джузэпэ па даручэнні Пія XI падрыхтаваў дэкрэт, згодна з якім мійсійныя справы атрымалі статус папскіх.

Новы стыль працы, поспех місійнай выставы, якую ён арганізаваў, а таксама ўнёсак у падрыхтоўку Святога Года (1925 г.) былі ацэненыя: кс. Ранкалі быў запрошаны працаваць у ватыканскай дыпламатыі.


Папа Ян XXIII.

**Папскі дыпламат**

Разам з прыняццем біскупскага пасвячэння ў 1925 г. і выездам у Балгарыю ў якасці апостальскага візітатара ў жыцці Джузэпэ Ранкалі пачаўся амаль 30-гадовы перыяд дыпламатычнай працы. Адначасова гэта быў перыяд знаёмства з хрысціянскім Усходам і пацяплення ў кантактах з праваслаўнаю іерархіяй. У праваслаўнай Балгарыі яму ўдалося адкрыць каталіцкую духоўную семінарыю і дабіцца прызнання дыпломаў каталіцкіх школаў. Аднак пасрэдніцтва кс. Ранкалі ў справе шлюбу цара Барыса з італьянскаю князёўнаю Джаванаю скончылася паражэннем.

Джузэпэ Ранкалі не забыўся, што ён не толькі пасланец Апостальскай Сталіцы, але перш за ўсё біскуп. Таму ён вывучаў мову краіны, у якой служыў, каб падчас наведвання мясцовых католікаў добра прамаўляць казанні. Ён з цікавасцю спазнаваў традыцыі гэтага народа і заўсёды спяшаўся з дапамогаю да бедных.

Праз дзесяць гадоў біскуп Ранкалі, пераведзены ў Грэцыю і Турцыю ў якасці апостальскага дэлегата, стаў апостальскім вікарыем у Стамбуле. Менавіта ён наладзіў добрыя адносіны паміж Каталіцкім Касцёлам і Экуменічным Патрыярхатам Канстанцінопаля.

У Грэцыі Джузэпэ Ранкалі дабіўся змякчэння прыніжальнага для католікаў закона супраць празелітызму. Калі выбухнула Другая сусветная вайна, арцыбіскуп Ранкалі дапамагаў бежанцам, пасрэднічаў у перасылцы ваеннапалонным лістоў ад родных, а перш за ўсё арганізоўваў дастаўку прадуктаў і лекаў для мноства галадаючых грэкаў.

Калі пасол Германіі хацеў праз яго пасрэдніцтва паўплываць на Пія XII, каб той духоўна падтрымаў Германскую імперыю, якая ваявала з СССР, арцыбіскуп з гневам запярэчыў: «А што з мільёнамі габрэяў, якіх вашыя землякі забіваюць у Польшчы і Германіі?». Ён асабіста выратаваў тысячы габрэйскіх дзяцей, якія ўцякалі з Еўропы, дзеля чаго змусіў турэцкую ўладу, каб яна дазволіла дзецям свабодна адплысці ў Палестыну.

Пад канец снежня 1944 г. арцыбіскуп Ранкалі быў пасланы ў Парыж у якасці нунцыя. Ён прымаў у сябе людзей рознай палітычнай арыентацыі, у тым ліку вядомых антыклерыкалаў, падтрымліваў стварэнне экуменічнай супольнасці ў Тэзэ, цікавіўся рухам святароў-рабочых.

Прызначаны кардыналам і патрыярхам Венецыі, ён прыняў кардынальскі берэт з рук прэзідэнта Венсана Арыёля ў Елісейскім палацы. Незадоўга да таго як Ранкалі выбралі Папам Рымскім, ён яшчэ вярнуўся ў Францыю, калі ў якасці легата Пія XII кансэкраваў у Люрдзе падземную базыліку св. Пія X.

...У Венецыі нярэдка можна было ўбачыць, як кардынал сядзіць у кавярні на пляцы св. Марка і гутарыць з жыхарамі горада. Ранкалі заўсёды хацеў кантактаваць з людзьмі непасрэдна, па-за ўрачыстымі абставінамі.

**Служэнне на пасадзе святога Пятра**

На трэці дзень канклава, скліканага пасля смерці Пія XII 28 кастрычніка 1958 г., кардынал Джузэпэ Ранкалі атрымаў неабходную колькасць галасоў і ва ўзросце амаль 77 гадоў быў выбраны Папам Рымскім, прыняўшы імя Ян XXIII.

Стаўшы біскупам Рыма, ён сумаваў па стасунках з простымі людзьмі. «Сёння раніцаю я прымаю кардыналаў, князёў, важных прадстаўнікоў улады. Але ў другой палове дня праведу некалькі хвілінаў са звычайнымі людзьмі, адзіным тытулам якіх з'яўляецца годнасць чалавечай асобы і дзіцяці Божага», — пісаў Ян XXIII.

Ужо на пачатку Пантыфіката ён заваяваў сэрцы людзей візітамі ў дзіцячы шпіталь і ў вязніцу, дзе суцяшаў асуджаных і распавядаў, як адзін з яго сваякоў быў арыштаваны за браканьерства.

Папскія абавязкі не змянілі яго схільнасці да жартаў. Падчас наведвання шпіталя Духа Святога рассеяная сястра настаяцельніца, знаёмячыся з ім, сказала: «Я настаяцельніца Духа Святога», на што Ян XXIII прамовіў: «Вы шчаслівая, сястра, бо я толькі вікарый Езуса Хрыста». Упершыню ўвайшоўшы ў свае ватыканскія апартаменты, Ян XXIII адчыніў акно і сказаў: «Пусцім трохі свежага паветра...».

Гэты жэст стаў сімвалам яго Пантыфікату. «Свежага паветра» для Касцёла Ян XXIII чакаў пасля Сабору, які распачаўся ў 1962 годзе. «Гэта быў нечаканы крок, сноп нябеснага святла», — прызнаўся ён у прамове падчас урачыстага адкрыцця Сабору. Праз гэты Сабор ён здзейсніў капернікаўскі пераварот у тэалогіі, увёўшы адрозніванне паміж нязменным дэпазітам веры і спосабам яе праяўлення, які неабходна дастасоўваць да кожнага часу. Такім дастасаваннем стала рашэнне адысці ў саборавых тэкстах ад асуджэння ўсялякіх поглядаў на карысць пераканаўчага выкладання веры.

Ён сыходзіў з меркавання, што прадстаўнікі Касцёла не могуць «замыкацца ў крэпасці», успрымаючы веру як прадмет кантэмпляцыі, схаваны, нібы скарб. Ад Сабору ён чакаў здування «імперскага пылу, які сабраўся на троне святога Пятра з часоў Канстанціна». Менавіта ён здолеў заўважыць маршчынкі на абліччы Касцёла. «Як прыкра, — гаварыў Ян XXIII італьянскім святарам, — жыць з некаторымі субратамі, якія ўвесь час гавораць толькі пра знешнюю форму святарскага служэння, якім цяжка выкараніць у сваіх сэрцах не заўсёды прыхаванае, нясціплае прагненне і шуканне авансаў ды адрозненняў, і якія прызвычаіліся маляваць усё цёмнымі фарбамі, заўчасна рыхтуючы сабе нудную і панурую старасць». Адкрытасць Святога Айца на палітыку краінаў камуністычнага блоку не заўсёды прымалася Рымскай Курыяй. Другою важнаю задумаю папы Яна XXIII было імкненне да еднасці хрысціянаў, таму на пасяджэнні Сабору ён запрасіў прадстаўнікоў іншых веравызнанняў у якасці назіральнікаў, якія хоць і не мелі права прымаць рашэнні, але маглі выказваць сваё меркаванне (вядома, што, напрыклад, браты Ражэ Шутц і Макс Турыян з Тэзэ зрабілі свой унёсак у канчатковы выгляд трох з шаснаццаці саборавых дакументаў).

Ідэя еднасці хрысціянаў была настолькі дарагою сэрцу Папы Рымскага, што перад смерцю ён паўтараў: «*Ut unum sint*» («*Каб усе былі адно...*»). Гэтую еднасць ён бачыў у традыцыйным сэнсе: хацеў, каб усе хрысціяне вярнуліся ў Каталіцкі Касцёл. З другога боку, ён прызнаваў віну католікаў ва ўзнікненні падзелаў, таму заахвочваў не сварыцца, а проста падаць адзін аднаму рукі ў знак паяднання.

«Гэты ложак — нібы алтар. На алтары ж трэба скласці ахвяру. Я гатовы», — гаварыў Святы Айцец падчас агоніі. «Лагоднасць, дабрыня, любоў», — такое пасланне ён пакінуў Касцёлу і свету ў сваім тэстамэнце. З верасня 2000 г. папа Ян Павел II абвясціў папу Яна XXIII благаслаўлёным. 5 ліпеня 2013 г. папа Францішак зрабіў выключэнне і выказаў згоду на кананізацыю Яна XXIII без неабходнага цуду аздараўлення праз яго заступніцтва. Ён улічыў цуд, зацверджаны для беатыфікацыі ў 2000 годзе.

*Павел Бяліньскі.*

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: «Idziemy», 40, 6 października 2013 г.*

*Калі мы хочам быць радыкальнымі ў сваім хрысціянстве,
то павінны знайсці праўду пра нас саміх,
прыняць яе і з гэтаю праўдаю запытацца ў Бога, куды нам ісці.*



## Адам Шустак OP

# ЧАРАПАХА І ПЕВЕНЬ

Вакол нас такая раўніна, быццам у гэтым месцы калісьці была прыдуманая форма зямлі, а навокал — толькі вінаграднікі і бясконцыя палі кукурузы. Сярод жоўта-залацістых сцяблінаў вырастаюць рымскія калоны. Бясконцыя палі рымскіх калонаў. Калісьці пасля Рыма, Мілана і Капуі гэта было чацвёртае месца імперыі, а сёння шматлюднае культурнае мястэчка — Аквілея. Калі шукаць хрысціянскія крыніцы і пачаткі, то месца, на якое варта звярнуць увагу, — гэта першая хрысціянская базыліка, гісторыя якой звязана з рэальнымі падзеямі IV стагоддзя, а дакладней — звярнуць увагу на мазаічную падлогу. Такім чынам, кірунак для пошуку вызначаны: толькі нахіліўшы пакорна галаву, тут можна штосьці знайсці. Пад нагамі цудоўная, самая вялікая на Захадзе, мазаіка з такімі пярлінамі, напрыклад, як лангуст на пальме. Ёсць таксама сцэна бойкі паміж пеўнем і чарапахаю — аднаго з найстаражытнейшых хрысціянскіх вобразаў радыкалізму веры. На чый бок адразу хочацца стаць? Добрай, лагоднай, нікому не вядомай чарапахі або ганарыстага, задзірыстага пеўня? Хто з іх лепш адлюстроўвае хрысціянства ў барацьбе дабра са злом?

**Радыкальны час**

Сёння паўсюль відаць, што Касцёл адыходзіць на другі план. Ён перастаў быць паўсюдна і масава прынятаю рэальнасцю, усё часцей ён займае пазіцыю абароны або, наадварот, вымушаны капітуляваць. Пераслед хрысціянаў у розных кутках свету набірае нябачную да гэтага часу сілу: нават у тых краінах, якія да гэтага часу асацыяваліся з хрысціянскаю вераю, хрысціянства становіцца выклікам для адважных. Усё часцей гаворыцца пра тое, што Касцёл або стане радыкальным, або перастане існаваць. Калі

---

**Адам Шустак** — айцец дамініканін (з 1999 г.), пастыр студэнтаў у Кракаве, аўтар кніг «Евангелле для ненармальных», «Асёл у раі», «Зачараваныя Богам» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе. Вызначыўся сваімі цікавымі казаннямі, рэкалекцыямі, канферэнцыямі і лекцыямі, тэмаю якіх з’яўляецца адна і тая ж гісторыя — Добрая Навіна. Пра сябе ён сказаў: «Харызма майго паклікання найбольш поўна адлюстроўваецца ў словах: “Абвяшчайце Евангелле ўсім, усюды і рознымі спосабамі. <...> Маім домам можа быць кожнае месца, дзе можна абвяшчаць Евангелле”».

так, то чым у такім выпадку з'яўляецца радыкалізм веры? Ці павінны мы як хрысціяне пакінуць наш стабільны свет і жыць, як маці Тэрэза або Шарль дэ Фуко? Ці, можа, нам трэба паехаць у краіны, дзе пераследуецца хрысціянства, і там мужна вызнаваць веру? А можа, на нашым уласным падворку радыкалізмам з'яўляюцца абаронцы крыжа <...>, якія спрабуюць захаваць нашу культуру і грамадскае жыццё ад поўнай секулярызацыі? Можа, гэта новыя евангельскія рухі, якія шукаюць спосабы для сучаснай перадачы дэпазіту веры?

Каб знайсці адказ на пытанне, чым з'яўляецца хрысціянскі радыкалізм, найлепш правесці паралель з Божым словам. Давайце зазірнем у кнігу прарока Ёны, якая, безумоўна, з'яўляецца адным з самых лепшых адказаў на пытанне пра радыкалізм. Напэўна, сама гісторыя з кнігі нам добра вядомая, але паспрабуем пашукаць глыбей, паспрабуем знайсці ў ёй апісанне пэўнага шляху, якім ідзе кожны хрысціянін.

**Заклік**

*«Скіраваў Пан слова да Ёны, сына Аміта: ”Устань, ідзі ў Ніневу, вялікі горад, і прапаведуй ім, бо дайшло да Мяне зло іхняе”. Але Ёна ўстаў, каб збегчы ад абліча Пана ў Тарсіс. Спусціўся да Яфы і знайшоў карабель, які плыў у Тарсіс, і, заплаціўшы за сябе, сеў на карабель, каб паплысці ад абліча Пана разам з імі ў Тарсіс»* (Ён 1, 1–3).

Перад намі Ёна, сын Аміта, якому Пан даручае місію наварнаць жыхароў Ніневы, але ён замест таго, каб выканаць атрыманае заданне, выбірае зусім іншы кірунак і на караблі ўцякае ў Тарсіс. У гэтай простай інфармацыі ўкрыта незвычайная форма значэнняў. Ёна — па-габрэйску значыць *голуб*, такім чынам маем прарока-голуба, які высока лётае ў нябеснай прасторы. Чалавека лагоднага, маральна беззаганнага, які вядзе ўпарадкаванае жыццё. Вобраз голуба таксама асацыюецца з біблійнай сімволікай Духа Святога. Магчыма, Ёна таксама чалавек харызматычны, адораны шматлікімі духоўнымі дарамі, карацей кажучы, глыбока адухоўлены чалавек. Ён — сын Аміта, гэта значыць праўды, яго жыццё асвячае праўда, з яе ён нарадзіўся, яна яго вядзе, і яе ён наследуе. Варта заўважыць, з якой вяршыні стартуе наш прарок — лепш немагчыма! І гэта настолькі важна, што праз некаторы час, з нябеснай вышыні, па якой лунае, ён будзе ўкінуты ў марскія глыбіні, у чэрава вялікай рыбы, а дакладней, у месца, аддаленае ад неба.

Звернем таксама ўвагу на дзве мясцовасці, якія вызначаюць геаграфічны далягляд гэтай гісторыі. Ніневa — горад на старажытным Усходзе. На Усходзе знаходзіўся таксама Эдэм, размешчаны даволі блізка ад раю, блізкі да месца прабывання Бога. Назва гэтага горада тлумачыцца як прарастанне ледзьве прабіўшайся з зямлі расліны — даволі слабай, безабароннай, яшчэ несфармаванай. У сваю чаргу Тарсіс — назва аднаго з каштоўных камянёў — хрызаліта, вельмі прыгожага залаціста-бурштынавага колеру. Гэты камень быў устаўлены ў пярсцёнак архісвятара і з'яўляўся сімвалам годнасці, багацця, значнасці, бляску.

У гэтых некалькіх сказах апісана ўсё пытанне хрысціянскага радыкалізму і таго, як да яго падыходзіць. Радыкалізм не праяўляецца ў сферы спосабу жыцця, яго ўмоваў, нават найбольш экстрэмальных. Радыкалізм не праяўляецца таксама ў сферы каштоўнасцяў і іх грамадскага супрацьстаяння або барацьбы за іх. Радыкалізм не праяўляецца таксама ў сферы сведчання іншых пра нашу веру, нават калі ў гульню мужна ўваходзіць вызнаванне веры, якім з'яўляецца мучаніцтва. Затое радыкалізм праяўляецца ў сферы нашага адказу на Божую волю. Да кожнага з нас, без выключэння, Бог выходзіць з прапановаю або, хутчэй, з пастаяннымі прапановамі, якія павінны скіраваць нашае жыццё на самы лепшы шлях. Некаторыя з гэтых прапановаў датычаць самых важных справаў, што даюць кірунак усяму нашаму існаванню, некаторыя датычаць штодзённых і асаблівых. Поўны хрысціянскі радыкалізм — гэта такое прыслухоўванне да волі Бога, якое абсалютна і цалкам робіць усё залежным ад Яго рашэння і натхнення. Перш чым разважаць пра тое, якое значэнне мае хрысціянскі радыкалізм, трэба разгледзець блізкую нам сітуацыю, або адмову выконваць Божую волю.

**Уяўны радыкалізм**

*«Але Пан падняў на моры моцны вецер. І ўзнялася вялікая бура на моры, і ўжо думалі, што карабель разаб'ецца. Спалохаліся маракі і заклікалі кожны свайго бога, і пачалі выкідваць у мора рэчы, якія былі на караблі, каб аблегчыць яго. Ёна ж спусціўся ўнутр карабля, лёг і заснуў.*

*Прыйшоў да яго кіраўнік маракоў і сказаў яму: “Чаму ты спіш? Устань, пакліч Бога свайго; можа, Бог успомніць пра нас, і мы не загінем”»* (Ён 1, 4–6).

Сітуацыя прарока Ёны вельмі блізкая большасці з нас. Папершае, Ёна не проста нахабна і цалкам ігнаруе Божую волю. Трэба заўважыць, што ён атрымлівае ад Бога два даручэнні: «устань і ідзі». Першае даручэнне выконваецца ім дакладна і верна — устае. Другое таксама выконваецца, але ўжо па-свойму, бо ён сапраўды ідзе, але не туды, куды накіроўваецца. З гэтым можна вельмі хутка разабрацца. У асноўным большасць хрысціянаў паслухмяная Богу, згаджаецца з многімі Яго прапановамі або кірункамі. Але існуе яшчэ і такая сфера нашага жыцця, у якой Божую волю мы ўспрымаем па-свойму, паводле нашага, безумоўна, лепшага разумення. Адбываецца гэтак таму, што кожны з нас мае свой уласны Тарсіс, або найпрыгажэйшае месца, найбольш жаданую мару, тую жыццёвую сцежку, на якой, здаецца, мы будзем ззяць, як зоркі, будзем шчаслівымі. Калі Бог прапануе нам пайсці ў Ніневу, або месца недасканалае, дзе невядома, ці ўвогуле што-небудзь «вырасце», нам здаецца, што гэта ніжэй за нашыя чаканні. Нам здаецца, што мы вартыя большага. Самаю вялікаю драмаю становіцца ўласнае перакананне, і так насамрэч ёсць — усе мы тут з’яўляемся сынамі Аміта, бо перакананыя ў тым, што наш погляд на рэчаіснасць бездакорна праўдзівы. Часта мы апранаем гэта ў вопратку духоўнасці, харызматычнасці нашага паклікання. І ідзем дакладна ў адваротным кірунку, а не туды, куды хацеў Бог.

Тады ўзнімаецца бура. Што робіць чалавек?

Цудоўны прыклад паказваюць маракі, якія выкідаюць з карабля рэчы, каб ратавацца. Гэта ўсё спробы радыкальнага хрысціянскага жыцця, якія ўсяго толькі ўяўныя. Мы спрабуем узяць на сябе розныя абавязкі: буду больш маліцца, буду пасціць, буду распавядаць пра Езуса на занятках, паеду на місіі. Карацей кажучы, змяню свой стыль жыцця на больш евангельскі. Праблема заключаецца ў тым, што мы зусім не запыталіся ў Бога, ці хоча Ён гэтага. Выкананне розных, нават найцудоўнейшых, абавязкаў не азначае змены мыслення, паслухмянасці Богу. Ёна спіць на караблі, не думае, не разважае пра Божы заклік, не спрабуе нават спазнаць праўду, бо спіць. Ён пазбягае размовы з Богам, бо мае свой Тарсіс і там мае свайго Бога. Часам упартасць у гэтым уцёку настолькі вялікая, што чалавек павінен скончыць яго на дне. Даслоўна. Ёна ўкідваецца ў мора.

**Радыкальная змена**

*«Пан паслаў вялікую рыбу, праглынуць Ёну. І быў Ёна ўнутры рыбы тры дні і тры ночы. З сярэдзіны рыбы маліўся Ёна да свайго Пана Бога»* (пар. Ён 2, 1–2).

Тры дні, праведзеныя ва ўлонні рыбы, — гэта вобраз рэальнай сустрэчы Ёны з самім сабою і з Богам. Ёна вяртаецца ва ўлонне, або шукае пачатак, шукае месца, з якога выйшаў, хоча ўрэшце знайсці праўду пра тое, кім ён ёсць.

У біблійнай сімволіцы тры дні — гэта час, патрэбны для поўнай перамены чалавека. Так было ў гробе з Хрыстом, які на працягу трох дзён цалкам змяніў сваю чалавечнасць, абагавіў яе. Прарок, як голуб, што лунае высока ў небе, следуючы за сваімі ўласнымі жаданнямі, упаў на дно. Ідучы ў свой Тарсіс да вяршыні шчасця, ён трапіў у бездань ва ўлонні рыбы.

Якая самая важная змена адбываецца ў Ёну? Якую праўду ён павінен знайсці? Вельмі люблю ўяўляць Ёну, выкінутага рыбаю на сушу: ссінелага, зморшчанага, аблепленага слінаю, змерзлага, з водарасцямі па ўсім целе і, напэўна, са слімаком на галаве, які знайшоў для сябе зручнае жытло. Менавіта такім Ёна пайшоў у Ніневу. У такім выглядзе блазан ішоў тры дні (тры!!!) і абвяшчаў Евангелле. Магчыма, раней Ёна не хацеў ісці ў Ніневу, як памятаем, ён звычайна пагарджаў гарадамі, якія толькі пачыналі развівацца і жыхарамі якіх былі прастакі. Ёна хацеў быць у Тарсісе і быць «ззяючаю зоркаю» на духоўным фундаменце Касцёла. А як выглядае ён цяпер? Прарок-голуб са слімаком на галаве! І гэта найважнейшая перамена, якая адбылася з Ёнам. Ён спазнаў праўду пра сябе, заняў адпаведную пазіцыю адносна Бога і людзей. Менавіта гэта і ёсць радыкалізм! Калі мы хочам быць радыкальнымі ў сваім хрысціянстве, то павінны знайсці праўду пра нас саміх, прыняць яе і ў такой праўдзе запытаць Бога, куды павінны ісці. І выканаць Яго волю, нават калі яна здаецца нам самаю абсурднаю думкаю свету. Такі радыкалізм нашмат больш патрабавальны і цяжкі, чым змена стылю жыцця або барацьба за каштоўнасці,

якімі валодае грамадства. Такі праўдзівы і паслухмяны Богу Ёна — без аніякага атрыбуту прамаўляючага пра яго пазіцыю прарока, высмеяны і пагарджаны — навяртае ўвесь язычніцкі горад і нават, як гаворыцца ў святой Кнізе, схіляе да навяртання свіней і кароваў. Гэта сапраўдны подзвіг!

**Пастаянны радыкалізм**

*«Ёна выйшаў з горада, сеў на ўсходнім баку горада і зрабіў там сабе будан, і сеў пад ім у цені, каб убачыць, што будзе адбывацца ў горадзе. А Пан Бог узгадаваў расліну, якая ўзнялася над Ёнам, каб быць ценем над ягонай галавою і абараняць яго ад нядолі ягонай. І ўсцешыўся вельмі Ёна гэтай расліне. На наступны дзень на самым світанні Бог учыніў так, што чарвяк падтачыў расліну, і яна засохла.*

*А калі ўзышло сонца, Бог паслаў гарачы ўсходні вецер. Сонца стала пячы ў галаву Ёны, і ён знямог, і прасіў для сябе смерці, кажучы: "Лепш мне памерці, чым жыць".*

*І сказаў Бог Ёну: "Ці добра робіш, што абураешся з-за расліны?" А той адказаў: "Я моцна абураюся, ажно да смерці". І сказаў Пан: "Ты шкадуеш расліну, дзеля якой ты не працаваў і якой не вырошчваў, якая за адну ноч вырасла і за адну ноч загінула. Ці ж і Я не пашкадую Ніневу, гэты вялікі горад, у якім больш за сто дваццаць тысяч чалавек, якія не могуць адрозніць правай рукі сваёй ад левай, і ў якім мноства жывёлы?"»* (Ён 4, 5–11).

Гэта гісторыя яшчэ не заканчваецца. Пасля навяртання ніневіцянаў, пасля радыкальнай перамены свайго жыцця і мыслення, Ёна спыняецца пад кустом клешчавіны, які з'ядае малады чарвяк, і адбірае ў яго абарону ад сонца. І, на жаль, прарок-голуб хутка вяртаецца да свайго ранейшага эгаістычнага, усёведнага спосабу мыслення. Бог будзе вымушаны ў чарговы раз вучыць яго яшчэ адной праўдзе: спосабу любові. Радыкалізм — гэта не адзін жыццёвы выбар, які назаўсёды застаецца актуальным. Хоць такі адзін радыкальны пералом патрэбны большасці з нас для таго, каб выйсці на адпаведны жыццёвы шлях. Радыкалізм — гэта пастаянны ўваход у праўду пра сябе і новы пошук Божай волі. Буры, праз якія мы будзем праходзіць у гэтай перамене, з кожным разам будуць больш лагодныя (спачатку Ёну пагражала смерць у моры, цяпер ужо толькі дыскамфорт ад прыпякання галавы сонцам). Але пакуль у нас ёсць хоць крыху ранейшага чалавека, Бог рознымі спосабамі будзе правакаваць нас змяніцца і перайсці на больш высокі ўзровень.

Як далей склаўся лёс Ёны? Невядома, але крыху зменаў, напэўна, чакала яго наперадзе. Напрыклад, школа будавання адносінаў з людзьмі — ва ўсёй кнізе няма ніводнай згадкі пра сяброўства прарока з кім-небудзь.

Такое разуменне радыкалізму не з'яўляецца адным з жыццёвых правілаў, а таксама выбарам для некаторых, хто паклікаsuccessful да больш важных заданняў. Наадварот, радыкалізм становіцца выбарам кожнага паміж «жыць» або «не жыць».

Радыкалізм таксама вельмі патрэбны Богу (наколькі ўвогуле можна так гаварыць пра яго). Без Ёны і яго радыкальнай змены план навяртання язычнікаў не даў бы выніку. Калі мы не будзем паслухмяныя Божай задуме, якая з'яўляецца найлепшаю сцежкаю для нас, можам дайсці да знішчэння і завесці туды іншых людзей. А што калі нам удасца дасягнуць нашага Тарсіса і адваротнага шляху ўжо не будзе? Калі мы не адважымся скочыць у глыбіню мора? Аж страшна падумаць!

**Чакаць світання**

Раней хрысціянства, гледзячы на мазаіку ў Аквілеі, заўсёды стаяла на пазіцыі пеўня. І не таму, што ён галасісты, задзірысты і гучна заяўляе пра сябе. Хрысціянства бачыла сябе ў пеўні, бо той усю ноч чувае, чакаючы ўзыходу сонца, каб, убачыўшы яго з'яўленне, абвясціць пра гэта свету. Гэта вобраз чалавека, які ўглядаецца ў Бога і Яго волю, які ў Ім мае сваю надзею, а не спадзяецца на сваю сілу і чакае Яго прыйсця. Чарапаха ж з'яўляецца сімвалам замкнёнасці ў сабе, цяжкага панцыра, ускладняючага следаванне за Богам, санлівасці і абыякавасці — яна падобная да Ёны, які спаў на караблі па дарозе ў Тарсіс.

Сёння Касцёл сапраўды патрабуе радыкальных хрысціянаў, але радыкальных у пошуках Божай волі і выкананні яе, куды б яна ні завяла нас і чаго гэта ні каштавала б.

*Пераклад з польскай мовы Іны Ламакі.*

*Паводле: «W drodze», 11, 2011.*

Марына Пашук

# ТЭАФАРЫЧНЫ ЭЛЕМЕНТ אֵל (*'ēl*) У КНІГАХ БІБЛІІ

Напэўна, сёння не знойдзецца такога чалавека, які б не ведаў, што такое Біблія. Але, напэўна, знойдзецца вельмі шмат тых, хто сустракаецца з цяжкасцямі пры знаёмстве з яе тэкстам. Адной з такіх цяжкасцяў з'яўляецца вялікая колькасць незразумелых нам словаў.

Пры чытанні Бібліі мы нібы дакранаемся да далёкага мінулага, да пачаткаў веры ў адзінага Бога. Яна ўводзіць нас у гісторыю і культуру таго часу, менталітэт далёкіх нам людзей. Звычаі, паводзіны, спосабы камунікацыі — усё гэта мы знаходзім на яе старонках. Безліч постацяў, імёнаў, тапонімаў... Мы з цяжкасцю іх успрымаем, бо яны для нас, так бы мовіць, чужыя, з іншага свету культуры. Таму і здаюцца незвычайнымі, незразумелымі, нейкімі экзатычнымі. Аднак, калі заглыбіцца ў іх паходжанне, усё стане больш празрыстым, зразумелым і нават прыгожым. І чытанне Бібліі ператворыцца ў асалоду ад таго, што мы прарваліся ў мінулае праз вялікую раку стагоддзяў.

Асобную групу сярод такіх словаў ствараюць гэтак званыя тэафарычныя імёны і тапонімы. І адным з такіх тэафорных элементаў у тэксце Бібліі з'яўляецца אֵל (*'el*)[1].

Паводле граматыкі, слова *'el* першапачаткова з'яўлялася імем уласным і толькі з цягам часу паступова пачало набываць абстрактны характар, азначаючы боства ўвогуле, нейкую дэманічную сілу, анёлаў і нават грошы, што ў сваю чаргу таксама адлюстроўвае Біблія.

*Эль ('el)* — гэта габрэйская форма агульнасеміцкага азначэння боства, альбо бога, і быць можа, яна азначала «моц», «сілу» і адпаведна самага «Моцнага», «Магутнага», «Дужага». Габрэі ўжывалі слова *'el* для азначэння свайго Бога: «Эль айцоў нашых» — Бог айцоў нашых, «Эль Абрагама» — Бог Абрагама, «Эль Ісаака» — Бог Ісаака, «Эль Якуба» — Бог Якуба, «Эль Нахора» — Бог Нахора (Быц 28, 13; 31, 53; 32, 10; Зых 3, 13. 15. 16)[2]. Так называлі таго Бога, з якім іх продкі заключылі запавет.

Выраз *'el* як азначэнне Бога паходзіць з рэлігіі старажытных жыхароў Канаана, куды перавандраваў з Месапатаміі Абрагам. Сёння гэтая рэлігія вядомая дзякуючы ўгарыцкім міфалагічным тэкстам, запісаным на табліцах рознага фармату, адкрытым у 1930–1931 гг. у бібліятэцы галоўнага жраца, недалёка ад святыні Бааля.

Паводле гэтых тэкстаў, канаанскім Алімпам была гара Сафон[3], што ўзносіцца на поўначы Сірыі, а на чале канаанскага пантэону стаяў *'el*[4]. Яго называлі «тварцом сусвету», «каралём», «боскім быком», «добрым і ласкавым». Яму аднаму належала панаванне ў поўным значэнні гэтага слова. Ён быў тым, хто дзяліў паміж людзьмі каралеўствы. Жыў ён у бясконцай далі, сярод тысячы палёў і раўнінаў, ля крыніцы дзвюх рэк, сярод прорвы вялікай глыбіні. Эль знаходзіўся па-над моцамі хаосу, на пачатку справы стварэння. Хоць дагэтуль не было знойдзена ніводнага міфа пра стварэнне людзей, аднак з выразу *abu-adami* (айцец людзей) вынікае, што чалавек – гэта таксама яго твор. Увесь космас, багі і людзі маюць свой пачатак у богу Эль. Яны спачываюць у ім, а Ён узносіцца над бязладдзем і космасам. Эль – гэта дастойны айцец і кароль багоў і людзей. У культуры Канаана, як і ў іншых семіцкіх культурах, гэтае імя стала галоўнай назвай найвышэйшага бога, які жыве ў палацах, акружаны хорамі іншых бостваў. Эль не той бог, які павінен супрацьстаяць сілам хаосу: ён дабрадушны, паважаны і адначасова велічны, упэўнены ў сабе і ў сваім валадарстве валадар. Дакуль ён будзе прабываць там, датуль будзе трываць уста-

**Марына Пашук** – супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993) і Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998).

ноўленая ім структура свету. Толькі ў межах гэтай структуры існуе свет вышні і падземны, свет новага жыцця і свет, звязаны са смерцю. Аднак усемагутнасць бога Эль абмяжоўвалася існаваннем у канаанскім пантэоне іншых магутных боставаў[5].

Гэтаму ўсемагутнаму, ласкаваму і добраму Эль (богу), мудраму і вечнаму[6], а таму з сівой барадой[7], прыпісвалася яшчэ і міласэрнасць. Як найвышэйшы Суддзя, ён лічыўся абаронцам справядлівасці, міласэрнасці, гасціннасці і звычаяў. Меў рысы, якія чалавек павінен быў старацца набыць, таму канаанскія каралі, якія кіравалі рэлігійнымі абрадамі ў сваіх гарадах-дзяржавах, мелі абавязак як прадстаўнікі боскай волі на зямлі быць справядлівымі і міласэрнымі да безабаронных і калекаў. Больш за тое, гэтыя каралі выконвалі прадпісаныя абрады для таго, каб атрымаць прабачэнне за грахі і правіны людзей. Адным з самых важных элементаў спадчыны Ізраэля пасля канаанцаў былі рэлігійныя і маральныя канцэпцыі караля. Патрабаванне маральнай чыстасці ад людзей было вынікам прыпісвання гэтай якасці богу Эль. У выніку канаанцы апынуліся ў той групе чалавецтва, якая жыла перакананнем, што маральнасць — гэта вытворная ад рэлігіі і існуе толькі дзякуючы рэлігійным перакананням. Нягледзячы на тое, што гэтая канцэпцыя сустрэлася з апазіцыяй, яна ўвайшла ў агульную спадчыну габрэяў і хрысціянаў, усяго неязычніцкага і постязычніцкага Захаду.

Калі намады[8] навязалі больш цесны кантакт з аседлым насельніцтвам, у канаанскіх санктуарыях яны знайшлі розныя імёны боставаў, якія перавандравалі і ў Біблію: *El Eljon* — «Бог Найвышэйшы, вельмі высокі» (Быц 14, 1), *El Roj* — «Бог мяне бачыць» (Быц 16, 13), *El Olam* — «Бог вечнасці» (Быц 21, 33), *El Betel* — «Бог санктуарыя Бэтэль» і *El Šaddaj*[9] — «Бог Усемагутны» (Быц 17,1). Так «Бог айца» рэлігіі Ізраэля быў злучаны з богам людзей, з якімі намады жылі ў блізкім суседстве. У выніку гэты канаанскі бог разам са сваім пантэонам паўплываў на фарміраванне рэлігійных канцэпцый у Ізраэлі. Нават пасля доўгага часу аўтары Бібліі памяталі, што шанавалі яго ў Геброне і, магчыма, у ваколіцах Мамрэ як *Эль Шаддая* («Пана раўнін, палёў і стэпаў», акрэсленне вельмі паэтычнае, магчыма, акадыйскага паходжання), шанавалі яго таксама ў Бэтэль пад іменем *Эль Бэтэль*[10] («Бог з Божага дома», праўдападобна, што гэтае імя таксама акадыйскага паходжання), у Бээр Шэбе як *Эль Оляма*[11] («Бога Вечнага»); у Кадэш-Барнэа яго называлі *Эль Роі*[12] («Бог бачыць мяне»), а ў Ерузалеме — *Эль Эліён*[13] («Бог Найвышэйшы»), у Сіхеме шанавалі як *Эль Бэрīта*[14] (Бога Запавету). Самім патрыярхам Абрагаму і Якубу Бог адкрываецца як *Эль Шаддай*[15] — «Бог Усемагутны» і *Эль Олям*[16] — «Бог вечны».

Нават у скрутках Мёртвага мора — *’el* (אֵל) як назва Бога Выбранага народу сустракаецца 667 разоў як сінанімічнае для *’adonay* і YHWH. Асабліва замяняўся тэтраграматон YHWH.

Гэтае ж найменне Бога памяталі таксама і ў часы Новага Запавету, пра што сведчаць хоць бы нават словы Езуса, сказаныя на Кальварыі: «*Элі*[17]*, Элі, лема сабахтані*» (Мц 27, 46; Мк 15, 34).

Значэнне *Эль* у ранняй ізраэльскай рэлігіі становіцца відавочным, калі ўспомніць складаную форму імя *Ізраэль*. Ды і ўвогуле *’el* стала складовай часткай многіх біблійных імёнаў і тапонімаў.

Так, імя першага сына Абрагама, народжанага ад Агар, — Ізмаэль, — азначае «Бог чуе». Нават сама Біблія тлумачыць яго: «*І яшчэ сказаў ёй [Агар] анёл Пана: “Вось ты цяжарная і народзіш сына, і назавеш яго Ізмаэль*[18]*, таму што пачуў Пан пра нядолю тваю”*».

Якуб, падступна здабыўшы благаслаўленне першароднага, быў вымушаны ўцякаць ад свайго старэйшага брата Эзава ў Харан. Затрымаўшыся на начлег, ён бачыць у сне драбіну, што лучыць неба з зямлёю. Абудзіўшыся, ён усклікае: «*Гэта нішто іншае, як дом Бога і брама неба*» (Быц 28, 17). І называе гэтае месца Бэтэль[19] (дом Бога).

Чаму сын Ісаака Якуб стаў Ізраэлем, што азначае «Бог змагаецца», таксама тлумачыць Біблія: «*Адгэтуль не будзеш звацца Якубам, але Ізраэлем*[20]*, бо ты змагаўся з Богам і людзьмі і перамог!*». Месца ж змагання з Божым анёлам Якуб-Ізраэль называе Пэнуэль[21], што значыць «Божае аблічча», бо казаў: «*Я бачыў Бога тварам у твар і застаўся жывым*».

Ганна, жонка Элкана, будучы бяздзетнаю, горача вымольвае ў Бога сына, а калі той нараджаецца, яна дае яму імя Самуэль[22], што азначае «Бог выслухаў», бо казала: «*Я выпрасіла яго ў Пана*».

Імёны многіх прарокаў таксама маюць тэафорны элемент. Так, першы прарок паўночнага валадарства — Ізраэля, які змагаўся з прарокамі Баала, называўся Элія[23], што значыць «маім Богам ёсць Ягвэ». Імя ж ягонага наступніка — Элісей[24] (Бог выбавіў). Тэафарычнымі таксама з’яўляюцца імёны двух вялікіх прарокаў Ізраэля: Даніэль[25] (Бог мой суддзя) і Эзэхіэль[26] (Бог моцны, Бог робіць моцным). Тое ж можна сказаць пра аднаго з прарокаў суднага дня — Ёэля[27]. Яго імя азначае «Ягвэ ёсць Богам».

У звароце прарока Ісаі да караля Ахаба, які не хацеў турбаваць Бога, каб раіцца з Ім, ёсць прадказанне прарока, што ў такім разе Бог сам дасць

каралю знак, каб той не заключаў ніякіх дамоваў са сваімі патэнцыяльнымі ворагамі, бо сам Бог будзе з ім і народам: «*Вось Дзева зачне і народзіць Сына, і дасць Яму імя Эммануэль*[28]», што значыць «Бог з намі».

Імёны трох арханёлаў з хрысціянскай традыцыі таксама тэафарычныя. Гэта Габрыэль[29] (маёй моцаю ёсць Бог), Міхаэль[30] (хто ж як Бог), Рафаэль[31] (Бог аздаравіў).

Як бачым, у старажытным Ізраэлі культ бога Эль быў шырока распаўсюджаным, асабліва на тэрыторыі Сіра-Палестыны. Таму Эль ушаноўваўся на Святой Зямлі з даўніх часоў. Біблія кажа пра многія мясцовыя маніфестацыі бога Эль: каля студні Лахай-Роі Агар сустракае *Эль Роі* — Бога, які бачыць (Быц 16, 7-14). У Бээр-Шэбе Абрагам ушаноўвае *Эль Оляма* — Бога вечнага (Быц 21, 33). Імя *Эль Эліён* — Бог Найвышэйшы, лучылі з Ерузалемам (Быц 14, 18-20). Якубу ж аб'явіўся *Эль Бэтэль* — Бог [з] Бэтэль у *Бэтэль* — у доме Бога (Быц 35, 7). *Эль Бэрiт* — Бог Запавету, быў звязаны з Сіхемам (Суд 9, 46). Амаль усе гэтыя мясцовыя аб'яўленні бога Эль сягаюць даізраэльскіх часоў — да XIII ст. да нар. Хрыста. Пасля пасялення ў Канаане Ізраэль адаптаваў пашану, якую канаанцы аддавалі Эль. Таму да з'яднанага каралеўства імя Бога — *'el* — было ў два разы больш распаўсюджаным элементам у імёнах, чым тэтраграматон *YHWH*, але пасля бабілёнскага выгнання тэтраграматон стаў у чатыры разы больш папулярным элементам, чым *'el*. Для натхнёных аўтараў Бібліі, якія размаўлялі на габрэйскай мове, словы, утвораныя ад *'el* сталі ўніверсальнымі паняццямі з самай шырокай сферай выкарыстання. У самой жа Бібліі слова *'el* і вытворныя ад яго ўжываюцца больш за дзве тысячы разоў, у тым ліку асабістыя імёны, утвораныя ад *'el*[32].

Як бачым, усе словы з тэафорным элементам *'el*, у тым ліку ўласныя імёны і тапонімы, з'яўляюцца водгукам першаснага азначэння ізраэльцянамі Бога як Эль, звязанага з рэлігіяй Канаана. Таму вельмі слушна, калі мовы перакладу захоўваюць у біблійным тэксце гэтую адметную асаблівасць, што дапамагае нам у лепшым і больш правільным разуменні тэксту гэтай натхнёнай Кнігі, якая з'яўляецца крыніцай і падставай нашай веры.

---

[1] Далей у тэксце אֵל для зручнасці будзе падавацца ў гэтай спрошчанай транскрыпцыі.
[2] Ва ўсіх гэтых тэкстах ужыты множны лік ад габр. אֵל (*'el*) – אֱלֹהִים (*'ĕlōhîm*).
[3] Габр. Цафон.
[4] У канаанскім пантэоне Эль выступае як уласнае імя.
[5] На другім месцы пасля яго быў ягоны сын – Бааль.
[6] Гэтымі рысамі ў рэлігіі Ізраэля будзе вызначацца Ягвэ.
[7] Пар. Дан 7, 9-14.
[8] Так называлася племя семітаў-качэўнікаў, з якога паходзіў Абрагам.
[9] Пазней *El Šaddaj* будзе названы Ягвэ.
[10] Габр. אֵל בֵּית־אֵל (*'ēl bêṯ-'ēl*) (Быц 35, 7).
[11] Габр. אֵל עוֹלָם (*'ēl 'ôlām*) (Быц 21, 33).
[12] Габр. אֵל רֳאִי (*'ēl rŏ'î*) (Быц 16, 13).
[13] Габр. אֵל עֶלְיוֹן (*'ēl 'elyôn*) (Быц 14, 18-22).
[14] Габр. אֵל בְּרִית (*'ēl bərîṯ*) (Суд 9, 46)
[15] Габр. אֵל שַׁדַּי (*'ēl šadday*) (Быц 17, 1; 28, 3). Пазней *'ēl šadday* будзе названы Ягвэ (той, які ёсць; ёсць, каторы ёсць).
[16] Габр. אֵל עוֹלָם (*'ēl 'ôlām*) (Быц 21, 33).
[17] Габр. אֵלִי (Элі) складаецца са слова *'el* (אֵל) Бог і асабовага суфікса 1 ас. адз. л., які ўказвае на прыналежнасць (мой). Адсюль пераклад: Божа мой, Божа мой, чаму Ты мяне пакінуў?
[18] Габр. יִשְׁמָעֵאל (*yišmā' ē'l*) (Быц 16, 11).
[19] Габр. בֵּית־אֵל (*bêṯ-'ēl*) (Быц 28, 19).
[20] Габр. יִשְׂרָאֵל (*yiśrā'ēl*) (Быц 32, 29).
[21] Габр. פְּנִיאֵל (*pənî'ēl*) (Быц 32, 31).
[22] Габр. שְׁמוּאֵל (*šəmû'ēl*) (1 Сам 1, 20).
[23] У беларускіх перакладах гэта Ілля. Габр. אֵלִיָּהוּ (*'ēliyyā́hû*) (1 Вал 17, 1). Тэафорны элемент *'el* стаіць тут у пачатку слова.
[24] У беларускіх перакладах гэта Елісей. Толькі ў Бібліі пад рэд. Ж. Некрашэвіч-Кароткай яно падаецца як Элісей. Габр. אֱלִישָׁע (*'ĕlîšā*) (1 Вал 19,16 ).
[25] Габр. דָּנִיֵּאל (*dāniyyē'l*) (Дан 1, 6).
[26] Габр. יְחֶזְקֵאל (*yəḥezqē'l*) (Эзх 1, 3).
[27] Габр. יוֹאֵל (*yô'ēl*) (Ёэл 1, 1).
[28] Габр. עִמָּנוּ אֵל (*'immā́nû'ēl*) (Іс 7, 14).
[29] Габр. גַּבְרִיאֵל (*gaḇrî'ēl*) (Дан 8, 16; 9, 21). Гр. Γαβριὴλ (Лк 1, 26).
[30] У беларускіх перакладах гэта Міхал. Габр. מִיכָאֵל (*mîḵā'ēl*). Гр. Μιχαηλ (Ап 12, 7).
[31] У беларускіх перакладах гэта Рафал. Габр. רְפָאֵל (*rāp̄ā'ēl*). Гр. Ραφαηλ (Тоб 3, 17).
[32] Са 119 уласных імёнаў у 37 *'el* сустракаецца на пачатку слова і 82 – у канцы.




Фарны касцёл у Лідзе на пачатку XX ст.

# Фарны касцёл у Лідзе

Гісторыя Ліды сягае ў глыб стагоддзяў. Звесткі пра час узнікнення горада супярэчлівыя: ад 1180 да 1380 года. Тэадор Нарбут пісаў у сваёй «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» аб княстве Дайнова і заснаванні Ліды ў 1180 годзе. Найбольш праўдападобнай датай з'яўляецца 1323 г. — пачатак будаўніцтва вялікім князем ВКЛ Гедымінам (1316–1341 гг.) Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад. На працягу 1323–1328 гг. Гедымін узвёў каля балцкага паселішча Ліда, заснаванага паміж X–XII стст., магутны каменны замак з сотняй байніцаў і чатырохпавярховай вежай. З 30-х гг. XIV ст. Ліда пачынае фігураваць у кантэксце розных падзеяў на старонках летапісаў і хронік Вялікага Княства Літоўскага. Такім чынам, горад упершыню згадваецца ў адзін год са сталіцай дзяржавы Вільняй. Большасць яго насельнікаў былі язычнікамі, але паступова распаўсюджвалася і хрысціянства.

У першай палове XIV ст. горад дзякуючы замку быў адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. Ліда становіцца цэнтрам намесніцтва, вядомага з 1382 г., а потым і павета ў складзе Віленскага ваяводства. Павет меў сваю харугву чырвонага колеру з выявай Пагоні. Пасля Крэўскай уніі 1385 г. Ліда аказалася важным, бліжэйшым да Вільні населеным пунктам, каля якога ляжаў шлях ад сталіцы ВКЛ да польскай сталіцы — Кракава. Такое геаграфічнае размяшчэнне Ліды, разам з наяўнасцю добра ўмацаванага і досыць камфартабельнага замкавага комплексу еўрапейскага тыпу, зрабіла горад месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках. Тут адбываліся важныя для абедзвюх дзяржаваў сустрэчы, перамовы, урачыстасці. Усё гэта вабіла ў Ліду і хрысціянскіх місіянераў з Захаду.

Пачатак каталіцтва ў Лідзе адносіцца да часоў княжання Альгерда. Адзін з літоўскіх вяльможаў, Гаштольд, прыняўшы рыма-каталіцкую веру, узяў пад сваё заступніцтва манахаў ордэну св. Францішка і пабудаваў для іх кляштар у Вільні. У 1366 г. трое францішканаў прыбылі ў ВКЛ з Польшчы, каб распаўсюджваць тут хрысціянскую веру, і пасяліліся ў Лідзе. Праз тры гады місіянераў забілі паганцы. Але ў Ліду прыйшлі іншыя браты францішкане. Над магілай сваіх папярэднікаў яны пабудавалі капліцу, пры якой і пасяліліся. Лідскім старостам тады быў хрысціянін Даўгерд. У 1376 г. колькасць місіянераў павялічылася да 9-ці. Крыніцы паведамляюць, што яны прывезлі з сабой з Візны абраз Маці Божай, але вядома, што ў Візне ніколі не было францішканаў, а ў той час не было нават і касцёла — каталіцкая парафія з'явілася там толькі ў 1390 годзе. Такім чынам, з 1360-х г. у Лідзе існавала францішканская місія. Горад згадваецца ў фундушавым дакуменце 1397 г., дадзеным францішканам.

Новы перыяд хрысціянскай гісторыі Лідчыны пачынаецца з заключэння ў 1385 г. Крэўскай уніі. Ёсць звесткі, што ў горадзе адбылася выдача дзяржаўных грамат, звязаных з хрышчэннем Літвы. У 1387 г. была створана Віленская рыма-каталіцкая дыяцэзія, ва ўласнасць якой вялікі князь перадаў воласць Дуброўна каля Ліды.

У 1387 г. Ягайла заснаваў у Лідзе адзін з першых касцёлаў у ВКЛ і перадаў яму вёску, якая цяпер называецца Плябанцы, а таксама даход з нейкай іншай воласці, зямлю «на 6 сох», 3 плацы, лугі і корчмы, дзесяціну з усёй каралеўскай маёмасці ў Лідскім павеце і 6 рублёў. Гэты фундуш быў пацверджаны 7 ліпеня 1616 г. каралём Жыгімонтам III. Касцёл знаходзіўся на падзамчышчы і згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў Віленскі біскуп Андрэй, які зноў адкрыў пры касцёле францішканскую місію. Але і гэты касцёл згарэў у 1406 годзе. У 1414 г. ён быў узноўлены як парафіяльны і асвечаны пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі і Усіх Святых.

Фрагмент прывілея касцёлу, дадзены Ягайлам, бярог сярод іншых дакументаў лідскі пробашч. У дадатку да пятага тома «Старажытнай гісторыі літоўскага народа» Т. Нарбут змясціў тэкст гэтага прывілея, а таксама спіс пробашчаў лідскага касцёла.

У Метрыцы ВКЛ лідскі касцёл згадваецца ў 1516 г. з-за таго, што намеснік лідскага дзяржаўцы Юрыя Ільініча не аддаў арыштаванага слугу гетмана Канстанціна Астрожскага, калі *«тотъ нятецъ самъ прибегъ на цвинтаръ и въ костелъ Лидски, на кони звязанъ, и ноги подъ конь окованы»*.

Падчас спусташальнай вайны 1654–1663 гг. горад быў цалкам знішчаны. У тэксце візітацыі касцёлаў Віленскай дыяцэзіі ў 1674 г. біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім пра лідскі касцёл зроблены наступны запіс: *«Касцёл новазбудаваны, драўляны, пабудаваны коштам мясцовага дэкана, ксяндза Ігната Рэберта, асвечаны падчас знаходжання візітатара»*. (З дрэва гэтага касцёла потым была пабудавана ўніяцкая царква Уваскрасення Гасподняга.)



Каля касцёла. Фота 1917 г.

Пры касцёле былі капліцы: у Чэхаўцах, Перапечыцы, на гарадскіх могілках (св. Барбары, пабудавана ў 1805 г.), у Вострава (на свае сродкі фундаваў Тадэвуш Нарбут, ліквідавана ў 1866 г.) і філіяльны касцёл у Кір'янаўцах (фундаваны ў 1602 г. Марцінам Курчам, ліквідаваны ў 1866 г.). Як філіяльны ў 1460 г. Ганнай Давойнай быў фундаваны касцёл у Крупаве.

У другой палове XVIII ст. у Лідзе, верагодна, па праекце віленскага архітэктара Глаўбіца, з цэглы быў пабудаваны ў стылі барока фарны касцёл Узвышэння Святога Крыжа, які дзейнічае да нашага часу.

Будаўніцтва новага мураванага касцёла пачалося ў 1765 г. і было скончана ў 1770 г. стараннямі віленскага суфрагана (вікарнага біскупа) Тамаша Зянкевіча, які выканаў тэстамэнт свайго дзядзькі, біскупа Міхала Зянкевіча († 23.01.1762) (перад тым як у 1747 г. стаць Віленскім біскупам, ён быў лідскім пробашчам). У тэстамэнце, напісаным у 1761 г., ён рэкамендаваў прыцягнуць да будаўніцтва Ёгана Крыштафа Глаўбіца або *«каго-небудзь яшчэ, добрага»*. Касцёл пачалі будаваць на новым месцы, але недалёка ад старой святыні. Новы касцёл быў асвечаны ў 1768 ці 1780 годзе.

Свой агульны выгляд касцёл захаваў да нашага часу, аднак вядома, што першапачаткова ён меў дзве трохузроўневыя вежы. У новы касцёл былі перанесеныя некаторыя рэчы са старога: абразы, хрысцільня з драўлянаю статуяй св. Яна Хрысціцеля і арган (другі арган быў перанесены з крупаўскага касцёла).

Новы касцёл меў сем алтароў: тры з іх (у тым ліку і галоўны) мураваныя, размаляваныя пад мармур, бочныя алтары — у блакітна-ружовых фарбах.

У галоўным алтары знаходзіўся цудадзейны абраз Маці



Каля касцёла. Фота 1917 г.

Божай Ружанцовай. Пра Божыя ласкі, атрыманыя праз гэты абраз, сведчылі запісы ў «Кнізе цудаў». У алтары былі чатыры драўляныя фігуры: злева св. Пётр і св. Станіслаў, справа св. Павел і св. Казімір, а над імі — чатыры стукавыя (штучны мармур) анёлкі. Другія два мураваныя алтары былі пад тытуламі Яна Непамука і Бічавання Хрыста.

Алтар св. Яна Непамука ў верхняй частцы меў маляваны на сцяне абраз Найсвяцейшай Панны Ружанцовай, алтар Бічавання — абраз св. апостала Тамаша. Два алтары, якія знаходзяцца пры ўнутрыкасцёльных слупах, мелі мураваныя прастолы з абразамі св. Антонія і св. Юзафа, якія былі перанесеныя са старога касцёла. Іншыя два алтары пры бочных сценах — пад тытулам св. Барбары і св. Івона.

Сцены і столь прэзбітэрыя пакрывалі малюнкі. Падлога выкладзена каменнымі плітамі, але пад лаўкамі і па баках была выкладзена цэглаю. Унутранае абсталяванне касцёла ў асноўным захавалася да нашых дзён.




Каля касцёла. Фота 1917 г.

Касцёл агароджвала мураваная сцяна, знутры якой знаходзіліся могілкі; каля касцёла стаяла званіца на чатырох слупах з двума званамі. На вуліцу вяла брама, *«бляхай крытая, на ёй выробленае з жалеза імя Марыя з прамянямі зялёнага колеру»*. Адначасова з касцёлам планавалася пабудова плябаніі. Былі і два шпіталі, з якіх адзін ужо ў 1777 г. патрабаваў рамонту. У тым жа 1777 г. планавалася пабудаваць парафіяльную школу, бо шэсць вучняў да гэтага часу вучыліся ў доме арганіста.

З-за памылак у праектаванні і будаўніцтве касцёла, а таксама з-за *«надта дрэннага матэрыялу»* ўжо ў 1777 г. касцёл патрабаваў рамонту, што напісана і ў візітацыі 1782 года. Першымі пачалі разбурацца трохузроўневыя вежы, з якіх зваліліся бляха, тынк і нават фрагменты гзымсаў і сценаў; да таго ж ветрам павыбівала шыбы і ўнутр пачала прасочвацца вада, што павялічыла небяспеку абрушэння вежаў.

У 1790 г. на грошы ксяндза Вінцэнта Нарбута быў устаноўлены новы арган.

На жаль, у 1791 г. касцёл пацярпеў ад расейскага войска. Рамонт праводзіўся ў 1782–1790 гг. пробашчам касцёла Казімірам Нарбутам. Канчаткова касцёл быў адрамантаваны да 1792 года. Верагодна, тэхнічную экспертызу праводзілі архітэктары, прызначаныя біскупам Масальскім. У выніку рамонту былі разабраны дзве вежы, зроблены новы шчыт, верагодна, цалкам перароблены фасад касцёла, папраўленыя пілястры і вокны, дах пакрыты гонтай, сігнатурка над прэзбітэрыем пакрыта бляхай.

Цікава было б пабачыць малюнак лідскага фарнага касцёла

да перабудовы, з дзвюма вежамі, але падобна, што такога малюнка не існуе...

У 1794 г. значная частка касцёльнага срэбра пайшла для падтрымкі паўстання, а касцёл быў яшчэ раз разрабаваны расейскім войскам.

У першыя тры дзесяцігоддзі XIX ст. былі пабудаваны ўсе касцёльныя пабудовы: шпіталь, могілкі, новая плябанія (1818 г.) і закончаны рамонты. Зроблены два новыя алтары: святых Сымона і апостала Юды, св. Тэклі і св. Барбары. У той жа час у галоўным алтары быў устаноўлены абраз «Хрыстус падае пад крыжам».

У 1826 г. пажар знішчыў дах і вокны касцёла, згарэў таксама і шпіталь — страты былі вялікімі, бо яшчэ ў 1832 г. рамонт касцёла не закончыўся.

На пачатку сакавіка 1832 г. у дадатак да павятовай у Лідзе была створана і гарадская паліцыя, і ўжо 12 сакавіка 1832 г. выконваючы абавязкі лідскага гараднічага падпалкоўнік Верашчак для пакарання каталіцкага святарства за падтрымку паўстання пачаў цяжбу з лідскімі касцёламі. З архіўных дакументаў добра бачны фінансавы стан фарнага касцёла, упамінаюцца і расейскія вайсковыя рэквізіцыі. Лідскі гараднічы дакладаў Гродзенскаму губернатару Мураўёву рапартам *«аб належным стане каталіцкіх цэркваў у г. Ліда»*. Сярод іншага падпалкоўнік пісаў: *«Настаяцелі тутэйшых манастыроў, маючы дастатковыя даходы на ўтрыманне маалікага духавенства і, хоць звыш гэтага, як я пацікавіўся, маюць яшчэ і ахвяраванні абываццеляў, складкі, ... але дагэтуль каталіцкія цэрквы ... без дахаў, агароджы і не атынкаваныя, таму 2 сакавіка я папярэдзіў настаяцеляў манастыроў, каб яны прынялі меры па прывядзенню ў належны выгляд <...> асмельваюся спытаць Ваша правасхадзіцельства, ці магу я ў выпадку ўхілення змусіць мерамі паліцэйскімі да выканання ... прапановы»*. Гродзенскі губернатар 29 сакавіка піша ў Віленскую кансісторыю і выкладае ёй патрабаванні гараднічага. 12 красавіка губернатар атрымлівае адказ, што кансісторыя прадпісала лідскаму дэкану кс. Лінкіму абавязаць пробашчаў неадкладна адрамантаваць, па магчымасці, касцёлы, кляштары і агароджы, якія ім належаць, у тым ліку фарны касцёл.



«Фарны касцёл». Акварэль Алеся Судара. 2012 г.

Пасля скасавання ордэну піяраў у 1844 г. фарны касцёл прыняў звон, ацалелы падчас пажару піярскага кляштара.

У 1847 г. быў пабудаваны новы шпіталь для ўбогіх, а ў 1856 г. адрамантаваны арган. Вялікі рамонт усяго касцёла праводзіўся ў 1861 годзе. У 1878 г. быў аднюўлены франтон святыні. Чарговы рамонт зроблены ў 1886–1892 гг.

У 1906–1909 гг. пры пробашчу Юзафу Шкопу былі аднюўлены тынкоўка, насценныя малюнкі, алтары.

У 1960-я гады была разабрана агароджа касцёла разам з брамаю, што выклікала моцныя хваляванні сярод парафіянаў, але іх намаганні ўратаваць святыню былі марнымі.

Сапраўднае адраджэнне фарнага касцёла і парафіі пачалося на пачатку 1990-х гадоў. Цяпер гэта адна з найбольшых каталіцкіх супольнасцяў на Лідчыне.

*Леанід Лаўрэш*

---

**Леанід Лаўрэш** — краязнаўца. Нарадзіўся 1 сакавіка 1963 г. у Лідзе. Скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1985). Займаецца краязнаўствам і гісторыяй прыродазнаўчых навук. Аўтар шматлікіх артыкулаў і кніг: «Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках» (у суаўтарстве, 2001), «Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі)», (2007), «Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне» (2012). Стваральнік і адміністратар беларускага гістарычнага сайта «Павет» (з'явіўся ў сеціве ў 1999 г.). Жыве ў Лідзе.



# Святар — гэта слуга...

Трэба сказаць, што лідская парафія Узвышэння Святога Крыжа была заўсёды адметная: яе жыццё было заўсёды дынамічнае, нягледзячы на цяжкія моманты, асабліва ў савецкі час. Калі з'яўляліся нейкія выпрабаванні, вера станавілася яшчэ больш моцнаю. Гэта можна параўнаць з дрэвам, якое стаіць адно ў полі, — яно сваімі каранямі стараецца мацней паглыбіцца ў зямлю і становіцца цвярдыняю. Успамінаючы гісторыю, слухаючы расповеды старэйшых людзей, разумею, што вера ў іх сэрцах асабліва ўмацавалася і паглыбілася вельмі моцна, калі тагачаснаму пробашчу ксяндзу Роеку забаранілі цэлебраваць св. Імшу. Ксёндз Роек — гэта чалавек-сімвал, сапраўды значная асоба ў жыцці не толькі парафіі, але і ўсяго нашага горада. Гэта сімвал моцнай веры, адданасці і вернасці Богу.

Нядаўна мы перажывалі Другі агульнабеларускі з'езд святароў, на якім ішла размова пра святло веры і вернасць святара. Дык магу сказаць, што ксёндз Роек — гэта сведка вернасці Богу і вернасці Касцёлу. Пад вернасцю Касцёлу я маю на ўвазе касцёльную супольнасць, з якой ён заўсёды быў побач у цяжкія моманты і падчас «вясны» адраджэння веры. Калі яму забараняля цэлебраваць святую Імшу, людзі выносілі патрэбныя для яе рэчы, рыхтуючы ўсё для яе правядзення, і чыталі малітвы, а ксёндз заўсёды быў побач з імі.

У 60-я гады лідскі касцёл спрабавалі ўзарваць. Тады пры ўладзе быў Хрушчоў, які даваў прамое заданне: узарваць касцёлы, пасадзіць святароў. Ён думаў, што такім чынам можна знішчыць веру! Калі хацелі ўзарваць наш касцёл, вернікі ездзілі і ў Мінск, і ў Маскву, і яны абаранілі сваю святыню. У той час, калі прадстаўнікі парафіі былі ў Маскве, людзі маліліся ў касцёле днём і ноччу. Было арганізавана няспыннае дзяжурства, бо вернікі ведалі, што калі чалавек пойдзе, адразу могуць даць загад руйнаваць Божую святыню. Дзякуючы Богу, тым вернікам, ксяндзу Роеку, які быў заўсёды побач з імі, падтрымліваў іх, вучыў быць цвёрдымі ў веры і нічога не баяцца, які паўтараў: «Калі Бог з намі, хто супраць нас?», гэты касцёл ацалеў.

У цяжкія часы змагання з рэлігіяй ксёндз Роек спрабаваў ахапіць пастырскаю апекаю не толькі Ліду. Вернікі з суседніх парафій таксама прыязджалі да яго. Вялікую ролю адыграў гэты ахвярны святар у час абароны і трывання ў веры. Людзі, якія перажылі час атэізму, выдатна здалі гэты «экзамен».

Адраджэнне ў нас, як і ва ўсім Касцёле на Беларусі, пачалося ў 90-я гады. З'явіўся больш шырокі кірунак дзейнасці святара, развівалася душпастырства, распачалася катэхеза моладзі, дзяцей. Кожны з нас гэта бачыў і сам перажываў. Я паходжу з Ваўкавыска, дзе святыня крыху большая за гэтую, дык у той час касцёл не мог змясціць усіх вернікаў! Так было і ў Лідзе. Я працую тут з 2003 года, ужо дзесяць гадоў. У 1995 годзе я прыехаў сюды як клерык на практыку і ўбачыў шмат ахвотных прайсці катэхетычную падрыхтоўку. Трэба сказаць, што тады дзейнічалі толькі дзве парафіі: фарны касцёл і касцёл на Слабадзе. Было шмат працы, але ксёндз Роек, нягледзячы на сталы ўзрост, вельмі добра спраўляўся са сваімі абавязкамі, бо ў яго былі актыўныя памочнікі.

Лідскі фарны касцёл — першая пляцоўка, дзе я пачаў выконваць абавязкі пробашча. Раней я працаваў вікарыем у катэдральным касцёле ў Гродне, прэфектам у гродзенскай семінарыі. Першае, што мяне прыемна тут здзівіла, — гэта стаўленне людзей, тое, як яны ўмеюць слухаць! Калі я прамаўляў казанні, яны лавілі кожнае слова! Я зразумеў, што гэтыя людзі сілкуюць сябе Божым словам. Некаторыя вернікі пытаюцца: «Ці можна спажываць Божае слова?» (*смяецца*). Адказваю: «Можна!». Здаецца, што людзі ў гэтай парафіі смакуюць яго, бо гэта і ёсць іх пасілак на кожны дзень. Эўхарыстыя — гэта цэнтр іх жыцця, гэта сэрца іхняга сэрца. Яны сапраўды прагнуць Бога жывога, а, знаходзячы, дзякуюць за Яго прысутнасць, якая напоўніла іх жыццё спакоем і радасцю. Мяне заўсёды захапляла іх стаўленне да малітвы. Напрыклад, мяне вельмі здзівіла, што ўсе складаюць рукі перад сабою падчас малітвы «Ойча наш» — ад малых да вялікіх. Гэта рэдка дзе ўбачыш! Толькі я распачынаю малітву «Ойча наш», як бацькі складаюць ручкі сваіх дзетак на малітву! Прыемна, што з дзяцінства яны вучаць малых правільна трымаць рукі на малітве. Мяне захапляе адзінства Касцёла, калі я бачу, што і мужчыны, і жанчыны, моладзь і дзеці прымаюць малітоўную паставу на малітве, якой нас навучыў Пан Езус. Вядома, гэта заслуга маіх папярэднікаў, і гэта заслуга ксяндза Роека, які пахаваны тут каля касцёла. Тое, што людзі вельмі часта моляцца за гэтага святара, — сведчыць пра яго шанаванне вернікамі.

Што датычыць жыцця парафіі... Магу сказаць, што яно вельмі актыўнае. Маем шмат малітоўных групаў, актыўна праводзіцца катэхеза дзяцей, моладзі. У нас кожны год да Першай Камуніі прыступае каля 200 чалавек! Кожны год збіраюцца вялікія групы для прыняцця сакрамэнту канфірмацыі. Цяпер гэтыя групы складаюцца з моладзі, якая праходзіць гадавую і двухгадовую падрыхтоўку. Калі раней былі змешаныя групы, гэта значыць старэйшыя і малодшыя, то цяпер толькі моладзь. Глядзіш на гэта ўсё — і радуешся, праслаўляеш Бога за тое, які Ён вялікі. Разумееш, што твая справа толькі кідаць зерне, бо ты — сейбіт, а Бог дае ўсяму рост. Разумееш, што гэтыя дзеці і моладзь — у Божых руках, з імі нічога дрэннага не здарыцца. У гэта я моцна веру. Бачу дзеянне Бога ў іх душах і сэрцах, калі спавядаю іх, калі з імі размаўляю...

Будынак касцёла ў нас не вельмі вялікі, таму ў нядзелю, напрыклад, цэлебруецца шэсць Імшаў, каб усе змаглі ўшанаваць Бога ў святы дзень. І не паверыце — касцёл увесь час запоўнены! З касцёльных рухаў у нашай парафіі ёсць Трэці ордэн св. Францішка, Легіён Марыі, малітоўная група «Маці ў малітве», у склад якой уваходзяць маці, якія моляцца за сваіх дзяцей, размаўляюць пра розныя праблемы, дзеляцца вопытам, а ў асноўным — дапамагаюць малітваю. Ёсць вельмі папулярнае «Біблійнае кола», на якое вернікі збіраюцца кожны чацвер, каб чытаць Божае слова і разважаць над ім; яго праводзіць адзін з вікарыяў, кс. Уладзіслаў Сурвіла; ёсць таксама рух Дапамогі душам чыстцовым, Апостальства добрай смерці, Ружанцовыя колы, іх у нас ажно трыццаць, прычым гэта і жаночыя, і мужчынскія колы. Мне вельмі падабаецца, што людзі адкрытыя на дапамогу святарам, таму часта засноўваюцца «Маргарыткі», удзельнікі якіх падтрымліваюць святароў малітоўна. Святары таксама перажываюць розныя цяжкасці. Калі святар згадае, што ў гэты дзень нехта моліцца за яго, ён, безумоўна, становіцца мацнейшым. Калі часам з'яўляецца спакуса адчуць сябе адзінокім, калі пачынаюцца розныя праблемы, ты ўжо не адчуваеш сябе адзінокім, бо ведаеш, што нейкі чалавек моліцца непасрэдна за цябе, і тады прыходзіць яшчэ больш яснае ўсведамленне таго, што Бог заўсёды з табою. Прыемна, што ў нашай парафіі становіцца ўсё больш людзей, якія моляцца за святароў, і не толькі за нашых.

Як і ў іншых парафіях, вядзецца падрыхтоўка да шлюбу і хросту. Падрыхтоўку да шлюбу вядзе другі вікарый — ксёндз Вячаслаў Матукевіч. Шлюбаў на год бывае каля 250! Вельмі прыемна, што цяпер больш хростаў, чым пахаванняў. Раней было наадварот. Гэта вельмі важна. Трэба ўлічваць, што наша парафія Узвышэння Святога Крыжа — адна са старэйшых, налічвае каля 20000 вернікаў і мае свае традыцыі. Цяжка сказаць, ці ахопліваем мы як святары пастырскаю дзейнасцю ўсю парафію. Мы робім усё, што можам: цэлебруем святую Імшу, спавядаем, прамаўляем казанні, праводзім сустрэчы, ездзім да хворых.

У 2010 годзе мы за свае сродкі зрабілі капітальны рамонт фасада і даху касцёла. За гэты час памянялі таксама канфесіяналы і лаўкі ў касцёле, бо некаторыя былі прынесеныя сюды яшчэ з піярскага касцёла. Мы пастараліся зрабіць усё ў адным стылі. Касцёл стаў выглядаць больш прыгожа і эстэтычна.

Цяпер мы праводзім капітальны рамонт парафіяльнага дома, які быў пабудаваны ў 1952 годзе. Як толькі пабудуем парафіяльны дом, возьмемся за рамонт унутранай часткі касцёла. Хочацца гэта зрабіць, бо пабудаваны касцёл у стылі віленскага барока, вельмі багаты, з прыгожымі фрэскамі.



Я ўжо казаў, што нарадзіўся ў Ваўкавыску, там жа закончыў сярэднюю школу і адразу паступіў у Гродзенскую духоўную семінарыю. Пасля заканчэння семінарыі біскуп накіраваў мяне на паўгода на дыяканскую практыку ў Ашмяны. І адтуль як дыякан я паехаў на вучобу ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, каб вывучаць дагматычную тэалогію. Святарскія пасвячэнні прыняў 26 чэрвеня 1999 г. у Гродне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча. У 2000 г. я абараніў ступень ліцэнцыята і вярнуўся ў Беларусь, дзе пачаў выкладаць у Гродзенскай духоўнай семінарыі і Катэхетычным інстытуце. У 2000–2001 гадах служыў вікарыем гродзенскага катэдральнага касцёла, пробашчам якога быў біскуп Антоні Дзям'янка. Побач з ім я атрымаў вопыт пастырскай працы, бо раней была толькі вучоба, дыяканская практыка і зноў вучоба. З 2001 г. біскуп Аляксандр Кашкевіч прызначыў мяне прэфектам семінарыі. Гэта быў новы вопыт для мяне: праца з клерыкамі, дапамога ў іх фармацыі. З адлегласці часу я бачу, што гэта было вялікім багаццем для мяне. Праца ў семінарыі мне падабалася, але ўсё ж найбольш мяне захапляла пастырская праца ў парафіі, таму з чэрвеня 2003 года мяне прызначылі пробашчам лідскага фарнага касцёла. У 2011 годзе я абараніў дысертацыю на тэму «Канцэпцыя асобы ў сучаснай польскай тэалогіі». Тэма персаналізму заўсёды мяне цікавіла, бо чалавек ва ўсе часы застаецца вялікаю таямніцаю. З 2006 года я з'яўляюся біскупскім вікарыем Лідскай акругі. Для мяне гэта і давер біскупа, і вялікая адказнасць.

Нічога ў гэтым жыцці проста так не бывае — калі Бог дае такую адказнасць, значыць Ён разлічвае на мяне. Я гэта разумею як рэалізацыю свайго паклікання. «Пакліканне, — як гаварыў Ян Павел II, — гэта таксама вялікая таямніца». Я адкрываю сваё пакліканне кожны дзень ў канкрэтнай працы, у канкрэтных заданнях, якія ўскладае на мяне Бог. Колькі буду жыць, столькі буду адкрываць гэтую таямніцу «адвагі Бога». Думаючы пра святарства, якім адарыў мяне Бог, я дзіўлюся: які ж Ён адважны! Пакліканне чалавека — гэта вялікая рызыка для збаўлення. Чалавек — самы рызыкоўны элемент ва ўсёй канцэпцыі збаўлення. Першы раз Пан Бог рызыкнуў, калі на пачатку стварэння адарыў чалавека свабодаю. Мы ведаем, што рызыка была вялікая, і ведаем, як усё гэта скончылася. Але з новым стварэннем Пан Бог паўтарае той самы манеўр. Ён лечыць свабоду свабодаю.

Я вельмі ўсцешыўся, калі папа Бэнэдыкт XVI ва ўрачыстасць Сэрца Езуса (на заканчэнне Году святарства) сказаў, што адвага Бога — гэта святарства чалавека, бо вось і са мною Бог рызыкнуў і адважыўся даць мне святарства. Менавіта так лепш за ўсё разумець святарства, дадзенае Богам. Бог прымае адважнае рашэнне, клічучы мяне і ў гэтым пакліканні падвяргаючы рызыцы збаўленне людзей. Колькі гэтых людзей? Яшчэ не ведаю. Можа, адзін чалавек! Самае рызыкоўнае — аддацца ў чужыя рукі... а Ён гэта зрабіў. Такое ўчыніць можа толькі ЛЮБОЎ. Уцелаўлёная Любоў, якая была прыбітая да крыжа, каб я мог жыць. Таму я як святар разам са сваімі вернікамі нястомна разважаю над вялікаю таямніцаю крыжа. Для мяне крыж азначае штосьці большае, чым сімвал хрысціянства, чым знак, які ідэнтыфікуе мяне з Хрыстом. Пад знакам крыжа для мяне ўтоеная канкрэтная рэчаіснасць, парадаксальная рэчаіснасць. У ім перасякаюцца паражэнне і перамога, смутак і радасць, нянавісць і любоў, высілак і ўзнагарода. З аднаго боку, крыж для мяне — гэта ўсе складаныя сітуацыі, цярпенне, боль,

горыч і смерць. Ажно цяжка паверыць, што ўсё гэта можна ўзвялічваць. Крыж заўсёды цяжка прыняць, але крыж — гэта перавядзенне кожнага болю ў рэчаіснасць аздараўлення, кожнага паражэння — у стан перамогі. Прыняцце крыжа не мае нічога супольнага з талерантнасцю да зла, граху і цярпення. Бог прайграў бы, калі б крыж азначаў проста згоду на цяжкасці і цярпенні. Я не веру, што Бог на гэта згаджаецца.



Калі б так было, Ён не нёс бы крыжа, а пакінуў бы нас у нашым упадку. Тым часам Хрыстус бярэ крыж у свае рукі, нясе яго на сваіх плячах, памірае на ім, як на алтары, каб урэшце вызваліцца з яго ў хвале ўваскрасення. Крыж — гэта знак перамогі, а не падатлівасці на цярпенне і смерць, гэта знак перамогі над грахом, а не цярпімасці да граху, таму згода на крыж і яго прыняцце азначае хутчэй барацьбу, чым падпарадкаванасць — з той аднак розніцаю, што гэтая барацьба не з нашага свету. Свет змагаецца зброяй, а Бог — безабароннасцю. Свет змагаецца агрэсіяй — Бог перамагае супакоем. Свет падказвае пра мноства сродкаў барацьбы — Бог становіцца ўбогім і пакорным. Свет хоча перамагаць тактыкаю інтрыгаў і падману — Бог аб'яўляецца ў праўдзе і чыстасці сэрца. Свет змагаецца за ўладу — Бог змагаецца за любоў. Апошняе адрозненне, напэўна, стаіць найбліжэй да таямніцы крыжа. Крыж — знак любові, а не скіпетр пераможнага генерала. Калі хтосьці выкарыстоўвае крыж для барацьбы за ўладу, то становіцца на баку д'ябла, бо д'ябал хоча кіраваць, а не любіць. Таму сам знак крыжа неабходна заўжды ўспрымаць у духу Хрыста. Існуе мноства скажоных крыжоў, бо нават вызнаўцы злога духа хочуць карыстацца ім, толькі перакручаным. Трэба верыць у крыж, але нельга яго перакручваць, скажаць, устанаўліваць па-свойму. Адзінае сапраўднае ўспрыняцце крыжа грунтуецца на любові. Калі ты не любіш, то, хоць і посцішся, молішся ночы напралёт, выганяеш злых духаў, гаворыш пабожныя словы, — усё гэта не мае нічога агульнага з крыжам Хрыста. Езус замаўчаў перад крыжам, бо любоў маўчыць, калі чалавек сапраўды любіць.

Я вучуся штодзённа ўзвялічваць крыж сваёй штодзённасці. Калі раніцаю прачынаюся, поўны страху перад чарговым, цяжкім днём, праслаўляю Бога за ўсе цяжкія хвіліны, якія менавіта сёння Ён падрыхтаваў для мяне. Калі нагрувашчваюцца праблемы, я ўспамінаю святую Кацярыну Сіенскую, якая ў такія хвіліны ўсклікала: «Вітаю вас, мае праблемы! Прымаю вас, бо вы — школа маёй пакоры!» Калі хтосьці мяне ўстрывожыць або стане моцна даймаць, я блаславаўляю Пана за тое, што Ён прыйшоў да мяне ў маім браце, каб даць мне любіць, нягледзячы ні на што. Калі часам мяне пачынае непакоіць фізічны боль, я ўсміхаюся сам сабе і дзякую Богу за тое, што Ён і так даў мне вялікі кавалак жыцця, а цяпер хоча прыпадобніць мяне да сябе. Калі вечарам я кленчу на малітву і бачу мноства сваіх грахоў, неразумных словаў, жэстаў і занядбанняў, то станаўлюся перад люстэркам у ванне і кажу сам сабе: «Грэшнік, Бог і так цябе любіць!» Так я больш-менш вучуся штодзённа ўзвялічваць крыж, каб не перакручваць яго, не скажаць, каб не зрабіць з яго магічнага амулету або рэлігійнай памяткі. У знаку крыжа я заўсёды шукаю любові, а калі там пачынае пахнуць жаданнем улады, то ўцякаю, бо адчуваю, што д'ябал зноў хоча «змалпаваць» ува мне Бога.

Штодзённае ўзвышэнне крыжа вучыць мяне адкрытасці на бліжняга. У сваім святарскім служэнні заўсёды імкнуся адкрываць таямніцу чалавека. Мне падабаецца кантактаваць з кожным чалавекам, бо, пазнаючы яго як дасканалае Божае стварэнне, я пазнаю і самога сябе, а гэта вялікае багацце, якое нам дае Пан Бог. Пастырская праца мне бліжэйшая — цуд сустрэчы з іншым чалавекам я перажываю і ў канфесіянале, і пры сустрэчах з людзьмі, якія прыходзяць, напрыклад, выпісаць звыклую даведку. Дзялюся з усімі сваім часам, тым, чым жыву, што ведаю і ўмею. Гэта тое, што мы называем служэннем. Як жа інакш! Святар — гэта і ёсць слуга, на ўзор Езуса-Слугі.

*Пробашч лідскага касцёла Узвышэння Святога Крыжа ксёндз Уладзімір Гуляй.*

Роберт Мацieўскi

# Восьмы дзень стварэння?

## Дыскусія вакол эксперымента па кланаванні

**Тэхнікі кланавання чалавечага эмбрыёна**

Кланаванне — гэта кірунак сучаснай генетыкі, які заключаецца ў атрыманні клонаў арганізмаў, што размнажаюцца палавым шляхам. Клон — гэта патомства адной істоты, ідэнтычнае між сабою і з мацярынскаю істотаю паводле спадчынных уласцівасцяў. Мацярынскую істоту размнажаюць непалавым шляхам: кланаванне заключаецца ў прышчэпе ядра клеткі аднаго арганізма да іншага. Такім чынам, тэрмін «кланаванне» ўжываецца для азначэння стварэння істоты шляхам развіцця рэканструяванага зародка.

Кланаванне як спосаб размнажэння паспяхова выкарыстоўваецца ў раслінным свеце. Яно адбываецца праз атожылкі, клубні, цыбуліны, а таксама шляхам акуліроўкі — кланавання бульбы. З кавалка бульбіны, пакладзенага ў зямлю, вырастае цэлая расліна з клубнямі. Клоны бактэрый і іншых аднаклеткавых арганізмаў узнікаюць шляхам падзелу клеткі.

У прыродзе існуе таксама кланаванне шматклетачных арганізмаў, заснаванае на выкарыстанні здольнасці зіготы[1], якая ўзнікае са спалучэння дзвюх гаметаў[2], да дзялення. Праз 24 гадзіны зігота дзеліцца на дзве клеткі. Гэты працэс працягваецца далей і адбываецца ўсё хутчэй. Такім чынам развіваецца новы арганізм. Але існуе магчымасць змяніць натуральны працэс. Памнажаючыся, клеткі зародка замест адной утвараюць дзве асобныя групы. Такім чынам адбываецца натуральнае кланаванне, падзел зіготы на два зародкі, што вядзе да нараджэння двайнятаў.

Цяпер можна выклікаць гэты працэс штучным чынам. У такім выпадку зігота ўтвараецца непалавым шляхам: метадам штучнага злучэння элементаў дзвюх клетак, з якіх адна — жаночая генератыўная клетка, пазбаўленая ядра, а другая — ядро клеткі (ДНК), узятае з цела іншага арганізма. Прэпараваная яйцаклетка адказвае за дзяленне клетак. Ядро іншай клеткі з генетычным кодам гарантуе падабенства да ўласніка выбранай клеткі. Злучаючы такім чынам прэпараваныя клеткі, а пазней прышчапляючы іх да падрыхтаванай маткі самкі гэтага віду, можна стварыць неабмежаваную колькасць копій пэўнай істоты. Сёння існуюць два асноўныя віды кланавання: метад трансплантацыі ядра клеткі і метад падвойнага дзялення. <...>

Першы распачынаецца з падрыхтоўкі ядра саматычнай клеткі; яно павінна будзе кіраваць далейшым развіццём яйцаклеткі. Пасля адбываецца прэпарацыя ядра яйцаклеткі і прышчапленне на яго месца ядра саматычнай клеткі. Апошні этап — перанясенне атрыманай такім шляхам зіготы ў родавыя органы самкі.

У адпаведных умовах прышчэпленае ядро саматычнай клеткі перапраграмуецца і атрымлівае рысы ядра зародка на першапачатковым этапе развіцця. Далейшае яго развіццё ідзе ужо пад кантролем геному імплантаванага ядра. ДНК ядра ўтворанай такім шляхам істоты ідэнтычная той, якую мае імплантаванае ядро, а цытаплазматычная (мітахандрыяльная) ДНК паходзіць з ааціту рэцыпіента. У выніку новы арганізм мае блізкае падабенства да даўцы ядра, але не ідэнтычны з ім. Іншымі словамі, істота, прадукаваная шляхам замяшчэння ядра, не з'яўляецца дакладным клонам, хоць і называецца так у навуковай тэрміналогіі.

Другі метад заключаецца ў мікрахірургічным рассячэнні эмбрыёна, які знаходзіцца на стадыі развіцця ад дзвюх да васьмі клетак. Гэтая тэхніка заснаваная на выкарыстанні татыпатэнтнай здольнасці клетак эмбрыёна на ранніх этапах развіцця. Такім чынам можна атрымаць моназіготных блізнятаў, якія будуць мець ідэнтычную бялковую структуру і аднолькавыя генетычныя рысы, у такім выпадку блізняты будуць клонамі адно аднаго. <...>

У біялагічных катэгорыях кланаванне адбываецца без удзелу дзвюх гаметаў. Апладненне, у вузкім сэнсе слова, замяшчаецца фузіяй — злучэннем ядра, узятага з саматычнай клеткі кланаванай істоты або цэлай саматычнай клеткі з яйцаклеткай, пазбаўленай ядра, якая, такім чынам, не мае мацярынскага геному. Паколькі ядро саматычнай клеткі захоўвае ў сабе ўвесь генетычны матэрыял, новая істота, калі не адбудзецца

**Ксёндз Роберт Мацieўскі** — пробашч мсціслаўскага касцёла. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Влацлаўскай дыяцэзіі ў Польшчы. Выпускнік тэалагічнага факультэта Люблінскага ўніверсітэта.

ніякіх мутацый, з'яўляецца генетычна ідэнтычнай даўцы клетачнага ядра <...> — саматычнай рэплікай. <...> Такі вынік выклікае найбольш непакою з прычыны эксперыментаў на людзях.

Упершыню эксперымент па кланаванні чалавечых эмбрыёнаў здзейснілі Джэры Хол і Роберт Сцілмэн ва Універсітэце Джорджа Вашынгтона ў 1993 годзе. Яны правялі эксперымент, у выніку якога з 17 чалавечых эмбрыёнаў «стварылі» 48 эмбрыёнаў. Мэтаю эксперымента было, апроч іншага, даць магчымасць нарадзіць патомства няплодным парам. Эмбрыёны, выкарыстаныя ў даследаванні, былі поліспермічнымі (апладнёнымі некалькімі сперматазоідамі) і не маглі нармальна развівацца пасля імплантацыі ў мацярынскі арганізм. Найпазнейшай стадыяй развіцця, пры якой атрымалася захаваць жывыя зародкі, была 32-клетачная стадыя марулы.

У сакавіку 1997 г. бельгійскія навукоўцы інфармавалі грамадскую супольнасць аб тым, што ў брусэльскім шпіталі Гельмонт праводзіцца эксперымент па кланаванні чалавечага зародка і яго перанясенні ў арганізм маці метадам «*in vitro*». 16 снежня 1998 г. свет абляцела навіна аб кланаванні чалавека. Навукоўцы з Універсітэта Кунгее ў Сеўле пад кіраўніцтвам прафесара Кім Сеунг-бо перанеслі ядро саматычнай клеткі ў пазбаўлены ядравага генетычнага матэрыялу аацыт. Абедзве клеткі былі ўзятыя ад дваццацігадовай жанчыны. Зародак, які паспяхова развіваўся, быў знішчаны «з этычнага і прававога пункту гледжання».

Аднак трэба адзначыць, што існуе фундаментальная розніца паміж кланаваннем эмбрыёна і кланаваннем дарослых клетак, якія ўтвараюць скуру, косці і кроў. Кланаванне эмбрыёнаў бярэ вытокі з апладнення «*in vitro*» і пакліканае дапамагчы тым, хто мае праблемы з зачаццем дзіцяці. Утвораныя эмбрыёны, атрыманыя пасля спалучэння спермы і яйцаклеткі ў сподку Петры, пераносяцца ва ўлонне маці. Шанцы на паспяховую цяжарнасць узрастаюць разам з лічбаю выкарыстаных эмбрыёнаў (звычайна прышчапляюць 3–5 эмбрыёнаў <...>). Жанчына з адным эмбрыёнам мае шанц вынасіць дзіця ў 10–20% выпадкаў. Калі б такі эмбрыён можна было кланаваць і змяняць, шанцы на паспяховую цяжарнасць узраслі б у 3–4 разы. Мяркуецца, што кланаванне чалавечых эмбрыёнаў можа паслужыць выключэнню спадчынных хваробаў, <...> але ў выніку эмбрыёны з паталогіямі заўжды будуць знішчаныя. Навукоўцы з *Advanced Cell Technology* лічаць, што кланаванне чалавечых эмбрыёнаў павінна паслужыць тэрапеўтычным мэтам: лячэнню хваробаў, якія дагэтуль лічыліся невылечнымі. Яны адмаўляюць магчымасць рэпрадукцыйнага кланавання.

Найбольш распаўсюджанае меркаванне аб кланаванні чалавека датычыць стварэння двайнікоў <...>. Магчымасць праводзіць такія працэдуры з генетычным матэрыялам выбітных людзей можа прывесці да ўзнікнення асобаў, адораных аднолькавымі здольнасцямі. Тады чалавецтва можа стаць перад фактам напаўнення свету людзьмі, сфармаванымі паводле патрабаванняў грамадства, абапертага на еўгенічныя прынцыпы.

Аднак у выпадку спробаў кланавання чалавечых істотаў капіяванне цялеснай структуры не прыводзіла б да поўнай ідэнтычнасці асобаў, бо гэта справа анталагічнай і псіхалагічнай рэчаіснасцяў. Душа, істотны і асноўны элемент кожнай чалавечай асобы, ствараецца непасрэдна Богам, і таму не можа быць народжаная бацькамі або ўтвораная шляхам штучнага апладнення або кланавання. Таксама і псіхічнае развіццё, культура і асяродак заўсёды ўплываюць на рысы характару асобы, што выразна назіраецца ў блізнятаў, знешняе падабенства якіх не азначае ідэнтычнасці. Таму неабходна прывесці да рэальных межаў папулярныя ўяўленні, звязаныя з кланаваннем, і ілюзію ўсемагутнасці, якую нібыта дае гэтае ўменне.

Якім жа чынам выглядае магчымасць кланавання чалавека метадам трансплантацыі клетачных ядраў (дагэтуль ён з'яўляецца адзінай магчымасцю кланаваць дарослыя істоты)? Як даўцы ядра могуць быць ужытыя клеткі малочнай залозы і мачавіка. Адсюль можна зрабіць выснову, што кланаваць магчыма толькі жанчын, што пры ўжыванні яйцаклетак, узятых ад той жа жанчыны, прыводзіла б да размнажэння, набліжанага да партэнагенэзу. Партэнагенэз, або дзявоцкае размнажэнне — размнажэнне клеткі без удзелу сперматазоіда. У млекакормячых партэнагенетычныя зародкі паміраюць пасля імплантацыі, бо для правільнага развіцця млекакормячых патрэбны ўдзел абодвух геномаў: і жаночага, і мужчынскага. Гэтыя геномы асаблівым чынам накладаюцца адно на аднаго (імпрынтуюцца) падчас гаметагенэзу (узнікнення зародкавых клетак), што прыводзіць да ўзнікнення адрозненняў. Спробы кланавання самца былі няўдалымі. <...> Аднак у траўні 1999 г. было апублікаванае паведамленне аб паспяховым кланаванні мышы з саматычнай клеткі самца. Магчыма, і ў мужчын будуць знойдзеныя клеткі, якія маглі б стаць даўцамі ядраў.

Аднак ўзнікае чарговая праблема: эфектыўнасць кланавання. У выпадку выкарыстання клетак малочнай залозы яна складае каля 0,4%, у выпадку выкарыстання клетак мачавіка — 1% (колькасць народжаных істотаў у адносінах да колькасці рэканструяваных аацытаў). Такім чынам, атрыманне гэтым шляхам аднаго народжа-

нага дзіцяці патрабавала б перанясення ядраў да 200–300 яйцаклетак. Беручы пад увагу той факт, што мы гаворым пра кланаванне чалавека і патрэбная як мага большая адпаведнасць рэплікі арыгіналу, пажадана было б <...> прышчапляць ядры, якія паходзяць з клетак жанчыны-даўцы аацытаў. Ад адной жанчыны цяжка атрымаць столькі яйцаклетак, таму трэба было б праводзіць звышмоцную гарманальную стымуляцыю. Застаецца выкарыстоўваць перанясенне ядра ў аацыты, узятыя ад іншых даўцаў. Гэта павінны быць свежаўзятыя аацыты, бо крыакансервацыя (замарожванне) неапладнёных чалавечых аацытаў не прыносіць спадзяваных вынікаў. Але такая камбінацыя — уласнае клетачнае ядро і чужы аацыт — вядзе да ўтварэння ядрава-цытаплазматычнага гібрыда, што не дае гарантыі поўнай ідэнтычнасці «нашчадка». Да таго ж, большасць прышчэпленых зародкаў не будзе развівацца належным чынам. Кланаванне праз перанос клетачных ядраў — гэта метад, шляхам якога прамысловая вытворчасць чалавечых істотаў падаецца мэтай, якую магчыма рэалізаваць, <...> што адкрывае магчымасць распараджацца здольнасцю людзей размнажацца. Да гэтай магчымасці чалавек ніколі не ставіўся сур'ёзна, разважаючы над зачаццем жыцця ў сувязі з сексуальнай рэпрадукцыяй і эвалюцыяй.

<...> Перад тым як распачаць даследаванні ў галіне кланавання, трэба адказаць на фундаментальнае пытанне: да якой мяжы можна дайсці ў навуцы? Адкрытым застаецца пытанне, ці кланаванне чалавека і вытворчасць яго клонаў як крыніцы органаў для трансплантацыі будзе толькі міфам або стане сумнай рэальнасцю?

**Этычная ацэнка**

Генная інжынерыя з'яўляецца крыніцаю шматлікіх праблемаў маралі. Немагчыма даць ёй агульную ацэнку, бо яна мае і станоўчыя, і адмоўныя дзеянні. Апошнія часта называюцца геннымі тэхналогіямі. <...>

Сёння большасць праектаў генных тэхналогій кіруецца меліярыстычнымі прынцыпамі — гэта азначае, што іх мэтаю з'яўляецца паляпшэнне чалавечага віду. Гэтае ўдасканаленне павінна датычыць толькі эмбрыянальнага развіцця асобных прадстаўнікоў і іх нашчадкаў. Меркаванне, што рацыянальнае планаванне нібыта лепшае за натуральнае развіццё — гэта памылка, і, што яшчэ горш, яна пагражае незваротнымі наступствамі. Здзяйсняючы падобнае ўмяшальніцтва, чалавек перавышае ўласныя паўнамоцтвы. Ён не змяншае выпадковасці і няпэўнасці натуральнага развіцця, а павялічвае іх, бо дзейнічае на карысць сумніўных перавагаў асобных людзей і цэлых пакаленняў у той ступені, якую нельга апраўдаць. <...>

Існаванне генетычнай розніцы паміж людзьмі аднaчасова падкрэслівае розніцу паміж расавымі і этнічнымі групамі. Выяўленне асобных генетычных рысаў можа стаць падставаю для «клеймавання» асобных людзей або групаў і ў далейшым прывесці да дыскрымінацыі. <...> Лёгка паддацца спакусе, думаючы, што паміж групамі людзей існуе розніца на генетычным узроўні. Гэта можа стаць штуршком для таго, каб па-рознаму ставіцца да розных народаў або выкарыстоўваць генетычную розніцу як апраўданне няроўнасці, павялічваючы яе ў грамадстве.

Кланаванне мае розныя біялагічныя, псіхалагічныя і грамадскія наступствы. Яно абмяжоўвае зменлівасць і магчымасць прыстасавання арганізма да ўмоваў знешняга асяродку. Знішчаючы абмен генетычнай інфармацыяй, кланаванне скасоўвае працэсы рэкамбінацыі і мутацыі, на якіх будуецца наследаванне зменлівасці арганізмаў. Кланаванне не стварае нічога новага, а толькі знішчае палімарфізм (клоны менш жыццяздольныя, чым істоты, атрыманыя традыцыйным метадам пракрэацыі).

Адна з мэтаў кланавання ў адносінах да чалавека — жаданне павялічыць колькасць таленавітых людзей, а гэта скасавала б непаўторнасць жыцця клона, свабоду першага самаадкрыцця <...>. Такім чынам, кланаванне шкодзіць годнасці асобы, якая з'яўляецца на свет «копіяй» (нават калі толькі на біялагічным узроўні) іншай істоты: гэта стала б прычынаю пакутаў кланаванага чалавека, чыя псіхічная тоеснасць апынецца пад пагрозаю існавання (рэальнага ці ўяўнага) некага «чужога».

Кланаванне можа прывесці і да павелічэння ролі закона ў высвятленні сямейных і кроўных адносінаў. Кланаваная жанчына, напрыклад, можа быць сястрой-блізняткаю сваёй маці, не мець біялагічнага бацькі і быць дачкою ўласнага дзеда. Гэта вядзе да радыкальнага знішчэння сямейных сувязяў. Больш за тое, у якасці еўгенічнай прылады кланаванне можа быць выкарыстанае з мэтаю стварэння грамадства, складзенага з «запланаваных людзей». З'ява «кланізму», або «клонавасці», стала б новаю формаю грамадскага астракізму або магла б быць выкарыстанаю дзеля дасягнення генетычнай элітарнасці, вызначаючы грамадскія ролі і функцыі людзей.

Такім чынам, кланаванне знішчае інстытут сям'і, пакліканы да нараджэння і выхавання дзяцей, бо месца сям'і займае лабараторыя. Мэтаю кланавання з'яўляецца «асексуальная рэпрадукцыя», штучны партэнагенэз, які імкнецца выключыць гетэрасексуальнасць з пракрэацыйнага акту (кланаванне імкнецца звесці факт існавання палоў да «перажытку»). Такая тэхналогія — умяшальніцтва ў непаўторнасць і ўнікальнасць

чалавечай асобы. Гэта не стварэнне некага новага, непаўторнага, а памнажэнне ўжо існуючага арганізма. Чалавек становіцца прадуктам культывацыі і пазней можа быць выкарыстаны для трансплантацыі органаў, эксперыментаў і гандлёвых аперацый. Такім чынам парушаецца права асобы на жыццё і самастанаўленне, чалавек становіцца рэччу, чыё існаванне вырашаецца іншымі. Можа ўзнікнуць думка, што некаторыя людзі маюць права поўнай улады над існаваннем іншых і могуць свабодна праграмаваць іх біялагічную тоеснасць, вызначаную на падставе адвольных прыладных крытэрыяў. <...>

Селектыўная канцэпцыя чалавека будзе мець вельмі негатыўныя наступствы, бо можа нарадзіць перакананне, што чалавечая вартасць залежыць не ад унікальнасці асобы, а выключна ад тых біялагічных рысаў, якія могуць выклікаць ухваленне і таму з'яўляюцца вартымі селекцыі. Такім чынам, вартасць жанчыны змяншаецца толькі да межаў біялагічнай функцыянальнасці — яе задачай з'яўляецца пастаўка яйцаклеткі, а матка можа быць замененая на штучную, — і гэта апошні крок да поўнага канструявання чалавека ў лабараторыі (эктагенэзу)[3]. Кланаванне — найбольш дэспатычная форма генных тэхналогій, калі браць пад увагу яго метады, і выклікае найбольшае зняволенне, калі браць пад увагу яе мэты. <...>

Тое, кім чалавек з'яўляецца паводле сваіх генетычных магчымасцяў, залежыць ад прыродных механізмаў і Бога <...>. Чалавек свабодны ў тым сэнсе, што, акрамя генетычных абмежаванняў, звязаных з біялагічным відам, да якога ён належыць, <...> чалавек не падуладны нічыім планам, бо людскія здольнасці маюць амбівалентны характар, іх можна выкарыстоўваць так, як чалавек лічыць патрэбным. Аднак кланаванне асацыюе выкарыстанне здольнасцяў толькі з акрэсленым спосабам, якім іх выкарыстоўвала мадэль клона. Калі б здарылася, што клон не пайшоў бы вызначаным яму шляхам, яго стварэнне магло б лічыцца памылкаю. Насамрэч жа памылка адбылася б раней — падчас узнікнення самой ідэі «памнажэння». <...> Тэхнікі кланавання парушаюць права чалавека на свабоду выбару, яны з'яўляюцца генетычным дэтэрмінізмам чалавека, бо скасоўваюць яго непаўторнасць. <...>

Кланаванне не гарантуе (нават калі б вырашальнае значэнне для перадачы здольнасцяў меў генетычны код), што «нашчадкавы» патэнцыял клона будзе выкарыстаны адпаведна з намерамі «стварыцеля» — генетыка. Чалавек <...> не павінен выкарыстоўваць усе свае прыродныя здольнасці. Спрабуючы ствараць для іншых аптымальныя ўмовы развіцця, чалавек імкнецца дапамагчы іншым адкрываць і творча выкарыстоўваць генетычны патэнцыял, разумеючы, што ў гэтым не можа ўзяць на сябе ролю «стварыцеля», інакш існуе небяспека парушыць не ідэнтычнасць, а індывідуальнасць канкрэтнага чалавека — набор усіх рысаў пэўнай асобы, якія чыняць гісторыю яе жыцця, паводзіны, непаўторны спосаб мыслення, адрозны ад іншых. Сярод аўтараў, якія лічаць кланаванне дапушчальным, з'явілася меркаванне, што яно не парушае аўтаноміі асобы, і таму яны не бачаць прычынаў прызнаць яго маральна недапушчальным.

Кланаванне парушае індывідуальнасць асобы, найперш адмаўляючы новы патэнцыял генетычных магчымасцяў, якія маглі б з'явіцца ў выніку натуральнага зачацця дзіцяці. У гэтым сэнсе беднейшым становіцца не толькі клон, але і грамадства, у якім ён расце. Далейшая праблема звязаная з развіццём кланаванага індывідуума. Усведамленне асаблівай «генетычнай пазіцыі» можа паралізоўваць працэс фармавання індывідуальнасці клона. У выпадку натуральнага кланавання такая праблема не ўзнікае, бо іх «памнажэнне» арганізмаў не было нічыёю мэтаю і ніводзін з іх не з'яўляецца для іншага «першаўзорам», за выключэннем, калі яны ў будучыні захочуць наследаваць нейкія маральныя ідэалы адно ў аднаго, аднак гэта будзе іх уласны выбар. Нягледзячы на тое, што кланаванне чалавечых эмбрыёнаў спарадычна ўзнікае ў прыродзе, гэта адбываецца ў іншых абставінах. Аднаяйкавым блізнятам даюць жыццё бацькі, дзеці з'яўляюцца плодам іх кахання. А чалавечыя клоны, якія ўзнікаюць шляхам штучнай інсемінацыі і перасаджваюцца ў арганізм маці, з'яўляюцца «прадуктам». Шанец выжыць маюць толькі некаторыя з іх: астатнія будуць замарожаныя, вырачаныя на загубу. Асабліва небяспечным было б кланаванне эмбрыёнаў і іх замарожванне з мэтаю пазнейшага выкарыстання ў якасці рэзервуару «заменных частак» для жывога блізнятка або «тканкі» для лячэння розных хваробаў. <...>

Метад кланавання, як мяркуюць яго прыхільнікі, не толькі дазволіць няплодным сужэнствам атрымаць дзіця, але і дапаможа «замясціць» мужа, жонку або памерлае дзіця, дасць магчымасць рэпрадукцыі гомасексуалістам і лесбіянкам, якія не жадаюць мець інтымных кантактаў з людзьмі іншага полу, дазволіць рэплікацыю людзей вялікага генію і гэтак далей.

Але не кожны спосаб нараджэння варты чалавечай годнасці. Калі можна згадзіцца на выкарыстанне такога шляху для «прадукавання» жывёлаў, у выпадку з людзьмі ён не падыходзіць. Чалавек, як істота, надзеленая асабовасцю, павінен быць паклікáны да жыцця асабістым спосабам, з любові. Сёння нават абыходжанне з жывёламі і іх прамысловая гадоўля выклікаюць пратэсты

экалагічных аб'яднанняў. Наколькі ж большы супраціў павінна абуджаць пралічаная рэпрадукцыя дзяцей у лабараторыі, без любові? Чалавек мусіць атрымліваць жыццё ў акце любові, што гарантуе яму годнасць, а не шляхам біямедычных тэхнік, як «прадукт». <...>

Кланаванне чалавека выклікае пагрозу пазітыўнай еўгенікі[4] —магчымасці фармавання асобных рысаў у цэлых групаў людзей і «гадоўлю» асобаў, якія маюць дакладна акрэсленыя генетычныя рысы. Калі б кланаванне чалавека выкарыстоўвалася на практыцы, існавала б магчымасць даць жыццё тысячам людзей з аднолькавымі фізічнымі якасцямі. Бацькі маглі б дакладна акрэсліваць рысы свайго дзіцяці і без цяжкасцяў рэалізоўваць уласныя пажаданні.

Кланаванне непазбежна праводзіцца ў межах еўгенічнага праекту. Калі для пераносу выкарыстоўваецца ядро клеткі, якая належыць чалавеку з вядомым фенатыпам, нехта павінен правесці селекцыю, каб вызначыць фенатып будучага індывідуума. Існаванне крытэрыяў кланавання ператварае «клона» ў прыладу для дасягнення пэўных мэтаў. Крытэрыі могуць быць простыя, як, напрыклад, вызначэнне полу, або складаныя, як вытворчасць чалавечай расы. Паміж такім планаваннем і сістэматычнай еўгенікай не існуе выразнай мяжы. Любая талерантнасць да кланавання прыводзіць да небяспекі вялікай колькасці эксперыментаў на чалавечых эмбрыёнах, што азначае знішчэнне безабаронных чалавечых істотаў. <...>

Чалавечая пракрэацыя з'яўляецца не проста дзеяннем, якое ўвасабляе нашыя рацыянальныя намеры. Яно мае больш шырокае вымярэнне, бо чалавек, акрамя як рацыянальна, удзельнічае ў ім цялесна, эратычна і духоўна. Таму аддзяленне пракрэацыі ад сексу, кахання і інтымнасці з'яўляецца дэгуманізуючым, незалежна ад таго, наколькі выніковым яно будзе. <...>

Чым зачацце адрозніваецца ад вытворчасці? У натуральнай пракрэацыі мужчына і жанчына злучаюцца, дапаўняючы адно аднаго, каб даць жыццё іншай істоце, якая становіцца такой самай чалавечай істотай: жывой, смяротнай, здольнай да эратычнага жыцця. У рэпрадукцыі шляхам кланавання <...> мы даём жыццё індывідууму не так, як былі сфармаваныя самі, а так, як умеем і праектуем. Клануючыя становяцца над кланаванымі, душачы іх сваёю воляю і крэатыўнаю моцаю. Ва ўмовах кланавання чалавека навукоўцы і будучыя «бацькі» мелі б такую ж тэхнакратычную ментальнасць і ў адносінах да дзяцей-клонаў.

Найбольшая памылка, да якой вядзе кланаванне, — няправільнае разуменне таго, што значыць мець дзяцей, і скажэнне адносінаў бацькі-дзеці. Калі сёння сужэнства выбірае пракрэацыю, гэта азначае іх згоду на пакліканне новага жыцця, разуменне яго непаўторнасці. Дзіця не з'яўляецца ўласнасцю бацькоў. Генетычная адасобленасць і незалежнасць дзіцяці сведчаць пра тое, што яно ад прыроды надзеленае правам жыць уласным, не запраграмаваным раней жыццём. Бацькі, вырашаючы кланаваць дзіця, парушаюць сутнасць адносінаў бацькі-дзеці. Дзіцяці даецца генатып, які належыць іншай асобе. Такім чынам, кланаванне мае дэспатычны характар, бо выпрацоўвае стаўленне да дзіцяці ў залежнасці ад волі бацькоў і таго вобразу, які яны сабе стварылі.

Кланаванне дае магчымасць маніпулявання чалавечымі эмбрыёнамі. Замарожаныя клоны зародкаў зробяцца аб'ектам маніпуляцый, камерцыйнае прадпрымальніцтва ў гэтым кірунку зможа развівацца без усялякага кантролю. <...> Утылітарнае стаўленне да чалавечага эмбрыёну як да рэчы з'яўляецца адной з формаў дыскрымінацыі, якая нішчыць роўнасць правоў для кожнага чалавека. Даследаванні, звязаныя з кланаваннем жывёлаў, магчымыя, але трэба цвёрда зазначыць, што павінна існаваць мяжа паміж кланаваннем жывёлаў і чалавека.

Праекты па кланаванні людзей — <...> гэта знак глыбокага крызісу нашай цывілізацыі, якая шукае ў навуцы і тэхніцы сурагат сэнсу жыцця і збаўлення. Кланаванне можа стацца трагічнай пародыяй на Божую ўсемагутнасць. Чалавек, створаны Богам, абмежаваны ў сваёй дзейнасці не толькі практычнай немагчымасцю. Ён пакліканы да выбару: хоча ён зрабіць з тэхнікі прыладу вызвалення або сам стане яе нявольнікам, ствараючы новыя сродкі для гвалту і пакутаў. Чалавечае жыццё — дар любові, і стаўленне да людзей як да прамысловага прадукту недапушчальнае.

Супраціўляцца праектам па кланаванні чалавечых істотаў абавязаны кожны чалавек ва ўсіх грамадскіх сферах. Адна справа — навуковы прагрэс, і зусім іншая — навуковы дэспатызм. У дэмакратычнай і плюралістычнай сістэме асноўнай гарантыяй свабоды кожнага чалавека з'яўляецца пашана яго годнасці на ўсіх этапах жыцця, незалежна ад інтэлектуальных і фізічных якасцяў, якія ён мае і якіх пазбаўлены.

Кланаванне чалавечых істотаў перакрэслівае прынцып, які з'яўляецца абавязковаю ўмоваю любога супольнага жыцця — прынцып стаўлення да чалавека як да мэты і каштоўнасці ў любых акалічнасцях, і ніколі — як да сродка або прадмета. Кланаванне, з'яўляючыся асобнаю праяваю геннай інжынерыі, не стасуецца з чалавечай натурай і тым светам каштоўнасцяў, якім з'яўляецца чалавек, а таму яго трэба лічыць амаральнай дзейнасцю. <...> Нельга таксама праводзіць эксперыменты па прышчапленні чужых генаў да

чалавечых генератыўных клетак і па прышчапленні чалавечых генаў да генератыўных клетак жывёлаў. <...>

**Апошнія высновы**

Дзякуючы прагрэсу <...> чалавек мае ў сваім распараджэнні ўсё больш якасныя лекавыя сродкі, становіцца гаспадаром новых магчымасцяў, наступствы якіх нельга цалкам прадбачыць. <...> Розныя тэхнічныя прыёмы дазваляюць чалавеку інтэрвенцыю не толькі дзеля лекавых мэтаў, але і з мэтаю кіравання працэсамі перадачы жыцця. Такія тэхналогіі <...> ставяць чалавека перад «спакусаю перакрочыць межы разумнага панавання над прыродаю». <...>

Кланаванне можа змяніць біясферу толькі ў негатыўным кірунку. <...> Для геннай інжынерыі патрэбныя добрасумленныя веды, якія датычаць генаў і геномаў, а таксама механізмаў іх функцыянавання, веды пра характар адносінаў паміж адцінкамі ДНК і закадаванымі ў іх рысамі фенатыпу, выкарыстанне адпаведнай тэхнікі для маніпулявання адцінкамі ДНК ва ўсіх арганізмах, веды пра наступствы гэтых эксперыментаў, у тым ліку і пра магчымыя парушэнні сістэмы каштоўнасцяў і канцэпцый, прынятай чалавекам. Каб зразумець этычнае вымярэнне генетычных маніпуляцый, дзе асноўнай тэхнікай даследавання з'яўляецца апладненне «*in vitro*» і кланаванне, трэба адказаць на пытанні: якую сістэму каштоўнасцяў прымае генетык, карыстаючыся гэтымі метадамі, а таксама і прадмет яго эксперыментаў; што з'яўляецца для яго найвышэйшаю каштоўнасцю і якую іерархію каштоўнасцяў ён вызнае?

Усялякія працэсы пазнання чалавека не павінны пагражаць яму і знішчаць яго самога як чалавека. Інакш гэта было б самазабойствам. Чалавек і яго свабодная асабістая дзейнасць не павінны знаходзіцца пад пагрозаю навукі. <...> Калі прагрэс у біятэхналогіі <...> будзе адбывацца ў межах, вызначаных годнасцю чалавека, а вызначаныя ёю мэты будуць рэалізоўвацца пры дапамозе дазволеных сродкаў, гэта толькі забяспечыць падвышэнне ўзроўню жыцця людзей, справядлівы падзел зямных даброт і захаванне натуральнага асяродку ад пашкоджання.

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*

[1] Клетка з падвойным храмасомным наборам, што ўтвараецца ў выніку апладнення.

[2] Рэпрадуктыўныя клеткі.

[3] Эктагенэзам можна назваць рост і развіццё дзіцяці, зачатага па-за матчыным улоннем, калі інкубатар замяняе арганізм маці.

[4] Еўгеніка — селекцыя чалавечага віду, якая можа мець пазітыўны і негатыўны характар. Пазітыўная — мае за мэту паляпшэнне чалавечага віду, негатыўная — абмежаванне пракрэацыі непажаданага грамадствам спадчыннага элементу. Найбольш вядомы прыклад негатыўнай еўгенікі — «расавая гігіена», якая праводзілася ў Трэцім рэйху і на практыцы азначала стэрылізацыю непрацаздольных і дэфектыўных людзей, іх дыскрымінацыю ў сужэнскіх правах.

Бібліяграфія:


1. *K. Kłoskowski*, «*Bioetyczne aspekty inżynerii genetycznej*». — Варшава, 1995, с. 24, 26.
2. *W. Boloz,* «*Etyczne aspekty klonowania ludzi*», «*Homo Dei*», 64 (1997), 1–2, с. 89, 90.
3. *W. Boloz,* «*Dyskusje wokół eksperymentu z klonowaniem*», *AK* 536 (1998), с. 4–5, 7, 10, 11.
4. *A. Horst*, «*Klonowanie — obietnica lepszej przyszłości?*», *MWR* 3 (1999), 3 дадатак 1: «*Czy klonować człowieka? Kontrowersje wokól klonowania*», с. 15.
5. *T. Ślipko*, «*Granice życia. Dylematy współczesnej bioetyki*». — Кракаў, 1994, с. 149.
6. *J. de Dios Vial Correa*, «*Klonowanie czlowieka: technika w służbie dehumanizacji?*»; (*w*:) *B. Chyrowicz* (*red.*), «*Klonowanie czlowieka. Fantazje — zagrożenia — nadzieje*», «*Klonowanie a identyczność osoby*»; *R. L. Kass*, «*Mądrość oburzenia. Dlaczego powinniśmy zakazać klonowania czlowieka?*». — Люблін, 1999, с. 109, 116–117, 130, 151–153, 139–140, 174, 177, 183.
7. *J. de Dios Vial Correa, E. Sgreccia* (*red.*), «*Cloning. Between Science and Ethics*», (*w*:) «*Human Genome, Human Person and the Society of the Future. Proceedings of Fourth Assembly of the Pontifical Academy for Life (Vatican City, February 23–25, 1998)*», *Libreria Editrice Vaticana*, 1998, с. 318–339.
8. *P. Singer, D. Wells*, «*Dzieci z próbówki. Etyka i praktyka sztucznej prokreacji*». — Варшава, 1988, с. 144–151, 167.
9. *A. J. Katolo*, «*ABC bioetyki*». — Люблін, 1997, с. 45–47.
10. *L. M. Silver,* «*Remarking Eden. Cloning, Engineering and the Future of Humankind*». — Лондан, 1999, с. 115.
11. *M. Baker*, «*Report Casts Doubt on Korean experiment*», *Science* 283 (1999), с. 617–619.
12. *J. B. Cibelli, R. P. Lanza, D. West* з дапамогаю *C. Ezzell*, «*Pierwszy ludzki klon*», SN 1 (2002), с. 30, 36.
13. *T. Ślipko*, «*Granice życia. Dylematy współczesnej bioetyki*». — Кракаў, 1994, с. 131.
14. *A. K. Tarkowski*, «*Kilka uwag embriologa na temat zagrożeń i korzyści zastosowania techniki klonowania w odnieseniu do człowieka*»; *M. Fikus,* «*Klonowanie. Klonowanie ludzi?*»; *A. Jermanowski,* «*Klonowanie — spojrzenie biologa*»; *A. Przyłuszka-Fiszer,* «*Klonowanie człowieka jako problem etyczny*»; *A. Paszewski,* «*Czy klonować człowieka?*»; *K. Kloskowski*, «*Klonowanie, czyli ostatni absurd cywilizacji końca XX wieku*»; *MWR* 3 (1999) 3 дадатак 1: «*Czy klonować człowieka? Kontrowersje wokół klonowania*», с. 7, 48–49, 52, 102, 146.
15. *J. A. Modliński, J. Karasiewicz*, «*Klonowanie ssaków: mity i rzeczywistośc*» (*w*:) *B. Chyrowicz* (*red.*), «*Klonowanie czlowieka. Fantazje — zagrożenia — nadzieje*». — Люблін, 1999, с. 74–76.
16. *R. Spaemann*, «*Interwencje genetyczne w naturę ludzką*», *Ethos* 4 (1998), с. 113, 114.
17. *A. G. Spagnolo,* «*Diagnostyczne i przedobjawowe badania genetyczne — służba czy wyrok?*» *Ethos* 44 (1998), с. 152.
18. *J. Ratzinger,* «*Człowiek pomiędzy reprodukcją a stworzeniem*» (*w*:) *L. Balter* (*red.*), «*Kosmos i człowiek*». — Познань, 1989, с. 287–300.
19. *B. Chyrowicz*, «*Bioetyka i ryzyko*». — Люблін, 2000, с. 300.
20. *D. McCarthy,* «*Persons and their Copies*», *JME* 25 (1999), с. 98–104.
21. *K. Tittenbrun,* «*Etyka klonowania*», *Ey* 23 (1988), с. 138, 141–143.
22. *A. Latawiec,* «*Philosophical and theological ramifications resulting from human embryos cloning*», *SPCh* 1 (1999), с. 47–148.
23. *B. Müller-Hill,* «*Genetyka a masowe morderstwa Żydów i innyh*», PP 9 (1995), с. 234–242.
24. *C. Strong,* «*Cloning and Infertility*», *CQHE* 7 (1998), с. 279–293.
25. *P. Verspieren,* «*Le clonage humain et ses avatars*», *Et* 3915 (1999), с. 462–464.
26. *A. Chapelle,* «*Le clonage d'ętres humains*», *NRTh* 123 (2001) 31–33.
27. *E. Bonné,* «*Perpllexité étique devant le clonage*», *RTL* 30 (1999), с. 437–455.
28. «Дэкларацыя ААН аб правах разумова адсталых асобаў» (20.12.1971); «Стандартныя правілы ААН па забеспячэнні роўных магчымасцяў для інвалідаў» (20.12.1983); «Усеагульная дэкларацыя аб геноме чалавека і правах чалавека ЮНЭСКА» (11.11.1997).
29. *Jan Paweł II,* «*Osoba, nie wiedza jest miarą i kryterium wszelkiego działania ludskiego*» (*w*:), «*Nauczanie społeczne*», т. 3, ч. 2. — Познань-Варшава, 1986, с. 534–537.
30. *M. A. Krąpiec,* «*Ludska wolność i jej granice*». — Люблін, 2000, с. 90.



Франсуа Ксав'е Фабр. Партрэт Паўла Ксавэрыя Бжастоўскага (1798).
(На мармуровым пастаменце высечаны фрагмент з карціны Францішка Смуглевіча «Павел Ксавэры Бжастоўскі абʼяўляе Статут сялянам Паўлава».)

Андрэй ШПУНТ

# «СЯЛЯНЕ ПАЎЛАВА — СЯБРУ ЧАЛАВЕЦТВА»

30 сакавіка 1739 года ў Мосары, каля Дунілавіч на Віленшчыне, у сям'і герба «Стрэмя» графа Юзафа Бжастоўскага, пісара вялікага літоўскага, і Людвікі з Садоўскіх нарадзіўся сын Павел Ксавэры.

Замест выдатных кар'ерных магчымасцяў, што адкрываліся для прадстаўніка магнацкага роду, звязанага са шматлікімі ўплывовымі дамамі Кароны і Княства, 13-гадовы граф абраў лёс святара. Як практыкавалася ў тыя часы, тады ж ён быў прызначаны канонікам віленскай катэдры, а ўступіў на пасаду пасля заканчэння вучобы ў 1755 годзе. Далей атрымліваў адукацыю ў духоўных акадэміях у Вільні, Варшаве і з 1758 года — у Рыме, у калегіуме Клементынум. У тым жа годзе ў Еўропе адбылася падзея, якую параўноўвалі з вынаходніцтвам кнігадрукавання і адкрыццём законаў прыцягнення: свет убачыла «Tableau Economique» («Эканамічная табліца»), створаная лейб-медыкам Людовіка XV Франсуа Кенэ. Гэта быў геніяльны ў сваёй прастаце і нагляднасці маніфест першай плыні навуковай эканамічнай думкі — рэцэпт, прылада, практычнае настаўленне, штуршком для стварэння якога паслужыў варты жалю фінансава-эканамічны стан Францыі. Чысты прыбытак ад зямлі складае аснову ўсіх разважанняў Кенэ. Новае вучэнне атрымала назву фізіякратызм (фр. *physiocrates* < гр. *physis* прырода + *kratos* улада), дзе зямля і земляробства прызнаваліся адзінымі крыніцамі багацця, а праца земляроба — адзінаю вытворчаю працаю. Таксама агалошваліся правы кожнага на ўласнасць і свабоду, гарантам захавання якіх з'яўля-

**Андрэй ШПУНТ** — беларускі гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

лася абсалютная манархія. Ажыццяўленне ідэй Кенэ звязвалася з узыходжаннем на прастол Людовіка XVI, які прызначыў Жака Цюрго першым міністрам (праз 20 месяцаў гэтыя спадзяванні былі пахаваныя з падзеннем Цюрго).

Па вяртанні з Рыма кс. Бжастоўскі атрымаў пасаду пісара вялікага літоўскага і быў абраны віленскай катэдрай дэпутатам Літоўскага Трыбуналу. З усёй адданасцю ён нёс святло каталіцкай веры сярод маральнага бруду XVIII стагоддзя, гэтага «галантнага веку», калі, як і сёння, пад выглядам «прагрэсу» ішоў наступ на фундаментальныя каштоўнасці, аб'яўленыя чалавецтву на Гары Сінай. Знаёмства з эканамічнай тэорыяй Кенэ падказала шлях, таму, калі пачаўся працэс падзелу бацькоўскай спадчыны (+ у 1746 г.), кс. Бжастоўскі адмовіўся ад сваёй долі зямельных уладанняў узамен на грашовую кампенсацыю. Паходня, выпаўшая з рук французскіх фізіякратаў, была падхоплена ў Вялікім Княстве Літоўскім...

Кс. Бжастоўскі пачаў шукаць месца для ажыццяўлення сваіх планаў і нарэшце ў ліпені 1767 г. набыў у наваградскага стольніка Гіпаліта Корсака маёнтак Мерач (вядомы тым, што ў ім памёр Уладзіслаў IV Ваза), за 4 мілі (каля 22 км) ад Вільні. Вельмі зручнай была невялікая адлегласць ад сталіцы, а таксама гандлёвых мястэчак — Ашмянаў, Міхалішак, Барунаў, Меднікаў, Яшуноў, Алькенікаў і Эйшышак. Па багатай на рыбу рацэ Мерачанцы, якая перасякала маёнтак, можна было сплаўляць лес, а праз Нёман падтрымліваць гандаль з Коўнам і мець выхад да Балтыкі. У Мерацкай пушчы велічна пагойдваўся мачтавы лес і вадзілася шматлікае звяр'ё. Абшары былі шчодра аздобленыя лугамі і пашамі, але быў і адваротны бок. «Знайшоў зямлю, парослую лесам <...>, — пісаў кс. Бжастоўскі, — мала населеную. І тую жменьку людзей здзічэлых, жыўшых у галечы, прыйшлося па лясах вылоўліваць».

Не жадаючы, каб назва «Мерач» у будучыні нагадвала пра былое ўбогае жыццё, кс. Бжастоўскі даў маёнтку сваё імя — Паўлава.

Новы гаспадар дзейнічаў асцярожна і разважліва. Размаўляў з усімі і з кожным паасобку, заклікаў будаваць жыццё пахрысціянску, узнагароджваючы тых, хто добра вёў гаспадарку і кідаў п'янства. Паступова перайшоў да эканамічных пытанняў. Вобраз будучага ладу Паўлава, выпрацаваны кс. Бжастоўскім, абмяркоўваўся ў сялянскіх хатах, і ў гэтым былі зарука яго жыццяздольнасці.

У 1769 годзе адбылося ўрачыстае, пасля св. Імшы, абвяшчэнне Статута (2-е выд. у 1791 г.), якім гарантавалася права на жыццё, здароўе, маёмасць і г.д.

Як заўважыў польскі даследчык рэформаў у Паўлаве Юліян Бартысь: «Бжастоўскі зыходзіў з таго, што толькі адукаваны, заможны і кваліфікаваны селянін будзе складаць грамадскую сілу, з якой будзе лічыцца шляхта; адтуль толькі крок да надання сялянам грамадзянскіх правоў і дапушчэння да ўдзелу ў кіраванні дзяржавай. Ён таксама ўказваў на вялікія рэзервы мілітарнай сілы дзяржавы, што змяшчаліся ў адукаваным і заможным сялянстве, якое пасля адпаведнага вайсковага навучання можна было мабілізаваць у рамках паспалітага рушэння».

Закінутая ў лясах і патануўшая ў галечы і невуцтве Мерач ператварылася ў Паўлаўскую Рэспубліку, ці Паўлаўскую Рэч Паспалітую з 2-палатным парламентам, войскам і манетаю. Дынамічна ажыццяўляліся разнастайныя рэформы. Грамадзянам новай Рэспублікі гарантаваліся свабоды, не бачаныя нават у самай свабоднай краіне тагачаснай Еўропы — Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Дасягненні ўражвалі. Пайшлі запыты аб пераймалні вопыту ад такіх уплывовых людзей як Адам Чартарыйскі, Ганна Ябланоўская, Станіслаў Панятоўскі і іншых магнатаў. Францішак Бялінскі пісаў у 1775 г., што: «...прыкладам сваім, калі быдла ў людзей ператварыў, даў доказ, што гэта не з'яўляецца такой цяжкаю справаю». Юзаф Выбіцкі, наведаўшы Паўлава, у захапленні ад убачанага пакінуў верш: «Калі б за тваім прыкладам пайшло  сармацкае племя, тады б шчаслівай сталася зямля...». Станіслаў Аўгуст не скупіўся на пахвалы рэфарматару і прасіў ад яго імя дзякаваць сялянам за іх вернасць і труды. У 1774 годзе прыйшла вестка аб наданні кс. Бжастоўскаму годнасці рэферэндарыя літоўскага (у 1787 годзе ён адмовіўся на карысць кракаўскага каноніка і рэктара Кракаўскага ўніверсітэта Гуга Калантая), і ён паспяшыў у Варшаву, каб скласці падзяку, але кароль не даў гаварыць, кажучы: «Сабе Ваша Мосць пан дзякуй, бо гэта заслужыў», а калі ад'язджаў, з каралеўскіх рук атрымаў ордэн Белага Арла (яшчэ 8 траўня 1767 года стаў кавалерам ордэна св. Станіслава).

Не абышлося і без лыжкі дзёгця, а хутчэй — цэлага чарпака. Шматлікія суседзі кс. Бжастоўскага, а таксама шляхта і магнатэрыя з іншых месцаў Рэчы Паспалітай (у сваім вузкасаслоўным эгаізме, які і пагубіў краіну) убачылі ў рэфарматары небяспеку для сацыяльна-эканамічнага ладу, дзе шляхта займала пануючае становішча. Абураліся, што не пасуе ксяндзу займацца гэткімі рэчамі як зем-

ляробства і тым больш пісаць кніжкі на гэтую тэму, а яшчэ аблягчаць сялянам магчымасць пакідаць панскія ўладанні, карыстацца эканамічнымі прывілеямі, якія дагэтуль належалі толькі шляхце, і г.д. Крытыка пашыралася, расцягвалася ў часе і памерах, прымала выгляд ад зайздросных плётак да навуковых даследаванняў, у якіх сцвярджалася, што і чынш на самай справе быў не такі маленькі, і рэфарматар толькі і глядзеў, каб садраць паболей са сваіх падданых, і г.д. Толькі працы гэтыя ці выходзілі з тых жа шляхецкіх колаў (Эдмунд Ставіскі), ці пісаліся пры камуністах (Эмануэль Раствароўскі). А так, калі проста параўнаць гаспадарку кс. Бжастоўскага з тым жа калгасам, то адразу ж стане зразумела, дзе вольная праца, а дзе рабская, якая, як вядома, далёка не вытворчая. Шкада, аднак, што нават такі выдатны чалавек як Уладзіслаў Сыракомля і той адзначыў, што: «Бжастоўскі любіў фанфаранады...». Але пад усёй гэтай крытыкай чырвоную рысу правёў польскі гісторык Юліян Бартысь, зрабіўшы грунтоўнае даследаванне дзейнасці кс. Бжастоўскага, у тым ліку свайго роду падсумаванне ўсяго, што было напісана дагэтуль, і вынес вердыкт: «У дзеяннях Паўла Бжастоўскага і яму падобных змяшчаюцца карані нашага нацыянальнага быцця і ўсяго, што ў паляках (і ліцвінах, зразумела. — А. Ш.) найлепшага і найцікавага!».

...На пачатку 1795 года ў Варшаве кс. Бжастоўскі атрымаў ліст, падпісаны 12-цю членамі Паўлаўскага самакіравання, былых жаўнераў і падафіцэраў сялянскага войска, з выказваннямі падзякі, вернасці і спадзяваннямі на вяртанне. Да ліста быў прыкладзены залаты



Ордэн Белага Арла, XVIII ст.

пярсцёнак з надпісам: «Сяляне Паўлава — Сябру чалавецтва»...

Асвятляючы жыццё кс. Бжастоўскага, нельга абысці яго дзейнасць як літаратара і мецэната. Фінансава і пратэкцыйна ён спрычыніўся да апублікавання двух дзясяткаў трудоў па гісторыі Рэчы Паспалітай, філасофіі, тэалогіі, касцёльнага права. З'яўляўся аўтарам некалькіх дзясяткаў перакладаў з лацінскай, французскай і італьянскай моваў па генеалогіі, тэалогіі, гісторыі і палітычных праблемах. Дэдыкацыі віленскіх выданняў у 1760–1780 гады езуіцкіх, піярскіх і базыліянскіх выдавецтваў усхваляюць яго шчодрасць і ініцыятыву ў выдавецкай справе.

Клапоцячыся аб славе свайго роду, ён выдаў у 1776, 1796 і 1818 гадах на некалькіх мовах «Генеалагічныя весткі пра дом Бжастоўскіх». У 1809 годзе звярнуўся да кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта аб арганізацыі друкарні на вёсцы для ананімнага выдання ўласных кнігаў. Планы былі вялікія, але свет убачылі толькі тры кнігі: «Весткі Паўлава», «Разважанні з вёскі Тургелі (філасофскі трактат)» і «Апісанне выяваў касцёлаў у Рыме і краі».

...Але вернемся ў Паўлава, дзе панавалі спакой, стабільнасць і дабрабыт. Маёнтак, нібы каўчэг, праплываў скрозь хвалі пераменаў і ўзрушэнняў апошніх дзесяцігоддзяў Рэчы Паспалітай — Першы падзел, станіславаўскія рэформы, Чатырохгадовы сойм, Канстытуцыя 3 траўня 1791 года, Таргавіцкая канфедэрацыя, вайна 1792 года, Другі падзел.

У сакавіку 1794 года Антоні Мадалінскі, шэф брыгады Нацыянальнай кавалерыі, даў пачатак вызвольнаму паўстанню пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, а ў першай палове чэрвеня генерал-лейтэнант Якуб Ясінскі рабіў інспекцыю міліцыі кс. Бжастоўскага і адзначаў між іншым, што: «...Твары іх былі тварамі вольных і вясёлых людзей, і зброя ў добрым стане». Пяць тысяч войскаў Ясінскага некалькі дзён кватаравалі ў Паўлаве і атрымалі звыш усяго ад кс. Бжастоўскага шчодрыя ахвяраванні харчамі і фуражом. Ён перадаў на патрэбы паўстання і значныя сумы, як пісаў пазней: «... аддаў увесь маёнтак для мілай Айчыны».

Далейшыя падзеі сведчаць аб тым, што кс. Бжастоўскі выхаваў не толькі добрых сялянаў, а яшчэ людзей, што адчулі смак волі, былі гатовыя жыцці пакласці, каб толькі не трапіць пад расейскае ярмо.

Першая сутычка з непрыяцелем адбылася 3 ліпеня, калі 60 конных казакаў з'явіліся пад умацаваннямі Паўлава і былі адагнаныя. На наступны дзень яны з'явіліся зноў... Адбіць атаку дапамаглі аддзелы генерала Вяльгорскага, што былі непада-

лёк. Пасля адыходу войскаў ВКЛ 14 ліпеня ад'ехаў і кс. Бжастоўскі (паводле Э. Раствароўскага, клапаціцца аб вакантным месцы пасля пакарання за нацыянальную здраду віленскага біскупа Масальскага).

24 ліпеня сяляне Паўлава, прадастаўленыя самі сабе, зноў адбілі чарговую атаку, на гэты раз вялікага аддзела войскаў, праслаўленых пад мурамі Ізмаіла. З ліста кс. Бжастоўскага да Касцюшкі ад 4 верасня 1794 года вынікае, што, акрамя 150 чалавек міліцыі пры трох гарматах малога калібру, у абароне прымалі ўдзел усе здольныя насіць зброю. Змываць ганьбу прыбыў генерал Цыцыянаў з цяжкой артылерыяй, з вялікай колькасцю пяхоты і кавалерыі генерала Кнорынга. Для Паўлава і яго жыхароў усё было скончана. Абаронцы, хто паспеў, разбегліся па навакольных вёсках, а ўся гаспадарка была разрабаваная корпусам Кнорынга. 27 ліпеня Цыцыянаў даносіў Рапніну: «У Паўлаве жыхароў няма».

...Не было там месца і для кс. Бжастоўскага. У лісце да Станіслава Аўгуста ад 27 снежня 1794 ён года адкінуў магчымасць вяртання. Кс. Бжастоўскі прадаў тое, што засталося ад Паўлава, Фрыдэрыку Машынскаму пры ўмове захавання Статутаў 1769 і 1791 гадоў і атрымаў палац у Дрэздэне з фальваркам. Перад ад'ездам ён запісаў свайму «ўлюбёнаму народу» за службу аграмадную суму — звыш 81 тыс. зл., ахвяраваў 30 тыс. зл. на парафіяльную школу і на хірурга ў Паўлаве, і 20 тыс. зл. на касцёл у Тургелях.

Неўзабаве маёнтак перайшоў ва ўладанне Камандоры Мальтыйскага ордэну. Новыя гаспадары парушылі Статуты і



Герб «Стрэмя».

падвысілі чынш. Сялянскія пратэсты да судовых і гарадскіх уладаў у Вільні скончыліся нічым — звярталіся да кс. Бжастоўскага, але ксёндз у выгнанні, заклеймаваны як арганізатар збройнай барацьбы супраць новых уладаў, ужо не мог дапамагчы.

Даведаўшыся аб уступленні французскіх войскаў у Саксонію, кс. Бжастоўскі на вельмі некарысных умовах прадаў сваю нерухомасць і ад'ехаў у Рым, дзе, абкружаны павагай як прэлат Папы, быў уведзены ў вышэйшыя колы Ватыкана. Далей адбыўся захоп войскамі Банапарта Папскай вобласці і арышт Святога Айца. І зноў спешны ад'езд з вялікімі фінансавымі стратамі ад продажу нерухомасці: банк Рыма здолеў выплаціць толькі 60 % ад капітала банкнотамі і чэкамі, якія мала што каштавалі. Так, праз пяць гадоў эміграцыі, страціўшы амаль усю маёмасць, кс. Бжастоўскі вярнуўся на Радзіму і пасяліўся ў Тургелях, недалёка ад Паўлава. Сустрэча з былымі падданымі патанула ў слязах радасці і горычы: на каленях яны прасілі яго забраць іх да сабе, але гэта было ўжо немагчыма (здолеў толькі ахвяраваць ім 3 тыс. зл.).

Апошнія 32 гады кс. Бжастоўскі служыў пробашчам у Рукойнях пад Вільняй, дзе цудоўныя краявіды так захаплялі Сыракомлю. Вольны час прысвячаў літаратурным заняткам, а яшчэ арганізаваў школу, пасадзіў сад і ахвяраваў сродкі на пабудову каменнага касцёла (стары згарэў у 1812 годзе падчас праходу французаў).

Узведзены ў траўні 1823 года ў сан віленскага архідыякана.

Памёр 17 лістапада 1827 года і пахаваны ў Рукойнях.

...Адбудаваны кс. Бжастоўскім касцёл расійскія ўлады перарабілі ў царкву. Уся маёмасць нябожчыка таксама трапіла ў іх рукі. Надмагілле разам з труной — знішчанае. Нічога не засталося. І толькі вішнёвыя ды грушавыя дрэвы перад сялянскімі хатамі, — як пісаў Сыракомля, — адзіная памяць. Не кожны з уладальнікаў і плябанаў і такое па сабе пакідае...

Каб убачыць з больш блізкай адлегласці, што ўяўляла з сябе дзейнасць кс. Бжастоўскага ў Паўлаве на фоне стану сельскай гаспадаркі ў ВКЛ, прапаную чытачам і гэтую інфармацыю. Як пісаў польскі даследчык Валеры Пжыбароўскі, «у тагачаснай Рэчы Паспалітай, якую дагэтуль называлі «жытніцай Еўропы», адбываўся надзвычайны ўпадак сельскай гаспадаркі. Пры тых вялікіх абшарах урадлівай глебы сельска-гаспадарчымі культурамі было засеяна ледзь толькі 70 млн моргаў, з якіх пад збожжа — толькі 24 млн. Улічваючы сярэднюю ўраджайнасць з морга, павінна было вырабляцца каля 100 млн карцаў




«Цытадэль Паўлава». Гравюра Антаніні.

збожжа штогод, хаця і гэтага вельмі мала, а між тым агульная вытворчасць ледзь дасягала 20 млн! Гэта не складала нават паловы ад гадавой вытворчасці Францыі і было амаль у пяць разоў менш ад той колькасці збожжа, якое вывозілася праз порты на Балтыцы пры Жыгімонтах».

Рэформам у Паўлаве прысвечаны навуковыя даследаванні, а мы ў рамках артыкула абмяжуемся іх кароткім аглядам:

— асабістая свабода для сялянаў;

— узброеная і прававая абарона сям'і і маёмасці;

— перадача зямлі ў вечнае карыстанне;

— дазвол на прамыя кантакты сялянаў з кс. Бжастоўскім і яго служачымі;

— меры па ўзмацненні і павелічэнні эканамічнай самастойнасці сялянаў;

— перавод на чынш (у 1786 г. фальварачная (панская) зямля маёнтка амаль цалкам была раздадзена сялянам, а адпрацоўчая павіннасць замененая на чынш);

— ліквідацыя церазпалосіцы;

— барацьба з п'янствам і злачынствамі;

— права вольнага карыстання Мерацкай пушчай і продажу яе дароў;

— права рыбнай лоўлі і бортніцтва;

— абавязковае навучанне, у тым ліку і тэарэтычная земляробчая падрыхтоўка з правядзеннем земляробчых эксперыментаў (сваім коштам кс. Бжастоўскі трымаў 2 «дарэктараў» для навучання дзяцей і дарослых, потым адчыніў школу, у якой выкладалі чытанне, пісьмо, арыфметыку, рэлігію, геаграфію краю, асновы сельскагаспадарчай навукі і г.д.);

— стварэнне ашчадна-пазыковай касы, з якой можна было атрымаць пазыку грашыма, збожжам і жывым інвентаром;

— утварэнне войска (міліцыі) для абароны Паўлава і Рэчы Паспалітай (забяспечвалася мундзірамі і агняпальнай зброяй аданага калібру, якая захоўвалася ў сялянаў. Міліцыя мела штандар, на якім былі выявы мальтыйскага крыжа, герба «Стрэмя» і літара «Р» (Паўлава);

— выданне падручнікаў па земляробстве і першай медыцынскай дапамозе (у 1770 г. кс. Бжастоўскі выдаў падручнік «Пра земляробства для выгады гаспадароў, якія пражываюць у Паўлаве» (першы сельскагаспадарчы падручнік для сялянаў у Рэчы Паспалітай), і падручнік для сялянаў са звесткамі пра хваробы і лекі. Кс. Бжастоўскі жорстка ацэньваў падыход да земляробства ў краіне, указваючы на тое, што ўсё земляробства знаходзіцца ў руках сялянаў, людзей несвядомых, неадукаваных, затое прасякнутых няслушнымі правіламі, якія ў свядомасці сваёй працы бадай нічым не адрозніваюцца ад быдла, што працуе разам з імі);

— фінансаванне рытуалаў (хрост, вяселлі, пахаванні);

— заснаванне аптэкі і ўтрыманне фельчара (з 1788 г. на ўтрыманне сталага фельчара і школы быў прызначаны капітал у 30 тыс. зл., з якога штогод

па некалькі сотняў зл. ішло фельчару і на ўтрыманне аптэкі);

— свабода гандлю і рамёстваў;

— абавязак утрымання ў кожнай гаспадарцы фруктовага саду;

— выдзяленне для сялянаў вялікіх (21-35 га) гаспадарак з лугамі і пашамі;

— развіццё жывёлагадоўлі (каровы, коні, валы, свінні, авечкі) і раслінаводства (пшаніца, лён, каноплі) па сістэме французскага прыродазнаўцы Дзюгамэля дю Мансо;

— скіраванасць сялянскага самакіравання на кантроль у сферы працы і інтэнсіфікацыі гаспадаркі;

— увядзенне сістэмы ўзнагародаў (узорнае вядзеннне гаспадаркі, высокія ўраджаі) і пакаранняў (п'янства, дрэннае вядзенне гаспадаркі);

— увядзенне адміністратыўных метадаў (справаздачы, нарады і г.д.).

На стабілізацыі сялянскіх бюджэтаў адразу ж станоўча адбіўся дазвол на лоўлю рыбы і карыстанне Мерацкай пушчай. У выніку навуковага падыходу да земляробства гаспадаркі сталі атрымліваць вельмі высокія на тыя часы ўраджаі: у малаўраджайныя гады ў сярэднім 9 ц з га, а падчас ураджайных — да 14 ц з га (для параўнання, гэта былі сярэднія паказчыкі ў II Рэчы Паспалітай, а ў БССР з яе калектывізацыяй яны не дасягалі ў сярэднім і 6,5 ц з га). Разгарнулася вельмі прыбытковая галіна расліннай прадукцыі (пшаніца, лён, каноплі) і садавіны (яблыкі, грушы, слівы). Не адставала і жывёлагадоўля: колькасць жывёлы дасягала 25-ці галоваў на гаспадарку.

Своеасаблівай візітнай карткай Паўлаўскай Рэспублікі была яе забудова, тое, што ўражвала ўсіх наведвальнікаў. Уся архітэктоніка рэгламентавалася Статутам 1769 года, згодна з якім сялянскія хаты ўзводзіліся з гладкачасанага бруса, з гонтавым дахам, муравaнымі комінамі, кафельнымі печамі і кухнямі, шклянымі вокнамі. Перад кожным домам усталёўваліся процiпажарныя прылады. У тым жа Статуце Паўлава названа «мястэчкам» (хутчэй гэта было жаданнем кс. Бжастоўскага, чым сапраўдны стан), сэрца якога — цытадэль, аточаная з двух бакоў ровам і валамі, а з другіх — ракой.

У выніку праведзеных рэформаў прыбытак на гаспадарку складаў 1800–3000 зл. штогод. Чынш не перавышаў 9–11 %. З боку кс. Бжастоўскага гэта была нечуваная па тых часах філантропія, а хутчэй проста вядзенне справы ў адпаведнасці з Божымі запаведзямі.

Далейшыя лічбы сведчаць самі за сабе. Дэмаграфічнае становішча заўсёды было актуальнай праблемай для ВКЛ, якое ўвесь час цярпела ціск усходняга суседа. У пачатку рэформаў кс. Бжастоўскага ў Паўлаве налічвалася 276 душаў, у 1786 годзе — ужо 671. На працягу 1780–1786 гадоў было запісана 188 народжаных і 95 памерлых — гэта вельмі высокі паказчык натуральнага прыросту. Яшчэ ў 1776 г. кс. Бжастоўскі сведчыў, што: «усё больш новых гаспадароў сцягваецца ў Паўлава і асядае», а ў лісце да Станіслава Аўгуста ад 22 траўня 1791 г. дакладаў, што часта атрымлівае звесткі «аб людзях, збеглых з няволі, што шукаюць мілай кожнаму волі». Такім чынам, можна сцвярджаць, што лічба 671 не з'яўляецца максімальнай.

...У лісце да кс. Бжастоўскага ад 30 кастрычніка 1775 г. Станіслаў Аўгуст пісаў: «Няхай Вас за гэта Бог узнагародзіць, а мне няхай зробіць ласку быць здольным з часам ашчаслівіць так увесь край, як Ваша Мосць пан сваіх падданых».

ЛІТАРАТУРА

1. Кене Франсуа//Энциклопедический словарь Брокгауза и Эфрона. Биографии. Т. 5 – Москва, 1994. – С. 768–769.
2. Пазднякоў В. Паўлаўская Рэспубліка // ЭГБ. Т. 5. – Мінск, 1999. – С. 438–439.
3. Baliński M. Pamiętniki o Janie Śniadeckim, jego życiu prywatnem i publicznem i dziełach jego. T. II. — Wilno, 1865.
4. Bartyś Julian. Rzeczpospolita Pawłowska na tle reform włościanskich w Polsce w XVIII wieku. — Warszawa, 1982.
5. Brzostowski Paweł Ksawery//Wielka enc. powszechna ilustrowana. T. IX. — Warszawa, 1893. – S. 607.
6. Merecz//Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. VII. — Warszawa, 1888. – S. 906.
7. Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. — Warszawa — Lublin — Łódź — Kraków, 1917.
8. Obst J. Rzeczpospolita Pawłowska//Litwa i Ruś. Z. 3. 1913. – S. 129–145.
9. Pohoska H. Sprawa oświaty ludu w dobie Komisji Edukacji Narodowej. — Kraków, 1925.
10. Przyborowski W. Włościanie u nas i gdzieindziej. — Wilno, 1881.
11. Rostworowski E. Reforma Pawłowska Pawła Ksawerego Brzostowskiego (1767–1795)//Przegląd historyczny. T. XLIV, Z. 1–2. — Warszawa, 1953. – S. 101–152.
12. Smoleński W. Ostatni rok Sejmu Wielkiego. — Kraków, 1897.
13. Syrokomla W. Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna. T. II. — Wilno, 1860.
14. Turkowski T. Brzostowski Paweł Ksawery//PSB. T. III. — Kraków, 1937. – S. 55–56.
15. Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. T. III. — Poznań, 1881.

# ЗНАКІ НЕСПАКОЮ

*Вярцінскі Анатоль. Жыцьмем: вершы і паэмы. Серыя «Кнігарня пісьменніка». — Мінск. «Кнігазбор», 2012.*




Паэт Анатоль Вярцінскі сваім сябрам і знаёмцам любіць рабіць нечаканыя падарункі ў выглядзе рэдкіх кніг. Прызнаюся, у ліку ашчасліўленых неаднойчы давялося быць і мне. Неяк Анатоль Ілліч пасля гутаркі пра пераклады сусветнай класікі на беларускую мову падараваў мне беларускамоўнага Бальзака 1937 года выдання. Перакладчыкам там значыўся Рыгор Казак, і я, да таго часу падрыхтаваўшы да друку тры кнігі Рыгора Крушыны (а гэта і ёсць Рыгор Казак) і лічачы сябе не абыякім крушынаведам, глядзеў на тое выданне, як мой дзед Васіль на хмарачосы ў Чыкага, куды ездзіў на заробкі са свайго заходнебеларускага хутара...

А неяк я выходзіў з паэтавай кватэры, несучы пад пахай анталогію «Fair Land of Byelorussia» («Мая цудоўная Беларусь») з аўтографамі перакладчыка на англійскую Уолтэра Мэя і амаль усіх сарака пяці (!) яе аўтараў — А. Куляшова, М. Танка, К. Крапівы ды іншых. Жартоўная прыпіска дароўцы яшчэ больш дадавала вартасці і без таго каштоўнаму выданню: «Маю дачыненне да гэтай кнігі не толькі як аўтар, але і як укладальнік (compiler), і аўтар біяграфічных даведак. Словам, пасупрацоўнічаў з англасаксам. Сто рублёў (ці фунтаў стэрлінгаў) не меў — меў Уолтэр Мэй. А. Вярцінскі».

Пра яшчэ адзін падарунак Анатоля Ілліча варта было б напісаць асобна (дасць Бог, калі-небудзь напішу) — гэта ягоная паэма «Заазер'е», выдадзеная ў 1975 годзе ў адгароджаным на той час жалезнай заслонай Нью-Ёрку. Тады беларускаму паэту выдацца там было — як злятаць на Месяц. На такіх глядзелі з асцярогай і падазрэннем. А як іначай можна было глядзець на таго ж Вярцінскага? Прадмову да яго кніжкі напісаў перакладчык і па сумяшчальніцтве заўзяты антысаветчык Леанід Палтава, пасляслоўе — былы палявы камандзір УПА Яраслаў Стэцько, а ананімнае (ці засакрэчанае?) выдавецтва змясціла на вокладку геаграфічную карту, дзе і Бранск, і Дзвінск, і Беласток — у межах Беларусі...

Дзеля цікавасці я праверыў — нью-ёрскага «Заазер'я» няма нават у Нацыянальнай бібліятэцы. Якія кнiганошы ці кнігавозы і па якіх кантрабандных сцежках даставілі кніжку ў Мінск — ведае, відаць, толькі аўтар. Я з лішнімі роспытамі ў вочы яму не лез. Хтосьці дужа рызыкаваў, ды і паэту ў выпадку чаго не паздаровілася б. Але неяк пранесла.

Думаю, сказанае вышэй яскрава пацвярджае відавочную выснову: Анатоль Вярцінскі — чалавек смелы і шчодры. Шчодры ў раздаванні, раздорванні свайго — іншым. Бо і насамрэч, як трапна зазначыў Руставелі, «што схаваў ты, ўсё прапала, што аддаў ты, ўсё тваё».

Прыгадаўшы бібліяфільскія дарункі паэта асабіста мне, як жа я магу забыцца на тысячы і тысячы ашчасліўленых чытачоў, якіх Анатоль Ілліч вось ужо паўстагоддзя абдорвае сваімі ўласнымі кнігамі? Было іх нямала, і кожная заслугоўвала і заслугоўвае ўхвальнага слова. Аўтар гэтых радкоў проста спазніўся нарадзіцца, і кнігі са шматспадзеўных шасцідзясятых прыходзілі да мяне пазней, парою ўніверсітэцкага юнацтва. Памятаю, якім адкрыццём і скарбонкай паэтычных афарызмаў стала для мяне кніга «Ветрана». Атмасфера тады, у сярэдзіне 80-х, была даволі гнятлівая, хацелася свежага паветра, і кніга тая зрабілася для мяне своеасаблівай кісларoднай падушкай. Чытаў — як дыхаў...

Але хопіць уздыхаць па далёкім мінулым — паэзіі знаходзіцца месца і ў непаэтычнай на першы погляд сучаснасці. Летась чытачы атрымалі ад Анатоля Вярцінскага чарговы падарунак — кнігу «Жыцьмем». Думаецца, яна невыпадкова так назвалася, бо яе асноўны матыў — жыццесцвярджальны. Дзеясловы жыцця дамінуюць у вершах і паэмах, бадзёра перагукаюцца між сабой: «жыцьме мой родзе, мой народзе», «прагучаў тройчы вокліч, што радзіма жыве, прагучала малітва «Магутны Божа», «жыццё ж не канчаецца, жыццё прадаўжаецца»... А вось як паэт канкрэтызаваў славуты купалаўскі кліч «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі» (у першасным варыянце ў Купалы было — «між славянамі»):

*Jeszcze Polska nie zginęła…*
*Ще не вмерла Україна...*
*І жыве на свеце белым*
*Беларусь, мая краіна.*

У касцёле існуе добрая традыцыя — у часе Імшы вернікі перадаюць адзін другому знак супакою. Дзеля малітоўнай прасветленасці ў душы, дзеля руху любові ад сэр-

ца да сэрца гэты знак вельмі дарэчы. Паэзія рухаецца, наадварот, неспакоем. І ўся новая кніга Анатоля Вярцінскага — гэта знакі неспакою. Чалавек падарожжа (у свой час аб'ездзіў паўсвету — ад Нью-Ёрка да Кітая), ён і ў новай кнізе застаецца вандроўнікам. Падарожныя ўражанні жывяць яго музу. І тут, відаць, не мае вялікага значэння, па Вялікай Кітайскай сцяне ты ідзеш, ці лясною гравійкаю спяшаешся ў быкаўскія Бычкі на адкрыццё Дома-музея славутага пісьменніка. Бо ў любым выпадку *via est vita*, як казалі старажытныя, і кожная дарога дорыць свае непаўторныя ўражанні. А часам і правярае на трываласць.



Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Зьніч (Алег Бембель) і Алесь Клышка ў Сынковічах на фестывалі хрысціянскай паэзіі. 2008 г.

На адкрыццё згаданага Музея Васіля Быкава мы з паэтам і нашымі агульнымі сябрамі ўлетку 2004 года безнадзейна спазняліся. І тут на нейкім скрыжаванні пад Лепелем Анатоль Ілліч выбраў малапрыкметную на карце партызанскую дарогу, якая мусіла нас вывесці наўпрост у Бычкі, мінаючы Вушачу. Як не паслухаць карэннага лепельца? Паехалі па ёй і ледзь не загрузлі ў пяску. Завярнулі на іншую дарогу, яшчэ менш прыкметную і яшчэ больш партызанскую, да таго ж гарыстую. Неспрактыкаваны да язды ў такіх умовах, я (бяру ўсю віну на сябе) у нейкі момант не справіўся са стырном, і аўто зляцела з дарогі, наскрозь пратараніўшы малады падатлівы ельнік. Вылез я на дарогу з дрыжачымі каленьмі (думаю, не толькі ў мяне яны дрыжалі)... Ці ж думалася мне тады, што тое ДТЗ (паводле міліцэйскага пратакола) трапіць і ў паэтычныя аналы. А яно-такі трапіла:

*Была вайна, мог быць забіты,*
*мог быць забіты і забыты,*
*на тыя звезены клады,*
*дзе ціха спяць твае дзяды...*
*Пацвердзяць Скобла і Акулін,*
*як іх аўто ляцелі кулем,*
*як мы ляцелі пад адхон*
*з бядою наўздагон, на скон.*
*Усе жывыя, дзякуй Богу.*
*Жыву, збіраюся ў дарогу.*

Не, што ні кажыце, прыемна стаць героем кнігі, хай сабе і коштам разбітай аўтамабільнай фары! А тады, калі мы на самым прыцемку ўсё ж дабраліся ў Бычкі, Анатоль Вярцінскі па-філасофску падсумаваў: «Дарога да Быкава простай не бывае». І як тут не пагадзіцца з паэтам-мысляром? Да зрубленай на скорую руку музейнай хаты можна і па заасфальтаванай шашы пад'ехаць, а каб асэнсаваць творчасць вялікага пісьменніка, трэба часам і пакружляць. Увогуле, быкаўская тэма для Вярцінскага — не прахадная і не праязная. Свайму старэйшаму сябру прысвяціў ён нямала радкоў. Вось і ў новым зборніку мы знаходзім такія выдатныя вершы, як «З ліста Васілю Быкаву ў Фінляндыю» і «Быкаў — гэта лета».

Адметная кніга «Жыцьмем» і тым, што некаторыя творы, змешчаныя ў ёй, у свой час друкаваліся толькі ў перыёдыцы і ніколі не траплялі ў кніжныя выданні. З ліку такіх хачу назваць паэму з дзіўнай назвай «Кэты-мэнэй». Напісаная ў далёкім 1971 годзе, яна чакала публікацыі ў часопісе «Крыніца» роўна трыццаць гадоў, а пасля ізноў з невядомых прычын была адкладзеная аўтарам у глыбокую шуфляду. Не ўвайшла, скажам, у «кнігазбораўскі» том, пра што мне як чытачу і даўняму прыхільніку паэта даводзіцца толькі пашкадаваць. «Кэты-мэнэй» не забараняла цэнзура, яна — пра каханне, пра светлае маладое каханне, пра дзівосную пару, калі закаханыя могуць размаўляць на адной ім зразумелай мове, вынаходзячы для яе нечуваныя раней словы. І — «*я глядзеў на яблыні, // на гэты цуд новаяўлены, // я глядзеў на квецень // і адыходзіў душой. // Такое было адчуванне, // такое хваляванне, // якое бывае ў храме // з яго ўрачыстай Імшой*». Зрэшты, выбачаюся, працытаваныя радкі не з паэмы, а з верша «Не помню такога лета». Але як гэтыя два творы (між датамі іх напісання — цэлае чалавечае жыццё) гучаць ва ўнісон! Паверце, гэта вельмі рэдкая з'ява, калі паэт і ў сталым веку не развучыўся глядзець на свет па-юнацку.

Блізкі мне Анатоль Вярцінскі і сваім стаўленнем да айчыннай гісторыі. Чытаючы верш «Адзін дзень у БНР» (яго можна назваць міні-паэмай), дзе фігуруе ці не ўвесь сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, ледзь не пагалоўна вынішчаны пасля, міжволі прыгадваеш, што і аўтар гэтага твора самым непасрэдным спосабам спрычыніўся да абвяшчэння незалежнай Беларусі ў 1991-м. Дарма, што потым сёй-той з самаабвешчаных летапісцаў у «дэпутаты незалежнасці» залічыў толькі прадстаўнікоў адной-адзінай партыі. Так што следам за «Адным днём у БНР» не шкодзіла б Анатолю Вярцінскаму апісаць і тыя дні ў Вярхоўным Савеце, калі яму даводзілася і тэкст Канстытуцыі рэдагаваць, і Дзень Незалежнасці з парламенцкай трыбуны абвяшчаць.


Анатоль Вярцінскі з сябрамі каля помніка Ларысе Геніюш у Зэльве. 2008 г.

Калі ўжо зайшла гаворка пра гісторыю, то не выпадае абмінуць увагай і верш-рэцэнзію на кнігу «Расстраляная літаратура». 66 яе аўтараў былі забітыя ў Курапатах, не вярнуліся з Гулагу, былі закатаваныя ў савецкіх турмах. Наймаладзейшаму з іх — Янку Філістовічу — было 26 гадоў, найстарэйшаму — Аляксандру Уласаву — шэсцьдзясят сем. 399 кніг «ворагаў народа» ў 1937-м былі спаленыя ва ўнутраным дворыку тагачаснай турмы НКВД. Чытаць «Расстраляную літаратуру» цяжка, і складаць яе было цяжка — сведчу як адзін з укладальнікаў. Як пра гэтую трагедыю сказаць у вершы? Тут любая неасцярожная рыфма можа стацца блюзнерскай бразготкай. А як падшукаць той эпітэт, які будзе да месца і не паблякне на чорным мармуры? Анатоль Вярцінскі знайшоў патрэбныя словы. І калі на месцы спалення кніг калі-небудзь паўстане помнік (а ён позна ці рана павінен паўстаць), то словы для яго ўжо знойдзеныя Вярцінскім:

*Пакутніцкія лікі*
*глядзяць з тых кніжных бачын.*
*Госпадзе, памілуй,*
*дай іхнім душам спачын.*
*А нам, жывым, дай моцы,*
*дай пільнасці, каб надалей*
*нас гэтак больш не знішчалі,*
*нас, нашых кніг і людзей.*

У Нямеччыне падобны помнік на месцы, дзе ў часы Трэцяга рэйху адбываліся кніжныя аўтадафэ, усталяваны. Колісь час ачышчэння і пакаяння настане і ў Беларусі, і пісьменнікам, і іхнім кнігам аддасца належнае. Бо спаліць кнігу — гэта знішчыць духоўны свет творцы. Гэта таксама злачынства.

«Паболей вершаў, паменей Трэцяга аддзялення», — так, здаецца, адгукнулася Ганна Ахматава на манаграфію аднаго пушкініста, які на жыццяпісы Бенкендорфа і яго супрацоўнікаў таксама не пашкадаваў атраманту. Магчыма, падобнага водгуку заслугоўвае і аўтар гэтых радкоў. Маўляў, хіба няма ў Вярцінскага, як і ў кожнага сапраўднага паэта, чыстай красы? Вядома ж, ёсць. Але ёсць і болевыя кропкі, якія, на маю думку, з'яўляюцца вызначальнымі для кнігі «Жыцьмем».

А яе вяршынным творам, ні хвіліны не вагаючыся, я назаву верш (які, ізноў жа, сваім зместам заважыць на цэлую паэму) «Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент». Твор-прыпавесць пра тое, як вернасць роднай мове аднаго чалавека ўратавала цэлы народ. Гэта вялікі ва ўсіх сэнсах твор — і па колькасці радкоў (каля паўтары сотні), і па сваёй мастацкай значнасці. Наўмысна не буду яго цытаваць. Знайдзіце і прачытайце. Шэдэўры (як жа яны рэдка з'яўляюцца!) заслугоўваюць быць прачытанымі ад пачатку да канца. У кнізе, поўнай знакаў неспакою (знакаў бяды — паводле Быкава), «Здарэнне ў Судны дзень...» выглядае як знак супакою і нацыянальнага аптымізму. А такіх знакаў беларускай літаратуры сёння відавочна бракуе.

Думаў на гэтым паставіць кропку. Але згадаў яшчэ адзін — самы незвычайны — падарунак ад Анатоля Вярцінскага. Аднойчы ні з пушчы, ні з поля ён падараваў мне... Каран. Дыхтоўнае выданне — пераклад і грунтоўны каментар акадэміка Ігната Крачкоўскага. На мой запытальны позірк дароўца параіў знайсці дваццаць шостую суру пад назвай «Паэты». І што я прачытаў у мудрай, шанаванай мільёнамі людзей кнізе? Дайце веры, там чорным па белым было напісана, што «паэты — хлусы, якія блукаюць па раўнінах і гавораць тое, чаго самі не робяць». Рызыкую наклікаць на сябе гнеў прарока Мухамеда, але беларускіх паэтаў тыя словы ніякім чынам не датычацца.

Беларускі паэт — і на Найвышэйшым судзе аргумент, як пераканаўча паказаў Анатоль Вярцінскі. Беларускія паэты сваю праўду адстойвалі часам коштам сваіх жыццяў — і пра гэта высокі Суддзя таксама не забудзе. А ілжэсведчанні, як вядома, на тым судзе пад увагу не бяруцца.

*Міхась СКОБЛА.*
*Фота аўтара.*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.



# Анатоль Вярцінскі

## *«Промень міласэрнасці не згас...»*

**Анатоль Вярцінскі** — паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык. Нарадзіўся 18 лістапада 1931 г. у в. Дзямешкава на Віцебшчыне. Закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ (1956). Аўтар кніг вершаў і паэм «Песня пра хлеб» (1962), «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968), «Выбранае» (1973), «З'яўленне» (1975), «Час першых зорак» (1976), «Ветрана» (1979), «Святло зямное» (1981), «Любоў адкрывае скарбы» (2000), «Жанчына. Мужчына. Каханне...» (2003), «Жыцьмем» (2012). Паасобныя вершы паэта пакладзены на музыку. Па паэме «Колькі лет, колькі зім!» пастаўлены тэлеспектакль (1980). Выдаў зборнік літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «Высокае неба ідэала» (1980) і кнігу публіцыстычных нататак «Нью-Йоркская сірэна» (1987). У 1983 г. выйшаў зборнік п'есаў пад назвай «Дзякуй, вялікі дзякуй». Жыве ў Мінску.

### ПРА ДАРАВАННЕ

Папа Рымскі просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання, —
згадвае Ісусаў запавет...
Слухае і бачыць цэлы свет.
Чуе, пэўна, і мая краіна.
Боль кальнуў маю душу раўніва,
калі я пачуў тую Імшу.
Устрывожыў боль маю душу.
Хто і як: з амбону ці на пляцы,
галаву схіліўшы пры распяцці,
на вачах сусвету усяго, —
да народа звернецца майго?
Ды прамовіць у глыбокай скрусе:
«Выбачайце, людзі Беларусі!
Бачыць Бог і Сын Яго Ісус:
Просім даравання, беларус!
Просім даравання за ўсе беды,
за падман і крыўды, што ты зведаў,
за знявагу, здзекі і разбой,
што ўчынялі злыдні над табой».
Мы ці дачакаемся такога?
Калі не — то на якога Бога
можам спадзявацца мы тады?
Можа, толькі на сябе, браты?
Папа Рымскі просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання.
Промень міласэрнасці не згас...
Хто папросіць даравання ў нас?
І калі надыдзе гэты час?

## РАНІШНЯЯ ТУГА

Прыснілася нешта такое
у перадсвітальнай цішы,
што абудзіўся з тугою —
з вялікай тугой на душы.
Па чым так душа затужыла? —
падумалася мне, —
якая туга ўзварушыла,
запаланіла яе?
Можа, туга па нечым,
што было ды сышло?
Можа, туга па сустрэчы,
якая не збудзецца ўжо?
Можа, туга па бліжніх,
якіх няма ў жывых?
Па іх галасах і абліччах?..
Як не тужыць па іх!
Туга па маладосці,
па незабыўнай вясне?
Туга па прыгажосці,
па незвычайнай красе?..
Пытаўся — не чуў адказу,
што за туга надышла.
Адно адчуваў выразна:
тужыла па нечым душа.

## НАКОНТ *HOMO SAPIENS*

Якія мы падобныя
і якія розныя!
Якія мы добрыя
і якія злосныя!

Якія мы разумныя
і якія бязглуздыя!
Якія мы сумныя
і якія шустрыя!

Якія мы крылатыя
і якія бяскрылыя!
Якія мы заўзятыя
і якія панылыя!

Пафас і іронія,
зло і дабро прасветлае...
Вось такая гармонія,
вось такая сіметрыя.

То любім і ашчаджаем,
то губім адзін аднога.
Ды голасна сцвярджаем,
што ўсе ходзім пад Богам.

Каб так сапраўды хадзілі,
гэтак глядзелі на рэчы, —
то быў бы напраўду адзіны
род наш чалавечы.

## ДАЖЫВАЕМ?

*Маім равеснікам*

Няпростая гэта рэч — дажываць...
Ці то сумаваць, ці то спяваць?
Свіціцца апошняй прышласці край,
затое мінулага хоць адбаўляй.

Нялёгкая гэта рэч — дажываць...
З чым разрываць, а што шанаваць?
Чым яшчэ болей даражыць, —
каб годна ўсё-такі дажыць?

Складаная гэта рэч — дажываць...
Ці то бедаваць, ці то трываць
ды ўсведамляць, што лятальны зыход —
збаўленне ад столькіх турбот і нягод?

Няпэўная гэта рэч — дажываць...
Ці то планаваць, ці то рахаваць?
Рахуба не згуба? Ну так, але ж
размова ідзе пра апошні рубеж.

Няўмольная гэта рэч — дажываць...
Таму, што было, ужо не бываць,
таго, што будзе, не мінаваць.
Як быць тут? Смяяцца ці смуткаваць?
Ці то парывацца, ці то існаваць?
Жыць як набяжыць? Жыць! Дажываць...

## БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

*Прысвячаецца ўдзельнікам
VI з'езда беларусаў свету,
які адбыўся 23-24 ліпеня 2013 г.*

Зямля поўніцца чуткамі,
што парой летняй, светлай
зноў збіраюцца разам
беларусы свету.
Беларусы свету.
Беларусы сусвету зямнога...
Іх ні многа, ні мала,
а нагодаў ім выпала многа.
Раскідала нядоля іх
па ўсім свеце белым.
А ім хочацца быць
непадзельным цэлым.

Свет палюе на іх:
інтэграцыя, асіміляцыя...
А ім хочацца быць
беларускім народам, быць нацыяй.
Развяло іх жыццё:
там дыяспара, тут — метраполія...
А душа ў іх адна,
і ў іх мова адна, супольная.
І жаданне адно ў іх —
быць сабою самімі,
жыць па праўдзе сваёй,
са сваімі абліччам і імем.
І адны ў іх спадзеў і вера —
каб не собіла Беларусі
быць аскепкам нейчай імперыі
альбо ў нейкім саюзе-хаўрусе.
Так, турбота адна ў іх,
ва ўсіх беларусаў свету,
не была каб краіна
нейчай разменнай манетай,
не была ўсяго толькі
транзітнаю тэрыторыяй,
калідорам, афшорам
ці іншай такою прастораю...

З якой марай яшчэ,
з якой запаветнаю мэтай
зноў сабраліся сёння
беларусы свету?
Пэўна ж, разам сустрэліся,
каб паклонам зямным пакланіцца
ценям продкаў сваіх
ды вытокам сваім і крыніцам.
Пакланіцца святым.
І яшчэ памаліцца, магчыма,
нібы «Ойча наш»,
ціха прамовіць: «О, наша Айчына!»
Беларусы свету
зноў сышліся раднёю адзінай.
Не забыліся, значыць,
пра сябе, пра сваю Радзіму.
Выглядае: з усіх людзей
мы не горшыя ў свеце людзі.
І жыве надзея з надзей,
што жыве Беларусь і жыць будзе!

## ЛІСТ АПОШНІ – ПЕРШЫ СНЕГ

*Марыі Захарэвіч —*
*у дзень нараджэння*

Вось якая тут нагода!
Вось якая тут пагода!
Не пазнаў я дрэў і стрэх.
Была восень залатая.
Ліст апошні адлятае —
прылятае першы снег.

Вось якое супадзенне!
Вось якая тут падзея!
Вось які двайны сюрпрыз!
Снег нам душы ачышчае,
а афіша абвяшчае
у твой гонар бенефіс.

Белізна змяняе барвы.
А ў прыродзе ўсё нядарма.
У прыродзе і ў жыцці...
Дзе жыццё, а дзе забава?
Дзе гульня — ігра, дзе справа?
Як тут розніцу знайсці?

Твае ролі —– твае болі,
твае мукі і любові,
твае лецейкі і золь.
Твае ролі — твая доля.
А ўсіх роляў тваіх роля —
Беларусі роднай боль.



**Іна Снарская** — паэтка, журналістка, рэдактар тэлебачання Палтаўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Лтава». Нарадзілася ў Полацку. Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут і Палтаўскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя В.Г.Караленкі. З 1987 года жыве ва Украіне. Аўтар зборнікаў паэзіі «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Кветка гарынь», «Дзьве зямлі — дзьве долі», «Верасовыя песні зары». Член Саюза беларускіх пісьменнікаў, Нацыянальных сьпілак пісьменнікаў і журналістаў Украіны. Вершы Іны Снарскай перакладаліся на ўкраінскую, румынскую, польскую і англійскую мовы.

# Іна Снарская

* * *

Наталяю душу цішынёй,
Цудадзейным лясным адварам.
Адрастаюць крылы. Анёл
Мне зёлкі духмяныя варыць.

Ён вартуе маю цішыню
І лісце старое паліць,
Канюшынаю ўкрые зямлю
І кветку падорыць на памяць.

Паляцець бы... «Дык не шкадуй,
Што было, што збылося, што будзе...»
Мой Анёл жывую ваду
Крыламі студзіць.

* * *

Калі па нябеснай дарозе
Пайду новы дзень сустракаць,
А цела пакіну ў знямозе
На зрэбнай прасціне ўміраць,
Калі па дарозе адзінай,
Няўмольнай, няўтольнай — жывой,
Апошнім радком-успамінам
Я вырушу за табой, —
Пазнай маё вернае сэрца,
А грэшнае цела прабач,
Яно так баялася смерці,
Самотнасці і няўдач.
Наіўнае, кволае цела,
На вечнасць зямную — маё,
Яно так пяшчоты хацела
Хаця б на імгненне адно.
Хутка вялікі горад
Прачнецца, патушыць агні,
Ты мой неадольны голад
На небе і на зямлі.
Гукае калядны званочак,
Ляціць белы голуб дамоў,
Каб недзе на зорцы паўночнай,
Ты сэрца маё знайшоў.

* * *

На сёмае неба дрэвы ляцяць,
Нібы жаўрукі да сонца.
Сосны, санаты майго жыцця,
Спявайце бясконца!

Вырвецца з лёху на волю душа,
Дзіўная птушка,
Загубіўся мой час у зямных спарышах,
Райскіх пушчах.

Пазнаю па крапліне я Божы сусвет,
Па далоні чытаю долі...
Веру дрэвам і веру траве,
Як ніколі.

* * *

Вершы ад слова «верыць».
Вера ў далоні Бога.
Будзе да веку вернай
Маці мая, дарога.

Будзе да веку першай,
Лепшай, сунічнай будзе.
Сэрца сагрэе вершам,
Калі ужо сіл не будзе.

* * *

Дзе я здрадзіла вам,
Мае любыя, сумныя вершы,
На якіх скразняках,
На якіх скрыжаваннях дарог?

Вы сумленнем былі
І любоўю адчайнай, найпершай
Да зямлі і лясоў,
Да свяшчэнных нябесных гаёў.

Дзе я здрадзіла вам,
Дзе я стогн чужы не пачула,
Дзе прайшла ў забыцці,
Дзе шчакой не адчула шчакі?

На каленях стаю
Над сырою магілай матулі,
А дзяўчынка-зара
Пераходзіць без броду раку.

**Малітва**

Ён упаў на зямлю
І пачаў маліцца.
І было яму так балюча
І так пякуча,
Што зямля загарэлася
І правалілася.
З правалу ўласнай свядомасці,
З яміны спустошанасці і адзіноты,
З бездані страчаных надзей і няўтоленай смагі,
Ён папрасіўся дадому,
Туды, дзе яго любяць і разумеюць.
Ніхто не бачыў гэтага чалавека раней.
«Ён чарнец», — гаварылі адны.
«Ён вялікі грэшнік», — казалі другія.
«Ён прапашчая душа», — думалі трэція...
А калі вялікая белая птушка
Рассекла чорныя хмары моцнымі крыламі,
Усе, нарэшце, пазналі яго:
Калісьці ён быў вандроўнікам і паэтам.

* * *

Вяргіні, маргарыткі і ляўкоі
Пад снегам засынаюць агнявым,
А прачынаюцца ізноў на волі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

Танцуй, жыццё,
да попелу, да болю,
Да спазмы ў горле, вогнішча ў грудзях.
Сябе мы безнадзейнасцю нявол ім,
Няверай беспрытульных і бадзяг.

І кожны дзень, і кожны год паволі
Сівеем, мітусімся — дагарым...
А недзе хутка ажывуць ляўкоі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

* * *

Гэты дзень — спелы, як яблык.
Далоў трывогу, віват, спакой!
На снезе танцуюць анёлы радасці,
Бачу іх у вакно.

Хто сказаў, што людзі не ўмеюць лётаць?
Я адваротнае дакажу,
Надзену на шыю каралі з лотаці,
Ступлю на мяжу.

Гэты дзень — крышталёвая звонкая ваза.
Мне анёлак падасць руку,
І неба, роднае для адважных,
Пацалуе шчаку.

* * *

Як многа ўжо родных лягло
Пад поўні тугое крыло.
Плывуць яны хмарамі, дымам,
Гаротным маім успамінам
Па небе глыбокім,
Песняй далёкаю,
Слязой па шчацэ,
Свячой па рацэ.

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел III

## Прыязнасць

Я пачну з самага простага і самага распаўсюджанага віду любові, якую мы перажываем амаль нароўні з жывёламі. Дазвольце мне адразу заўважыць, што гэта не робіць яе менш вартаю. Рысы людзей не становяцца ні лепшымі, ні горшымі ад таго, што ўласцівыя таксама і жывёлам. Абвінавачваючы некага ў тым, што ён «проста быдла», мы не маем на ўвазе, што гэты чалавек дэманструе нейкія жывёльныя рысы (характэрныя для ўсіх), а хочам сказаць, што ён дэманструе іх і толькі іх у сітуацыях, дзе трэба паводзіць сябе па-чалавечы. (Калі мы папракаем некага ў «зверскасці», гэта звычайна азначае, што ён праяўляе жорсткасць, на якую не здольны ніводзін звер, не будучы настолькі разумным).

Грэкі называлі такую любоў «сторге». Я назаву яе проста прыязнасцю. Мой слоўнік грэцкай мовы тлумачыць «сторге» як «прыязнасць, асабліва — бацькоў да патомства», але таксама і патомства да бацькоў. І гэта, несумненна, першасная форма падобнай любові і асноўнае значэнне слова. Адразу ўяўляецца матуля, якая калыша немаўля, сабака ці котка побач з кошыкам, поўным шчанятаў-кацянятаў, якія ўсе разам адною грудаю пішчаць і торкаюцца насамі; котка варкоча і аблізвае малых, чуваць немаўлячае лапатанне, уяўляецца малако, цяпло, пах маладога жыцця.

Важнасць гэтага вобразу ў тым, што ён адразу ж ставіць нас перад наступным парадоксам. Патрэба і любоў-патрэба дзіцяці тут відавочная, як і матчына любоў-дар. Маці дае жыццё, корміць, абараняе. З іншага ж боку, яна павінна або даць жыццё, або памерці сама. Яна павінна накарміць, інакш сама будзе пакутаваць. Такім чынам, матчына прыязнасць — гэта таксама любоў-патрэба. У гэтым і заключаны парадокс. Маці адчувае любоў-патрэбу, але патрэба яе ў тым, каб даваць. Яна адчувае любоў-дар, але патрэба гэтай любові ў тым, каб быць запатрабаванаю. Нам трэба будзе вярнуцца да гэтага пункта.

Нават у жыцці жывёлаў, не кажучы пра нашае ўласнае, прыязнасць сягае нашмат далей, чым адносіны маці і дзіцяці. Гэтае цяпло і ўтульнасць, гэтую асалоду быць разам здольныя адчуваць усе жывыя істоты. Такая любоў — самая непатрабавальная. Ёсць жанчыны, у якіх ніколі не будзе шмат кавалераў, і мужчыны, у якіх ніколі не будзе мноства сяброў. Ім няма чаго прапанаваць наўзамен. Але амаль кожны можа стаць аб'ектам прыязнасці: і брыдкі, і дурань, і нават зусім невыносны чалавек. Тыя, каго яднае прыязнасць, могуць быць зусім не падобныя адно да аднаго. Я сам бачыў, як не толькі бацькі, але і браты любілі разумова адсталага хлопца. Прыязнасці не перашкаджае розніца ва ўзросце і адукацыі, прыналежнасць да розных класаў і рознага полу. Яна можа яднаць кемлівага маладога студэнта і яго старую няню, нягледзячы на тое, што інтэлектуальна яны жывуць кожны ў сваім свеце. Яе можна ўбачыць не толькі паміж сабакам і чалавекам, але і (што за дзіва!) паміж сабакам і катом. Гілберт Уайт[14] сведчыць, што назіраў прыязнасць паміж канём і курыцаю.

Некаторыя пісьменнікі здолелі цудоўна распавесці аб прыязнасці. У «Трыстраме Шэндзі»[15] бацька героя і дзядзька Тобі не падзяляюць ніякіх агульных зацікаўленасцяў і меркаванняў, так што і дзесяці хвілінаў не здольныя паразмаўляць, каб не пасварыцца. Але чытач не можа не заўважыць іх глыбокай узаемнай прыязнасці. Яна ж лучыць Дон Кіхота з Санчам Пансам, Піквіка з Сэмам Уэллерам, Дзіка Суівэллера з Маркізаю[16]. Прыязнасць, магчыма, і без свядомай інтэнцыі самога аўтара, з'яднала чацвёрку з «Ветру ў вербах»: Крата, Пацука, Барсука і Рапуху[17]. Яны — прыклад таго, як дзівосна могуць адрозніваюцца тыя, каго лучыць прыязнасць.

Аднак яна мае свае прыкметы і ўмовы. Аб'ект прыязнасці павінен быць добра знаёмы. Здараецца, мы можам адзначыць нават дзень і гадзіну, калі закахаліся або пасябравалі. Але сумняваюся, што можна злавіць момант нараджэння прыязнасці. Усвядоміць сваю прыязнасць — значыць зразумець, што яна доўжыцца ўжо нейкі час. Істотна, што мы часта ўжываем слова «стары» ў адносінах да аб'екту прыязнасці. Сабака брэша на чужых, якія не ўчынілі яму аніякай шкоды, і віляе хвастом, убачыўшы старых знаёмцаў, якія ні разу яго не палашчылі. Дзіця любіць непрыязнага старога садоўніка, які ніколі не звяртаў на яго ўвагі, і цураецца госця, які з усіх сілаў імкнецца яму дагадзіць. Але садоўнік мусіць быць старым, тым, хто быў «заўсёды», — у сэнсе кароткага, але, здаецца, спрадвечнага «заўсёды», уласцівага дзяцінству.

Як я адзначыў, прыязнасць — самая простая любоў. Яна зусім не амбітная. Людзі могуць гана-

*Працяг. Пачатак у 2 за 2013 г.*

рыцца сваёю закаханасцю або сяброўствам. Прыязнасць жа сціплая, яна тоіцца і саромеецца самой сябе. Неяк я звярнуў увагу свайго сябра на факт, што прыязнасць нярэдка ўзнікае паміж катом і сабакам, і той зазначыў: «Так, але б'юся аб заклад, што ніводзін сабака ў гэтым не прызнаецца перад іншымі сабакамі». Яго словы — прынамсі добрая карыкатура на многія людскія прыязнасці. «Непрывабныя дамашнія твары павінны застацца дома» — сказаў Комус[18]. У прыязнасці вельмі дамашні і непрывабны твар, як і ў многіх, да каго мы яе адчуваем. Нашая любоў да іх не сведчыць пра тонкасць душы і розуму, як і іх любоў да нас. Тое, што я назваў любоўю ацэнкі, можа цалкам адсутнічаць у прыязнасці. Часта толькі расстанне або смерць можа прымусіць нас ацаніць людзей, з якімі нас лучыць адна прыязнасць. Мы ўспрымаем іх як нешта натуральнае, і гэткае стаўленне, абражаючы ў каханні, у прыязнасці да пэўнага моманту з'яўляецца ўласцівым і апраўданым, адпавядаючы яе ціхмянаму і ўтульнаму характару. Прыязнасць перастане быць сабою, калі пра яе зачаста і загучна казаць, паказваць яе на людзях — гэта нібы выставіць у двор усе дамашнія рэчы падчас пераезду. Прыязнасць вельмі добра пачуваецца, калі знаходзіцца на сваім месцы, але калі яе вынесці на святло, выглядае зашмальцаванаю, патыхае кідкаю, недарэчнаю безгустоўнасцю. Прыязнасць крадком прасочваецца ва ўсе куткі нашага жыцця. Яна — там, дзе ўсё простае, штодзённае, прыватнае; там, дзе мяккія пантофлі, звыклае адзенне, старыя жарты; там, дзе сонны сабака ляпае хвастом па падлозе ў кухні; там, дзе чуваць грукат швейнай машынкі; побач з абтрапанаю лялькаю, забытаю на дварышчы.

Але мушу адразу ж паправіцца. Я апісваю прыязнасць, якая існуе асобна ад астатніх відаў любові. Часам так і здараецца, а часам — не. Як джын можна піць у чыстым выглядзе і выкарыстоўваць у аснове многіх кактэйляў, так і прыязнасць, існуючы сама па сабе, можа спалучацца з іншымі відамі любові, робячы іх ярчэйшымі і становячыся асяродкам, у якім яны дзейнічаюць. Іншыя віды любові, хутчэй за ўсё, змарнеюць без прыязнасці. Пасябраваць — не тое самае, што адчуць прыязнасць. Аднак, калі сябра становіцца «старым» сябрам, усё звязанае з ім, што ад пачатку не мела з сяброўствам нічога агульнага, становіцца знаным і дарагім. Што тычыцца эратычнай любові, не магу ўявіць нічога больш брыдкага за доўгае каханне, не апранутае ў даматканую сукню прыязнасці. Такое каханне вымушанае існаваць у найбольш нязручных і няёмкіх умовах і становіцца ці занадта анёльскім, ці занадта жывёльным, або і тым і другім па чарзе; яно заўжды і завялікае, і замалое для чалавека. Але якую ж незвычайную прывабнасць набывае і сяброўства, і каханне ў тыя моманты, калі любоў ацэнкі звінулася клубком на сваім месцы і прыснула, а нашыя адносіны ахінулі супакой і звычайнасць (даючы свабоду, уласцівую самотнасці, хоць ніхто і не застаецца адзін). Няма патрэбы ў размовах. Няма патрэбы ў заляцаннях. Ні ў чым няма патрэбы, акрамя як паварушыць дровы ў каміне.

Цудоўным доказам таго, што ўсе віды любові змешваюцца і спалучаюцца між сабою, з'яўляецца пацалунак, у якім амаль паўсюль і ва ўсе часы выяўлялася любоў. У сучаснай Англіі сябры ўжо не цалуюцца, але людзі, прыязныя адно да аднаго і закаханыя — так. Пацалунак настолькі поўна адпавядае і прыязнасці, і каханню, што немагчыма сказаць цяпер, што ў чаго яго запазычыла і ці запазычыла ўвогуле. Дзеля ўпэўненасці можна адзначыць, што пацалунак прыязнасці адрозніваецца ад пацалунку кахання. Так, але і закаханыя не заўжды цалуюцца з жарсцю. І яшчэ абодва гэтыя віды любові схільныя ўжываць памяншальныя словы і «дзіцячую гаворку». Гэта характэрна не толькі для людзей. Прафесар Лорэнц у «Пярсцёнку караля Саламона»[19] піша, што любоўныя крыкі галак складаюцца «ў асноўным з гукаў, характэрных для птушанятаў, якія дарослыя галкі выкарыстоўваюць з іншаю мэтаю». І ў нас, і ў птушак аднолькавыя падставы для гэтага. Пяшчота ёсць пяшчотаю, як бы яна ні праяўлялася, і мова самай першай спазнанай пяшчоты служыць нам для таго, каб гаварыць пра пазнейшыя.

Мы не назвалі яшчэ адну рысу, што заўжды спадарожнічае прыязнасці. Як я ўжо казаў, ад пачатку прыязнасць не абапіраецца на любоў ацэнкі. Яна не шукае адрозненняў, яна «паладзіць» і з самымі малаабяцальнымі людзьмі. І, як ні дзіўна, гэта азначае, што прыязнасць можа ў рэшце рэшт выклікаць ацэнку, якая інакш, магчыма, ніколі б не з'явілася. Можна сказаць, і ў гэтым будзе доля праўды, што мы выбіраем сяброў і каханых за нейкія іх якасці: прыгажосць, шчырасць, сардэчную дабрыню, кемлівасць, розум і гэтак далей. Але гэта павінен быць асаблівы кшталт розуму, асаблівы кшталт прыгажосці, асаблівы кшталт дабрыні, якія нам падабаюцца, і кожны мае ў гэтым свой густ. Таму сябры і закаханыя адчуваюць, што яны «створаныя адно для аднаго». Прыязнасць жа асабліва адметная тым, што можа лучыць людзей, якія абсалютна, да камізму, непадобныя, людзей, якія ўвогуле не мелі б нічога агульнага, калі б у пэўных абставінах лёс не звёў іх разам. З гэтага вырастае прыязнасць (зразумела, часта і не вырастае), у людзей расплюшчваюцца вочы. Мне ўсё больш і больш падабаецца «стары такі-сякі», спачатку проста таму, што ён побач, і раптам я, апроч іншага, пачынаю заўважаць: «нешта ў ім ёсць». І ў гэты самы момант, калі мы шчыра *скажам,* што хоць ён і «не мой чалавек», але «па-свойму» — чалавек вельмі добры, прыходзіць вызваленне. Адчуванні могуць быць зусім іншыя, напрыклад, толькі паблажлівасць і спагадлівасць. Але насамрэч у гэты

момант мы пераходзім мяжу. «Па-свойму» — азначае, што мы выходзім па-за межы складу ўласнага характару і гатовыя ацаніць дабрыню і розум самі па сабе, а не толькі тады, калі яны цалкам адпавядаюць нашаму густу.

Хтосьці заўважыў: «Катоў і сабакаў заўжды трэба гадаваць разам, гэта пашырае іх кругагляд». Прыязнасць пашырае наш, з усіх відаў любові яна — самая ўніверсальная, неперабарлівая, цярплівая. З гэтага пункту гледжання людзі, з якімі вы разам раслі, вучыліся, елі ў адной сталоўцы, плылі на адным караблі, маліліся ў адной святыні, складаюць больш шырокае кола, чым вашыя сябры, нават шматлікія, якіх вы самі сабе выбралі ў свеце. Колькі б сяброў у мяне ні было, іх колькасць не даказвае маёй вялікай здольнасці цаніць людзей. З такім жа поспехам можна сказаць, што я маю шырокія густы ў літаратуры, бо люблю ўсе кнігі ў сваёй бібліятэцы. Абодва прыклады можна аднолькава аспрэчыць: «Вы самі выбралі гэтыя кнігі. Вы самі выбралі гэтых сяброў. Зразумела, што яны вам падабаюцца». Сапраўды любіць чытаць той, хто і на танным развале побач з крамаю патрыманых кніг здольны знайсці нешта па сваім гусце. Сапраўды любіць людзей чалавек, які здолее ацаніць тых, каго сустракае ў віры кожнага дня. Я ўпэўнены, што менавіта прыязнасць фармуе ў нас гэтую здольнасць, спачатку навучаючы заўважаць, пасля трываць, пасля ўсміхацца, пасля цешыцца, а пасля ўжо цаніць людзей, якія «апынуліся побач». Створаныя для нас? Дзякуй Богу, не. Яны з'яўляюцца самі сабою, яшчэ больш незвычайнымі, чым вы можаце ўявіць, і яшчэ нашмат больш вартымі ацэнкі, чым можна здагадацца.

Цяпер мы закранем вельмі небяспечны момант. Як я казаў, прыязнасць зусім не амбітная. Любоў, па словах святога Паўла, не ганарыцца. Прыязнасць здольная любіць непрыглядняе: Бог і Яго святыя любяць тое, што любіць немагчыма. Прыязнасць не чакае многага, заплюшчвае вочы на памылкі, лёгка вытрымлівае сваркі, як любоў, яна доўгацярплівая, ласкавая і не памятае зла. Прыязнасць адкрывае нашым вачам прыгажосць і дабрыню, якія без яе мы б і не разгледзелі, і не ацанілі. Гэтак жа чыніць і пакорная святасць. Калі трымацца выключна гэтых падабенстваў, можна паверыць, што прыязнасць — не проста адзін з відаў натуральнай любові, а сама Любоў-Бог, якая дзейнічае ў нашым сэрцы і выконвае закон. Значыць, віктарыянскія пісьменнікі мелі рацыю? Такой любові і праўда дастаткова? Значыць, «дамашняя прыязнасць» у сваім найлепшым выглядзе, у найвышэйшай кропцы свайго развіцця — гэта і ёсць хрысціянскае жыццё? Я сцвярджаю, што адказ на гэтыя пытанні: «Не».

Я зусім не пра тое, што гэтыя раманісты часам пісалі так, быццам ніколі і не чулі пра «нянавісць» чалавека да жонкі і маці, да ўласнага жыцця. Гэта, канешне ж, рэальнасць. Ідзе спаборніцтва паміж усімі відамі натуральнай любові і любоўю Божай — пра гэта хрысціянін не мае права забыцца. Бог — вялікі Спаборнік, кропка, у якой знаходзіць мяжу чалавечая рэўнасць; тая прыгажосць, жудасная, як у Гаргоны, якая ў адно імгненне можа скрасці (прынамсі, гэтак падаецца) сэрца маёй жонкі, майго мужа, маёй дачкі. У гэтым сапраўдная прычына горычы, якая часта спадарожнічае бязвер'ю, нават калі сам чалавек бачыць яе пад маскаю антыклерыкалізму або нянавісці да забабонаў. Але цяпер я не кажу пра гэтае спаборніцтва, пра яго мы паразмаўляем пазней. Звернемся да больш прыземленых пытанняў.

Колькі падобных «шчаслівых сем'яў» існуе насамрэч? І, што яшчэ горш, ці нешчаслівыя сем'і нешчаслівыя таму, што не маюць прыязнасці? Я ў гэта не веру. Прыязнасць можа прысутнічаць і быць прычынаю няшчасця. Амаль што ўсе ўласцівасці гэткай любові амбівалентныя. Яны могуць дзейнічаць і на карысць, і на шкоду. Прыязнасць, якую пакінулі без нагляду і якой дазволілі кіравацца ўласнымі прынцыпамі, можа цалкам сапсаваць чалавеку жыццё. Людзі, пазбаўленыя сентыментальнасці, і выкрывальнікі «сямейнага шчасця» не сказалі пра яго ўсю праўду, але тое, што яны сказалі, — праўда.

Паглядзіце самі, якую агіду выклікаюць амаль усе папулярныя ружовыя песенькі і цукровыя вершыкі пра любоў-прыязнасць. Яны агідныя, бо цалкам фальшывыя. А фальшывыя, бо выдаюць за гатовы рэцэпт шчасця (і нават дабра) тое, што насамрэч з'яўляецца толькі магчымасцю. Атрымліваецца так, нібы нічога і рабіць не трэба: дазволь прыязнасці ліцца на цябе, як цёпленькі душ, і гатова — усё будзе добра.

Як мы бачылі, прыязнасць складаецца і з любові-патрэбы, і з любові-дару. Я пачну з патрэбы — нашага прагнення адчуваць прыязнасць з боку іншых людзей.

Цалкам зразумела, чаму прагненне прыязнасці ў параўнанні з іншымі любоўнымі прагненнямі лёгка становіцца самым безразважлівым, самым неабгрунтаваным. Амаль усе могуць стаць аб'ектам прыязнасці, і таму амаль кожны на гэта спадзяецца. Жудасны пан Панціфекс з «Шляху кожнага цела»[20] страшна абураецца, даведаўшыся, што сын яго не любіць, — гэта ж «ненармальна» для хлопчыка не любіць уласнага бацьку. Яму нават у галаву не прыходзіць задумацца, ці за ўсё сваё жыццё хлопчык атрымаў ад яго нешта, што магло б выклікаць любоў. Гэтак жа ўжо на самым пачатку п'есы мы бачым, як кароль Лір, вельмі непрыемны стары, цалкам апанаваны нястрымнаю прагаю чыёйсьці прыязнасці. Я звяртаюся да літаратурных прыкладаў, бо вы — мае чытачы, а не суседзі. Калі б мы з вамі жылі побач, на жаль, не цяжка было б прывесці мноства прыкладаў з рэальнага жыцця. Падобнае здараецца кожны

дзень. Мы ўсе ведаем, што павінны зрабіць нешта, каб калі не заслужыць, то прынамсі прывабіць каханне або сяброўства. Але прыязнасць часта ўспрымаецца як нешта гатовае, забяспечанае самою прыродаю: «укладзенае», «умайстраванае», «дадзенае». Мы маем права чакаць яе, а калі іншыя яе не выказваюць, гэта «ненармальна» з іх боку.

Такое дапушчэнне, несумненна, толькі скажэнне праўды. Многае ў нас «умайстраванае». Мы — млекакормячыя істоты, таму інстынкт, прынамсі ў нейкай меры, прадвызначае матчыну любоў, і часта яна бывае вельмі моцнаю. Мы — сацыяльныя істоты, таму ў коле знаёмых часта ствараецца асяродак, дзе пры спрыяльных абставінах узнікае і ўзрастае моцная прыязнасць, незалежна ад асабістых якасцяў удзельнікаў гэтага кола. Калі прыязнасць нам даецца, то не абавязкова па нашых заслугах. Можна атрымаць яе задарма. Слаба зразумеўшы тую праўду, што многіх людзей горача любяць, хоць іх і няма за што любіць, пан Панціфекс робіць з гэтага недарэчныя высновы: «Таму і я, зусім не варты любові, маю на яе права». Калі б гэта сапраўды было так, можна было б, разважаючы пра больш высокія матэрыі, сцвярджаць, што чалавек, не заслужыўшы Божую ласку, гэтым самым мае на яе права. У абодвух выпадках не можа быць і гаворкі пра нейкія правы. Мы маем не «права чакаць», а «падставу чакаць», што блізкія будуць любіць нас, пры ўмове, што ўсе мы — звычайныя людзі. А калі не? Калі мы зусім невыносныя? У такім выпадку «прырода» будзе дзейнічаць супраць нас. Тыя самыя ўмовы, пры якіх паміж блізкімі людзьмі ўзнікае прыязнасць, могуць так жа натуральна выклікаць і вялізную незнішчальную непрыязнасць, такую незабыўную, трывалую, прыхаваную і часам амаль неўсвядомленую нянавісць, якой бывае і супрацьлеглая ёй любоў. Зігфрыд, герой оперы, не можа ўзгадаць і хвіліны, калі ў яго не выклікалі нянавісці кожны выкрут, кожнае мармытанне, уся мітусня яго прыёмнага бацькі-карузліка. Як і ў выпадку з прыязнасцю, немагчыма вызначыць, калі распачалася такая нянавісць. Яна была заўсёды. Заўважце, што слова «стары» мы выкарыстоўваем і прааўляючы пяшчоту, і трацячы цярплівасць ад агіды: «усе яго старыя жарты», «усё ў яго выходзіць па-старому», «усё як і раней, па-старому».

Абсурдна лічыць, што кароль Лір не ведае прыязнасці. У той меры, у якой прыязнасць з'яўляецца любоўю-патрэбай, ён апантаны ёю. Калі б Лір па-свойму не любіў дачок, ён не прагнуў бы іх любові так адчайна. Самыя невыносныя бацькі і дзеці могуць проста палаць ад любові. Але яна прыносіць пакуты і ім самім, і тым, хто навокал. Сітуацыя становіцца задушліваю. Калі чалавека ўжо немагчыма любіць, а ён няспынна, як належнага права, патрабуе любові, напаказ выстаўляючы свае раны, папракаючы, гучна або маўкліва абураючыся і дэманструючы гэта кожным поглядам і жэстам, — усё падобнае выклікае у нас пачуццё віны (чаго нягоднік і дамагаўся) за тое, што немагчыма выправіць або пазбегнуць. Ён гатовы адкусіць працягнутую руку, якая так яму патрэбная, і калі ў нейкае шчаснае імгненне ў нас абудзіцца парастак прыязнасці да такога чалавека, ён сваёю нястрымнаю прагавітасцю адразу ж яго задушыць. І, натуральна, падобныя людзі заўжды жадаюць ад нас доказаў любові: мы павінны стаць на іх бок, падтрымаць і раздзяліць іх незадаволенасць некім іншым. «Калі б мой каханы сапраўды мяне любіў, ён бы ўбачыў, які эгаіст ягоны бацька...», «Калі б брат мяне любіў, ён дапамог бы мне змагацца з сястрою...», «Калі б ты мяне любіў, не дазволіў бы, каб да мяне так ставіліся...».

І хоць ты дробным макам перад імі рассыпся, такія людзі не здольныя ўбачыць правільнага шляху да мэты. Яшчэ Авідзій казаў: «Калі хочаш, каб цябе любілі, будзь варты любові». Вясёлы стары распуснік проста меў на ўвазе: «хочаш прываблівать жанчын, будзь прывабны», але ягоныя словы маюць шырэйшае значэнне. Гэты аматар любоўных прыгодаў быў у сваім родзе мудрэйшы за пана Панціфекса і караля Ліра.

Сапраўды здзіўляе не тое, што гэтыя ненасытныя прагненні невыносных людзей бываюць дарэмнымі, а тое, што, наадварот, яны надзвычай часта аказваюцца задаволенымі. Нярэдка можна сустрэць жанчыну, якая ўсё дзяцінства, юнацтва і сталыя гады толькі і робіць, што апякае, слухаецца, песціць, падтрымлівае маці-вампірку, якой самага найбольшага клопату і пакорлівасці будзе замала. Гэткую ахвяру дачкі можна палічыць прыгожаю (хоць ёсць і іншае меркаванне на гэты конт), але ў паводзінах старой маці прыгажосці не знайсці.

Падобны «ўмайстраваны» характар прыязнасці, якая даецца нам дарма, выклікае, такім чынам, вельмі агіднае памылковае вытлумачэнне. У гэтым вінаватыя яе бесклапотная лёгкасць і нефармальнасць адносінаў.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The Four Loves», C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

---

[14] Гілберт Уайт (*Gilbert White*; 1720–1793) — святар, першы брытанскі натураліст і арнітолаг, сябра Лонданскага Каралеўскага таварыства.

[15] «Жыццё і суджэнні Трыстрама Шэндзі, джэнтльмена» (*The Life and Opinions of Tristram Shandy, Gentleman*) — твор пісьменніка і багаслова Лоўрэнса Стэрна (*Laurence Sterne*), гумарыстычны раман у 9-ці тамах.

[16] Героі аднайменнага рамана Мігеля Сервантэса, а таксама раманаў Чарльза Дыкенса «Пасмяротныя нататкі Піквікскага клуба» і «Крама старажытнасцяў».

[17] «Вецер у вербах» (*The Wind in The Willows*) — казачная аповесць Кенета Грэма (*Kenneth Grahame*).

[18] Герой аднайменнай паэмы Джона Мільтана.

[19] Конрад Захарыяс Лорэнц (*Konrad Zacharias Lorenz*; 1903–1989) — выдатны аўстрыйскі вучоны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па медыцыне, заснавальнік эталогіі — навукі аб паводзінах жывёлаў. «Пярсцёнак караля Саламона» (1952) — яго навукова-папулярная кніга па біялогіі.

[20] «Шлях кожнага цела» (*The Way of All Flesh*) — аповесць класіка віктарыянскай літаратуры Сэмюэла Батлера (*Samuel Butler*).



Адам Готлоб Эленшлегер (1779–1850) — драматург, паэт і празаік перыяду рамантызму — «залатога веку» дацкай літаратуры. Пры жыцці папулярнага літаратара называлі «найвядомейшым датчанінам Еўропы». Аўтар лірычнай паэзіі, літаратурных апрацовак скандынаўскіх хронік і сагаў, п'есаў і апавяданняў. Адыграў надзвычай станоўчую ролю ў фармаванні літаратурнай дацкай мовы і ў нацыянальна-культурным Адраджэнні свайго народа.

У 1571 годзе ў Кёльне жыў багаты бургамістр. Пасля некалькіх гадоў шчаслівага сямейнага жыцця ягоная жонка Райхмут раптам цяжка захварэла і памерла. Муж быў у адчаі.

Вядома, што Кёльн — гэта горад, які сваёй набожнасцю можа параўнацца з Рымам. Таму яго і называлі ў Сярэднявеччы *Roma germanica*[1], або *civita sancta*[2]. І ў пазнейшыя часы Кёльн богабаязнасцю сваіх жыхароў, здавалася, імкнуўся залагодзіць сваю віну — бо ён быў радзімай гнюснай Агрыпіны. Там мала каго можна было сустрэць, акрамя манахаў ды студэнтаў, якія спявалі за міласціну пад кожнымі дзвярыма. І цяпер яшчэ ў Кёльне ўвесь час гудуць званы, а касцёлаў і капліцаў у гэтым горадзе столькі, колькі дзён у годзе.

Найвыдатнейшы з кёльнскіх храмаў — катэдра святога Пятра, адзін з найцудоўнейшых помнікаў дойлідства ўсёй Германіі. Аднак ён не мае той завершанасці, якую задумаў дойлід. Скляпенні былі пабудаваны тут толькі над хорамі. У кёльнскім саборы, які трошкі большы ў даўжыню за страсбургскі сабор, стаяць у чатыры шэрагі магутныя слупы. Галоўны алтар быў выразаны з цэльнай глыбы чорнага мармура, якую прывезлі ў Кёльн па Рэйне з Намюра-на-Маасе. У скарбніцы тут паказваюць посах са слановай косці, які, паводле падання, належаў апосталу Пятру. У адной з капліц стаіць пазалочаная, упрыгожаная каштоўнымі камянямі сярэбраная ра́ка з рэліквіямі Трох Каралёў. Праз невялікую адтуліну ў веку бачны іхнія чарапы. Кажуць, што два белых — Каспараў і

АДАМ ГОТЛОБ ЭЛЕНШЛЕГЕР

# РАЙХМУТ ФОН АДОХТ

Балтазараў, а чорны паміж імі — Мельхіёраў. Лёгка зразумець, што гэтыя цудоўныя, велічныя старажытныя святыні павінны былі моцна ўражваць католікаў. А тры чарапы, сярэбраная ра́ка і каштоўныя камяні прымушалі іх паверыць у тое, што гэта сапраўдныя рэліквіі, гэтаксама, як погляд гісторыка, звернуты ў мінуўшчыну, пераконвае нас у адваротным.

Менавіта ў гэтым саборы была пахавана Райхмут фон Адохт. Той час вызначаўся хутчэй схільнасцю да пышнасці, чымсьці добрым густам. Таму было зусім натуральна, што яе ўбралі, як нявесту, у стракаты шоўк, надзелі на галаву нябожчыцы вытанчаную карону, а на пальцы яе бледных рук — каштоўныя пярсцёнкі.

Паклалі Райхмут у труну з маленькімі зашклёнымі акенцамі і паставілі яе ў невялічкую капліцу ў сутарэнні пад самымі харамі. Там ужо ляжалі яе продкі. Яна сама пры жыцці наведвала іх падчас набажэнства і з глыбокай пашанай і страхам глядзела праз акенцы на карычневыя муміі, мёртвыя чарапы якіх рэзка кантраставалі з золатам і каштоўнымі камянямі, на свой спосаб дэманструючы розніцу паміж марным і вечным. У тыя часы нябожчыкаў ужо не бальзамавалі. Капліца была перапоўнена, і пасля пахавання Райхмут вырашылі больш там нікога не хаваць. І вось яна ляжала ў склепе, нібы на ложку смерці, толькі ў пышным строі.

Добры Адохт, муж Райхмут, цяжкім крокам суправаджаў труну жонкі да месца яе апошняга спачыну. На вежы вялікі звон вагой у больш за 20 тонаў напаўняў смутным гулам вялікі горад. Богабаязныя манахі адслужылі пры свечках задушную Імшу паводле старажытных пергаментных фаліянтаў, што ляжалі на пюпітрах. Яны спявалі і кадзілі ладан. Сваякі Райхмут таксама ўсе былі на пахаванні. Яны трымалі ў руках крапільніцы і пад гукі спеваў акраплялі нябожчыцу свянцонаю вадою. А тая ляжала ў абдымках смерці — бледная і нерухомая.

Агромністы гадзіннік, які заводзілі толькі раз на год і які паказваў не толькі час удзень і ўначы, але таксама і рух нябесных свяцілаў, здавалася, быў адзіным, што жыло ў маўклівым саборы. Ягонае манатоннае ціктак гучала над маўклівымі надмагіллямі, над тварамі святых на старажытных карцінах.

На двары бушавала навальніца, калі познім лістападаўскім надвячоркам Пэтэр Больт, памочнік магільшчыка сабора святога Пятра, пайшоў дадому пасля пышнага пахавання. Ён быў чалавек бедны, тры гады таму пабраўся шлюбам, а праз год пасля вяселля жонка падарыла яму дачку. Цяпер яна таксама павінна была нарадзіць. З цяжкім сэрцам ён вяртаўся з сабора ў свой лядашчы дом. Халодны і сыры, ягоны дамок стаяў на беразе рэчкі. Адкрыты бурам, ён першым сустракаў восеньскую навалу. Пэтэр хацеў увайсці да жонкі, але маленькая Марыя, якая самотна сядзела ў пярэднім пакоі на лаве і гулялася з лялькай, устала перад ім.

— Татуля,— пралепятала яна,— не хадзі туды! Прыляцеў бусел і прынёс Марыі маленькага брацікa! А матуля захварэла і ляжыць у ложку!

Тут да Пэтэра выйшла ягоная швагерка з крэпенькім нованароджаным на руках. А тым часам жонцы станавілася ўсё горш, і трэба было грошай, грошай значна большых, чымсьці меў Больт. Пільная патрэба прымусіла яго бегчы да яўрэя Ісака, які апошнім часам часта пазычаў яму невялікія сумы пад надзейны заклад. На гэты раз Пэтэр не меў нічога, каб закласці, і ён спадзяваўся толькі на міласэрнасць Ісака. Аднак на гэты якар паратунку не было спадзявання! Больт нясмела пастукаўся ў дзверы ліхвяра. Ісак цярпліва выслухаў ягоныя балючыя просьбы ўперамешку са слязьмі. А калі Пэтэр скончыў, ён спакойна сказаў, што дзеля нованароджанага ён нічога пазычыць не можа, а слёзы і енкі — гэта ненадзейны заклад, і ніводзін чалавек справы не можа пагадзіцца на такое. Няшчасны, разгублены, у поўнай роспачы,

ледзь трымаючыся на нагах, Больт пайшоў назад дахаты. Што рабіць? Пэтэр не аднойчы ўжо звяртаўся да багатых прэлатаў і жывіўся ў іх мізэрнай міласцінай. Ісці да іх ізноў ён не хацеў.

Між тым настала ноч. У апраметнай цемры на саборную плошчу халоднымі мокрымі камякамі коса падаў снег. У Больта было цяжка на душы, і ён, апантаны думкамі аб сваім няшчасці, заплутаў на плошчы, па якой раней столькі хадзіў. І нечакана для самаго сябе ён апынуўся прама каля галоўнага партала сабора. Гадзіннік прабіў тры разы, што азначала тры чвэрці на дванаццатую. І тут у галаве Больта прамільгнула нечаканая думка. Раптам ён убачыў, як ягоная дачушка Марыя гуляецца з лялькай, убачыў хворую жонку з нованароджаным ля ссохлых грудзей. А потым ён уявіў мёртвую Райхмут у труне са шклянымі акенцамі, з дыямэнтамі на мёртвых пальцах. «Навошта яны ёй? — падумаў ён. — Вось быў бы цудоўны заклад для Ісака! Няўжо гэта грэх — абрабаваць нябожчыцу дзеля выратавання жывых?»

Усхваляваны гэтымі думкамі, ён пабег дахаты. Пасля таго, як па дарозе Больт сто разоў абдумваў усё зноў і зноў, усмешка адчаю на вуснах жонкі прымусіла яго прыняць канчатковае рашэнне. Ён запаліў ліхтар, паклаў у кішэню вялікую звязку ключоў і выбег з хаты.

Па дарозе яму раптам падалося, што пад нагамі ў яго дрыжыць зямля. Аднак сама думка пра тое, што дома цяпер яшчэ горш, чым тут, штурхала яго наперад. Ён суцяшаў сябе тым, што з-за непагадзі на вуліцах не было ніводнага чалавека і, такім чынам, ніхто не мог сачыць за ім. Спыніўшыся на імгненне перад дзвярыма сабора, ён наважыўся і ўставіў ключ у стары замок, прывычна павярнуў яго. І вось, зачыніўшы за сабой дзверы, ён ужо стаіць у саборы сам!

Як калацілася ягонае сэрца, пакуль ён крочыў па доўгай бясконцай наве сабора. Ягоная рука, якая трымала ліхтар, так страшна трымцела, што ён кожнае імгненне баяўся, як бы не згасла свечка. Яму здавалася, што нашмараваныя да бляску херубімы на спінках дубовых лаваў спрабавалі ўтрымаць яго крыламі за крысо плашча. Аднойчы яму распавядалі пра чалавека, які, каб даказаць сваю смеласць, увайшоў уначы ў касцёл. У знак тога, што ён там быў, той утыкнуў нож у века труны! Але неасцярожна прыбіў на-



жом таксама і крысо свайго плашча. Нож моцна трымаў яго, і той чалавек памёр на месцы з перапуду. «Ты мусіш пераадолець свой страх, — пераконваў сябе Больт, — усё гэта ты сам прыдумаў. Гэта кроў твая ўдарае табе ў голаў, падманвае і палохае цябе. Сотні разоў ты быў тут уначы, і нічога з табой не здарылася».

Але як ён ні ўгаворваў самога сябе, гэта не надавала яму смеласці. Яму здавалася, што ягоныя вусны бязгучна паўтараюць тое, што ён думаў, хаця свае думкі ён не насмеліўся б выказваць услых!

Штораз, праходзячы паўз чарговую алтарную карціну і асвятляючы яе ліхтаром, Пэтэр бачыў, нібы ў пакорлівых тварах святых тоіцца нейкая пагроза. На адной з карцін было паказана пакаранне смерцю апостала Пятра. Святы вісеў на крыжы дагары нагамі, а ягоныя серабрыста-шэрыя валасы рассыпаліся па зямлі. У гэты момант Больту падалося, нібыта ківач гадзінніка пачаў гучней, чым звычайна, адбіваць хвіліны. Ён адхінуўся назад. «Пане! — падумаў ён. — Які ж я вялікі грэшнік! Апостал Пётр пакорліва памёр пакутлівай смерцю за Езуса Хрыста, а я здраджваю Яму!»

Тут за мурамі сабора праспяваў першы певень, і Больт прыгадаў, як апостал Пётр ад першых да другіх пеўняў паспеў тройчы адрачыся ад Збаўцы. «Ён жа таксама быў толькі чалавекам, — падумаў Больт, — хаця ў яго і не было ані жонкі Ёганны, ані малой Марыі, ані нованароджанага, пра якога трэба дбаць».

Гэтая думка надала Больту смеласці. Ён рашуча прайшоў паўз галоўны алтар, адчыніў агароджу хораў, сышоў па прыступках уніз, прайшоў паўз доўгі вузкі падземны ход, паабапал якога бачна было надмагільныя пліты, і расчыніў дзверцу капліцы, дзе ляжала Райхмут. І вось ён ужо стаіць каля яе труны. Змярцвела-бледная ляжала яна ў склепе, дзе, як яму падалося, ужо адчуваўся трупны пах. Карона ў яе валасах, пярсцёнкі на пальцах загадкава мігцелі пад слабым святлом ліхтара.

Толькі ён хацеў прыўзняць крышку века, як тут жа жахнуўся. Яму падалося, што выраз твару нябожчыцы змяніўся. «Калі б я меў больш часу, — падумаў ён, — то лепш узяў бы што-небудзь з іншых трунаў. Час ужо сцёр усе чалавечыя




Кёльн. Старая гравюра.

рысы на чарапах гэтых мумій. Прывозяць жа муміі з Егіпта і не пакутуюць на дакоры сумлення! Даўніна знішчыла ўсе правы смерці і ледзь не ўсю годнасць мёртвых. Але тыя, што спачываюць тут, былі хрысціянамі. Самі егіпцяне свята шанавалі свае грабніцы. А адкрываюць іх і рабуюць чужынцы, нашчадкі чужога народу».

Больт не хацеў заставацца доўга ў гэтым страшным месцы і пачаў дзейнічаць больш рашуча. Пэтэр вырашыў, што труну Райхмут узламаць лягчэй за ўсё. Ён паспрабаваў выкарыстаць лом. Але гэта аказалася зусім не так проста. Зашклёныя акенцы ў веку былі надта малыя, а да таго ж закратаваныя стальным дротам. Ён мусіў ламаць дошкі, і калі яны затрашчалі, па твары Больта пакаціўся халодны пот. Трэск дошак пераконваў яго яшчэ больш, што ён сапраўдны касцёльны злодзей. Спачатку Больт баяўся толькі таго, што атачала яго ў саборы, а цяпер ён пачаў баяцца самога сябе. Ён, безумоўна, не здолеў бы здзейсніць свой намер, калі б века нечакана не адскочыла — ён выпадкова націснуў на нейкую спружыну. Пэтэр імкліва азірнуўся, нібы жадаючы ўбачыць, хто стаіць у яго за плячыма і сочыць за ім. Не ўбачыўшы нікога, ён укленчыў, узняў рукі да неба і, уздыхаючы, прашаптаў:

— Святая нябожчыца! Прабач мне! Табе ўжо не патрэбная ўся гэта раскоша! А адзін каменьчык з твайго пярсцёнка зможа ашчаслівіць цэлую сям’ю беднякоў — жывых людзей.

Яму падалося, што ад гэтых словаў твар нябожчыцы нібыта крыху змякчыўся. Тады ён смела схапіў яе за руку і хацеў сцягнуць з пальца пярсцёнак. Але хто апіша ягоны жах, калі мёртвая, моцна схапіўшы вільготнымі пальцамі ягонае запясце, з усяе сілы сціснула руку Больта. З немым крыкам ён вырваўся з яе рук і, нават не захапіўшы з сабой ліхтара, кінуўся наўцёкі. Страх дапаможа яму знайсці дарогу і ў цемры! Нібыта заяц, ляцеў Пэтэр праз падземны ход, паўз капліцы, праз хоры і, безумоўна, удала выбраўся б з сабора на плошчу, калі б, спяшаючыся, не забыўся на вялізны, так званы Д’яблаў, камень, што ляжаў пасярод сабора. Людзі верылі ў забабон, што нібыта сам д’ябал скінуў яго ўніз, прабіўшы скляпенні. Але праўда толькі ў тым, што камень упаў зверху, і ў саборы дагэтуль паказваюць пралом у даху, адкуль ён зваліўся.

Вось на гэты камень і наляцеў няшчасны Больт, якраз калі гадзіннік на высокай вежы хрыпла прабіў свае дванаццаць глухіх удараў. Пэтэр страціў прытомнасць і ўпаў на падлогу. Калі ён ачуняў і ўбачыў, што нікога побач няма, а, значыць, за ім ніхто не гоніцца, у яго нібыта выраслі крылы. Ён выскачыў з сабора, прабег цераз плошчу і кінуўся проста да дома бургамістра. Ён нічога не адчуваў, ні пра што не думаў, акрамя свайго страшнага граху, і лічыў, што пазбегнуць помсты нябожчыцы можна толькі прызнаўшыся ў сваім злачынстве яе мужу.

Ён мусіў доўга стукаць у браму, перш чым яму адчынілі. Усе ў доме спалі першым сном, і толькі бедны Адохт яшчэ сядзеў на той кушэтцы, дзе ён некалі сядзеў са сваёй каханай Райхмут. Яе партрэт вісеў у цяню на сцяне, і засмучаны Адохт, абапершыся шчакой на далонь, не зводзіў з яго вачэй. Больт зноў пастукаў у браму, і гэта ўрэшце абудзіла Адохта ад гаротных дум. Ён выпрастаўся і, расчыніўшы акенца, спытаў:

— Хто гэта?

— Ах, вяльможны пане бургамістр, гэта я! — прагучала яму ў адказ.

— Хто гэта — я?

— Я, Пэтэр Больт, памочнік магільшчыка сабора святога Пятра. Маю да вас надзвычай важную справу, пане бургамістр!

Натуральная хада думак — Райхмут, яе магіла, сабор, дзе яна пахавана, і таямнічая справа надзвычайнай важнасці, пра якую яму збіраўся распавесці Больт, — прымусіла Адохта паспяшацца насустрач Пэтэру. Ён узяў падсвечнік, хутка спусціўся ўніз і сам адчыніў дзверы Больту.

— Што вы хочаце мне паведаміць?! — гукнуў ён.

Не паспеўшы зачыніць за сабой дзверы, Больт кінуўся ў ногі Адохту і шчыра ва ўсім прызнаўся. Адохт слухаў яго з вялікім здзіўленнем. Ягоны гнеў быў змешаны са спачуваннем. А калі магільшчык скончыў свой расповед, бургамістр загадаў Больту маўчаць пра гэтую справу, каб не наклікаць на сабе яшчэ большае няшчасце. Адохт адразу вырашыў накіравацца разам з магільшчыкам у сабор і разабрацца на месцы, што здарылася. Аднак Пэтэр рашуча адмовіўся суправаджаць яго.

— Лепш адвядзіце мяне проста на эшафот, — сказаў ён, — каб мне наступны раз не карцела грашыць і трывожыць мёртвых.

Адохт між тым не даваў сабе рады і з нецярплівасцю жадаў хутчэй апынуцца ў саборы. Іскра надзеі ўспыхнула ў ягоным сэрцы. Аднак яго кранулі гора і адчай Больта.

Той трымцеў ад страху, калі расказваў бургамістру пра тое, што ягоная жонка нарадзіла хлопчыка, і пра ўсю сваю нэндзу. Твар Пэтэра быў такі смяротна спалатнелы, вочы поўніліся такім адчаем, што ён сам быў падобны да магільнай здані. Бургамістр загадаў Больту ўзяць сябе ў рукі і ані слова не

казаць нікому пра тое, што здарылася. А грошы Адохта — некалькі бліскучых талераў — на першы час пазбавяць яго ад бяды. Бургамістр пераканаў Больта пайсці дахаты і паклапаціцца пра жонку. Потым Адохт паклікаў свайго старога слугу.

— Ты баішся мёртвых, Ганс? — спытаў ён.

— Не, вяльможны пане бургамістр, — адказаў той. — Заўсёды лепш мець справу з імі, чымсьці з жывымі. Тыя значна больш небяспечныя.

— Ну а, напрыклад, ты не пабаяўся б уначы пайсці ў сабор?

— Калі паводле абавязку службы, то не пабаяўся б. А проста з цікаўнасці — ніколі б не пайшоў. Нельга кпіць з таго, што трэба шанаваць.

— А ты верыш у прывіды, Ганс?

— Так, веру, пане бургамістр.

— І баішся іх?

— Не, не баюся. Я трымаюся Пана Бога і ведаю, што і Ён плаціць мне тым жа, а Ён наймагутнейшы за ўсіх.

— Пойдзеш са мной у сабор, Ганс? Я сасніў дзіўны сон пра маю жонку-нябожчыцу. Нібыта яна паклікала мяне праз усю плошчу з акенца саборнай званіцы.

— А-а, тут быў Пэтэр Больт і наплёў вам усякай лухты. Вось вы і спадзяецеся... Гэтым магільшчыкам штораз здані здаюцца...

— Запалі ліхтар, Ганс. Маўчы і хадзі за мной! Я загадваю табе!

— Ну, калі вы загадваеце, вяльможны пане бургамістр, я падпарадкоўваюся вашай волі. Вы для мяне гаспадар і ўлада.

І Ганс, не пярэчачы, запаліў ліхтар і пайшоў за сваім панам.

Адохт таропка ўвайшоў у сабор. Аднак Ганс, які меўся ісці спераду і асвятляць дарогу ліхтаром, увесь час затрымліваў яго сваімі разважаннямі, таму бургамістр мусіў запаволіць крок. Каля ўвахода Ганс асвятліў залатыя жэзлы над дзвярыма. Штогод іх станавілася больш, каб людзі ведалі, колькі гадоў уладарыць цяперашні курфюрст.

— Добра прыдумана, вяльможны пане бургамістр, — сказаў Ганс, — варта толькі падлічыць гэтыя жэзлы, і адразу ясна, колькі гадоў кіруе намі, грэшнымі, яснавяльможны пан курфюрст.

Потым Гансу закарцела асвятліць ліхтаром прыгожыя медныя і алебастравыя надмагіллі. Потым ён прасіў гаспадара растлумачыць яму розныя надпісы. Адным словам, ён паводзіў сабе, як замежны падарожнік, які рады нагодзе агледзець выдатныя помнікі сабора, хаця ўсе шэсцьдзясят чатыры гады свайго жыцця Ганс правёў тут, у горадзе Кёльне, і за гэты час бываў у саборы па некалькі разоў на тыдзень.

Адохт ведаў, што падганяць яго бессэнсоўна і што гэтым ён не дасць рады. І ён цярпеў выбрыкі свайго старога сябра і слугі. Ён спрабаваў толькі як мага карацей адказваць на ягоныя пытанні. Так паціху яны падышлі да галоўнага алтара. Але тут Ганс раптам спыніўся, і ніякімі сіламі было немагчыма скрануць яго з месца.

— Паспяшаемся! — гукнуў Адохт, які ўжо пачаў нецярплівіцца. Сэрца ягонае закалацілася мацней ад трывожнага чакання.

— Няхай абароняць нас святыя анёлы Боскія! — прамармытаў Ганс, ляскочучы зубамі, затрымцеў і пачаў перабіраць ружанец, што вісеў у яго на пасе.

— Што з табой? — крыкнуў Адохт.

— А хіба вы не бачыце, хто там сядзіць, пане бургамістр?

— Дзе?

— Божа, не пакінь мяне, там каля алтара сядзіць нябожчыца-гаспадыня ў доўгай чорнай сукні і п’е з сярэбранага келіха.

І Ганс накіраваў прамяні свайго ліхтара проста на прывід!

Так, сапраўды гэта была Райхмут.

Бледная, у доўгім чорным строі, яна сядзела, падносячы сваёй худой рукой сярэбраны келіх да вуснаў. Тут нават Адохт забыўся на мужнасць.

— Райхмут! — гукнуў ён. — Заклінаю цябе ў імя Бога, адкажы: ты гэта ці гэта твой цень?

— Ах, — пачуўся слабы голас, — гэта я! Вы пахавалі мяне зажыва! Я ледзь не задыхнулася. Але гэтыя кроплі касцёльнага віна надалі мне сілы і зноў вярнулі да жыцця! Падыміся ж да мяне, мой даражэнькі Адохт! Я не мёртвая, я проста вельмі аслабла, і калі ты не паклапоцішся пра мяне, я і сапраўды скора памру.

Тут Адохт паспяшаўся падняцца да алтара і схапіў у абдымкі сваю каханую, вернутую яму жонку.

Пасля таго як Больт уцёк, Райхмут, якая абудзілася ў труне ад летаргічнага сну, перажыла некалькі жудасных хвілінаў. Яшчэ не зусім ачуняўшы, яна неасцярожным рухам рукі перакуліла ліхтар, пакінуты Больтам на веку труны, і свечка згасла. Райхмут расплюшчыла вочы і не магла зразумець, дзе гэта яна. Пачала мацаць вакол сябе рукамі і зразумела, што замест цёплай коўдры яна ахутана ў тонкі шоўк. Схапіўшыся рукой за галаў, яна намацала залатыя ўпрыгожванні. Райхмут не давала рады. Вакол была апраметная цемра. Адсунуўшы руку далей, яна зразумела, што знаходзіцца ў нейкай цеснай скрыні. Раптам снежныя хмары разарваліся і ясны месяц зазірнуў якраз у адзінае акенца, што было ў скляпеннях сутарэння. І Райхмут з жахам убачыла, дзе гэта яна. Яна ўскочыла, і ў склепе адгукнуліся яе страшныя крыкі. Яна

ясна ўявіла сабе: яе пахавалі зажыва... яна памірае ад голаду і смагі... апошнія жудасныя гадзіны жыцця сярод страшных трупаў — і ўсе гэтыя карціны ўсталі перад ёю. Дзверцы капліцы былі зачынены — напалоханы Больт захлопнуў іх за сабой. Райхмут ведала, што нават на хорах ніхто не пачуе яе крыкаў. Акенца знаходзілася высока ў скляпеннях і глядзела яно на бязлюднае месца, дзе ніхто не хадзіў. Магчыма, што на працягу некалькіх дзён ніхто не спусціцца ўніз, і за гэты час яна знясіліцца і памрэ ад голаду. Заламваючы рукі, Райхмут з жахам углядалася то ў серабрыста-белыя алавяныя труны, то ў чорныя закураныя сцены. Тут, на гэтых чорных сценах, яна, нібыта на аркушах паперы, накрэмзае пазногцямі гісторыю сваіх перадсмяротных пакутаў. І гэта будзе адзіным заняткам, які крыху ўлагодзіць яе пакуты і зойме ў жудасны апошні момант. На яе твары адбіўся адчай. Яна пачала стыць ад сцюжы і страху. Каб выратавацца, Райхмут пачала шукаць нешта, каб ахінуцца. Яе позірк патрапіў на чорны саван, што ляжаў на насілках, дзе раней стаяла труна. Яна і захінулася ў гэты саван. Здавалася, чорная матэрыя саграэла яе, з'явіліся новыя сілы. Ясны месяц свяціў у акенца. Захутаная ў чорны саван, яна ўкленчыла перад акенцам і гукнула:

— Найсвяцейшая Маці Божая Марыя! Ты, што стаіш там, наверсе, у саборы над алтаром. Я не магу цяпер укленчыць перад Тваёй выявай! Але твар Твой лагодны і ззяе, нібыта гэты месяц! Мне здаецца, нібыта гэта Ты глядзіш на мяне зверху, з нябёсаў! Святая Мадонна, выратуй мяне, вызвалі адсюль!

Памаліўшыся, яна падышла да дзвярэй і пачала з апошніх высілкаў паварочваць заіржавелую ручку. Хто апіша яе радасць, калі дзверы расчыніліся! Ды яны і не былі зачыненыя! Таропкім крокам Райхмут выйшла з капліцы і пашыбавала далей. Але здолела дабрацца толькі да галоўнага алтара. Яна адчула, як яе ногі стынуць і падкошваюцца ад слабасці, і напалохалася, што зноў можа страціць прытомнасць. На шчасце, яна ўспомніла, што святар звычайна захоўваў за алтаром бутлю, у якой прыносіў віно для Трапезы Божай. З цяжкасцю яна прабралася туды, адкаркавала бутлю і знайшла ў ёй роўна столькі віна, колькі было трэба дзеля аднаўлення сілаў. Ніхто яшчэ з такой богабаязнасцю і верай не прымаў, як яна, святое Прычасце. Райхмут адчула, што ў яе жылах зноў струменіцца кроў, што да яе вяртаецца жыццё. І тут яна ўбачыла свайго мужа. Толькі на імгненне ён адхінуўся ў жаху ад дзіўнай здані, але хутка даў рады і скора ўжо трымаў у абдымках каханую жонку.

З надзвычайнай асцярожнасцю Адохт прынёс Райхмут дадому. Яму няцяжка было схаваць, якім чынам ён здолеў выратаваць жонку. І наколькі вялікай была радасць бургамістра, калі на наступны дзень лекар запэўніў яго, што небяспечны крызіс прамінуў і жыццю Райхмут не пагражае небяспека. Ён больш не мог гневацца на няшчаснага Больта, якога штурхнулі на злачынства такія жаласлівыя матывы. Але Больт быў сам сабе яшчэ больш строгім суддзёй, чымсьці бургамістр. Ён адмовіўся ад сваёй сціплай пасады, таму што не хацеў больш бываць у касцёле так часта, як таго патрабуюць абавязкі. Яшчэ менш ён хацеў заставацца там увечары. Райхмут паклапацілася аб ягонай жонцы, Адохт — аб ім. Сужэнцы сталі хроснымі бацькамі нованароджанага сына магільшчыка. Свяшчэнныя пачуцці перапаўнялі іх душы ў той святочны сонечны дзень, калі праз два тыдні пасля свайго цудоўнага выратавання Райхмут, трымаючы на руках нованароджанае дзіця, стала ягонай хроснай маці. Іграў арган, лавы былі ўпрыгожаныя зялёнымі яловымі галінамі, ліставым золатам і срэбрам, а сабор быў поўны вернікаў. Шчаслівае сужэнства ад усяго сэрца дзячыла Провіду і паклялося заўсёды клапаціцца аб малым хлопчыку. Бо тое, што ён нарадзіўся ў галечы, было адзіным, што не дазволіла Райхмут памерці жудаснай смерцю. Вось так і атрымалася, што жалобнае пахаванне змянілася вясёлымі хрэсьбінамі, якія суправаджаліся барабанным боем, звонам літаўраў і галасамі трубаў. А багач Адохт не шкадаваў у гэты дзень свайго старога рэйнскага віна. Ён загадаў выкаціць вялікую бочку на радасць натоўпу, які піў за здароўе яго і ягонай жонкі, весела гукаючы на ўсю плошчу.

[1] Германскі Рым (лацінск.)
[2] Святы горад (лацінск.)

*Пераклаў з дацкай мовы Валеры Буйвал.*

*Паводле: Adam Gottlob Oelenschläger. Skrifter i udvalg. København, 1958.*

Ігар Сурмачэўскі

# Wiazyn, Вязынь, Вязань…



Вязынь, касцёл. Фота Яна Балзукевіча. 1910 г.

«... А дарога да Койданава і разам з тым тракт Варшаўскі, што праходзіць побач з Воўчкавічамі, пачынаецца ад мінскага парафіяльнага касцёла і ідзе на поўдзень праз горад да мураванай калоны, на якой усталявана фігура святога Антонія... Мінаючы калону, рухаемся ўправа да Мядзвежына, фальварка пана Шэйбы, дзе за маёнткам ідуць дзве дарогі да Койданава... Лепей трымаемся правага боку каля зарасляў праз невялікае поле, праз сенажаць і рачулку, якую пераязджаем па непрацяглай грэблі і па невялічкім мастку... Каля млына адразу відаць карчма налева ад гасцінца, а направа бачна вёска Брылевічы. Ад той брылевічскай карчмы праз поле і чорны лес выязджаем на гасцінец, па правым баку якога зноў стаіць карчма, а па левым — засценак Шчэрысліца пані Яноўскай, старасцянкі менскай. Ад засцянковай карчмы мокрым полем і праз чорны бор кіруемся на шырокае поле, за якім на вялікім пагорку відаць гаспадарчы двор Воўчкавічы, побач з якім на поўдзень на асобным пагорку стаіць уніяцкая царква. За невялікім мастком, што ідзе праз рэчку, адразу стаіць карчма, ад якой праз поле і праз чорны лес можна даехаць да другой карчмы, што завецца Чаркас. Далей ідзе добры гасцінец, і тут жа праз поле відаць на пагорках гаспадарскі двор, званы Чаркасы. За Чаркасамі праз невялікія зараслі відаць ужо і маёнтак Вязынь з уніяцкай царквой на цвінтары. Але вялікая балотная сенажаць на дае праехаць напрасткі, давядзецца аб'язджаць ці направа, ці налева. Царква і вязынскі двор належаць да парафіі койданаўскай». Такой няспешнаю дарогаю з Мінска да Вязыня вядзе нас Юзаф Марошка ў сваіх «Opisach parafii diecezji wileńskiej z 1784 roku»...

Цяпер праз маю малую радзіму праязджае ледзь не кожная машына па знакамітай «алімпійскай» шашы нумар 1 Брэст-Масква, і ні ў кога не ўзнікне думка, што за вакном прамільгнуў некалі знакаміты маёнтак. Сёння Вязань адметны толькі невялікай адтынкаванай крамай каля шашы, куды ў 1960-я прыехала працаваць пасля тэхнікума мая мама, зялёнай бензазапраўкай ды старымі могілкамі на пагорку.

З маленькай вёскай Вязынь звязана жыццё многіх пакаленняў маіх продкаў, якія спачываюць на мясцовых могілках. У Вязыні нарадзіўся і я. Ад сваёй бабулі Юзэфы я чуў, што да рэвалюцыі Вязынь належаў нейкім Багдашэўскім, але кім яны былі, бабуля не ведала — паны і ўвесь сказ. І ў школе, і ў інстытуце мне карцела больш даведацца пра маю малую радзіму, але ў 1970–1980-я пра Вязынь (каля Койданава) я не знайшоў ні радочка.

Толькі ў сталым узросце я трапіў у чароўнае месца, якое завецца Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, дзе нарэшце зразумеў — не ўсё матэрыяльнае знікае.

Маёнтак Вязынь як уладан-

---

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. Ахвяруе сродкі для аднаўлення помнікаў беларускай гісторыі і культуры. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

не Радзівілаў вядомы па летапісах з XVI ст., але часам яго блытаюць з Вязынем на Вілейшчыне, бо напэўна зусім нядаўна змянілі ў назве маёй вескі адну з літараў — і стаў на мапе Міншчыны ўжо не Вяз**ы**нь, а Вяз**а**нь.

Звесткі пра маю малую радзіму, як промні амаль страчаных успамінаў, зазіхацелі праз шэрань старажытных часоў з шурпатых старонак таўшчэзных кніг пад назваю «Менскі гродзкі суд». Гэта нават не кнігі, а фаліянты вагою ў добры стос цаглінаў, дзе падобная да пергаменту папера ўпрыгожаная закавыкамі і арнаментам старажытнага скорапісу, які трэба было яшчэ расчытаць майстрам па расшыфроўцы старaславянскага пісьма.

Першая справа, якая тычыцца Вязыня, датавана 4 лютага 1600 года. Гэта скарга ўрадніка вязыньскага маёнтка С. Свірскага на падданых Яго Мосці князя Шчаснага Яраслававіча. Нейкі Стасюк Кульбака, які належаў Яго Мосці князю Шчаснаму, збег ад свайго гаспадара з мястэчка Шацк шукаць лепшай долі ў маёнтак Вязынь, у вёску Баламутавічы, і нават «замешкаў» там так добра, што быў запрошаны на вяселле Якуба Хлюста, які жаніў свайго сына Савацея з дачкою пана Яна Нямеры. Вяселле было ў нямераўскім двары пад назваю Асота недалёка пад Вязынем. Але князевы «шпегі», у тым ліку ўраднік мястэчка Шацк Філон Арлоўскі, высачыў небараку Стасюка і з памагатымі зрабіў засаду недалёка ад двара, дзе спраўлялі вяселле. Доўга балявалі і запозна вярталіся ў свае Баламутавічы маладыя і «прыяцелі» ў марозную зорную ноч 30 снежня 1600 года. Ужо ехалі сані праз чорны лес «бахарэўскі» каля чорнага віру рэчкі Асокі, як на іх з вусцішнымі крыкамі нападае атрад Філона Арлоўскага. Стасюка Кульбаку моцна збілі, звязалі і узялі ў палон, а бедных гасцей абабралі, пабілі і паранілі кіямі. «Учынілі ім грабеж і многія шкоды...» — так напісана ў скарзе. Нават маладых і іх майно не пашкадавалі: «... з таго жаніха знята і паграблена сярмяга і кажух, шапка з куніцаю, якая каштавала грошай сорак, з дзеўкі знята сукня карэзеевая, за чатыры копы грошай купленая, шубка белічая, сукном мураўскім крытая, з бабром за шэсць копаў грошай купленая, шапка аксамітная, за дзве копы грошай купленая, скрыня з рэчамі ўзятая і паграбленая, у якой было палатна тонкага кужылю локаць, шэсцьдзясят рушнікоў, намітак тонкіх дзесяць, кашуляў жаночых дзесяць...» Як там далей вырашыў справу падстароста менскі Ян Кураш, невядома, але на гэту скаргу падаў ужо сваю скаргу сам князь Шчасны на падданых князя Радзівіла з вязыньскага маёнтка — нібы тыя самі напалі на атрад Філона Арлоўскага, а завадатара і ўцекача Стасюка Кульбаку князь прыгаварыў «на горла» ў сваім мястэчку Цітва: прасцей кажучы, асуджанаму адсеклі галаву... Суровыя былі часы, і магнаты не кожны раз пры вырашэнні судовых справаў карысталіся Статутам ВКЛ ці заглядалі ў Евангелле.

Дарэчы, і самі магнаты ўчынялі так званыя «наезды» на маёнткі суперніка ці на «панабрата», які не так паглядзеў у іх бок ці перасунуў межавы камень ад любімай «дулі» на некалькі сантыметраў. Радзівілы ў гэтым сэнсе былі непераможнымі і не баяліся нікога. Яны рабілі «наезды» нават на свае маёнткі, што аддавалі ў арэнду панам-пасэсарам, якія былі не апошнімі ў службовым рангу ВКЛ. У «Менскім гродзкім судзе» ёсць позва ад 1742 г. у Галоўны Літоўскі Трыбунал князю Гераніму Радзівілу, падчашаму ВКЛ, каменданту горада Слуцка Яну Кінегсеку, яго ад'ютанту Мацею Матусевічу і салдатам па скарзе Уладзіслава Ваньковіча, войскага Мінскага ваяводства, аб наездзе на вёску Віцкаўшчызна ў маёнтку Вязынь, дзе салдаты ўчынілі крадзеж, спусташэнне і захоп у палон вязыньскага адміністратара пана Дашчынскага. У гэты час, дарэчы, маёнтак Вязынь быў у арэнднай заставе ва Уладзіслава Тадэвуша Ваньковіча (1738–1763), мечніка і войскага менскага, продка нашага мастака знакамітага Валенція Ваньковіча.

У 1652 г., якраз перад навалаю з Усходу, Багуслаў Радзівіл, канюшы ВКЛ, напэўна, з эканамічных меркаванняў, бо за арэнду маёнтка можна было адразу атрымаць добрыя грошы, аддае Вязынь у заставу Базылю і Яну Кастравіцкім і Самуэлю Філіповічу, пазычыўшы ў азначаных пасэсараў 70 000 талераў. Напэўна, канюшага ВКЛ добра прыціснула з грашыма. Потым Вязынь пераходзіць ад пасэсара Самуэля Філіповіча да Рэгіны з Кастравіцкіх Валадковічавай, мінскай земскай пісаравай. Дарэчы, Рэгіна была жонкаю Кшыштафа Валадковіча, пісара мінскага, які дзеля ўратавання свайго жыцця і маёмасці прысягнуў маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу на вернасць. Што да маёмасці Валадковіча, то адданасць расейскаму цару не спрыяла абароне правоў тутэйшай шляхты. Маёмасць мінскага наваколля пайшла агнём. Пасля вайны з Масковіяй і адыходу ў іншы свет Багуслава Радзівіла новая ўладарка Вязыня пфальцграфіня рэйнская Людавіка Караліна Радзівіл у 1691 г. пацвярджае застаўное права Рэгіне Валадковічавай, а радзівілаўскі абавязак у 70 000 талераў, які ўзяў на свае неўтаймаваныя расходы Багуслаў, амаль праз сто гадоў атрымаў у 1738 г. ужо продак Самуэля Філіповіча — Фларыян, віленскі гараднічы, які адразу перадаў застаўное права на Вязынь Уладзіславу Тадэвушу Ваньковічу, войскаму Мінскага ваяводства. Напэўна, тут не абышлося без кроўных сувязяў, бо жонкаю мінскага войскага была Тэрэза з Філіповічаў. Ваньковічы гаспадарылі ў Вязыні з 1738 па 1780 год. У 1780 г. застаўное права на маён-

так Вязынь пераходзіць, як ні дзіўна, да родзічкі з Радзівілаў, Веранікі Іааны Радзівіл. Яна была дачкою Міхаіла Казіміра Рыбанькі і ў 1772 г. выйшла замуж за графа Францішка Станіслава Костку-Чапскага, ваяводу хэлмскага. Графу Чапскаму Вераніка прынесла ў пасаг знакаміты маёнтак Станькава. Напэўна, графу не было дзе развярнуцца з гаспадаркаю ў невялічкім Станькаве, і ён просіць жонку, каб яна папрасіла брата дапамагчы з зямлёй. Брат Веранікі, Караль Радзівіл (Пане Каханку), згаджаецца і перадае роднай сястрыцы маёнтак Вязынь у заставу на тры гады за 656 000 польскіх злотых. Мы ведаем Пане Каханку як магната з сумніўнай рэпутацыяй, але ён ведаў кошт сваей маёмасці і за ламаны шэлег не аддаў маёнтак роднай сястрыцы. Вераніка Чапская гаспадарыць у Вязыні з 1780 па 1789 год, але, напэўна, кошт пасэсіі быў вельмі вялікі, і нарэшце маёнтак пераходзіць да Антонія Пятровіча Багдашэўскага, мозырскага ротмістра. Можна здзіўляцца вялікаму кошту арэнднай платы за адзін маёнтак і таму, што ён меў такі вялікі попыт сярод магутных пасэсараў. Справа ў тым, што маёнтак Вязынь быў толькі цэнтрам вялікай гаспадаркі, у якую ўваходзілі многія навакольныя вёскі і засценкі. <...>

«...14 верасня 1812 года Менск урачыста сустракаў французскага маршала князя Белуно Віктора. Губернатарам у гонар яго быў дадзены баль. Армія маршала ішла праз Менск на Усход цэлы тыдзень. Была ў яе складзе і польская дывізія, сфармаваная з палякаў і беларусаў у Іспаніі. Абывацелі выходзілі вітаць яе, а вядомы ў горадзе пан Антон Багдашэўскі з радасці выдаў землякам сто гарцаў гарэлкі. Столькі ж прыслала і яснавяльможная пані Свідава. Да лагеру дывізіі, які размясціўся на паўночны ўсход за горадам на маляўнічай раўніне, спяшалі менскія прыгажуні. Яны неслі жаўнерам гародніну, печыва, віно і, зразумела, сваё каханне... Беларускае войска для Напалеона фармавалася даволі хутка, без асаблівага напружання. Ніхто не мог меркаваць тады, што дараваная свабода праіснуе ўсяго тры месяцы і скарыцель Еўропы паверне назад», — чытаем у артыкуле В. Хурсіка «Невядомая вайна 1812 года». Калі нават Багдашэўскі вітаў французскіх жаўнераў, то што ўжо казаць пра Радзівілаў!.. Апошні з нясвіжскай лініі Радзівілаў Дамінік (1786–1813), уладар Койданава і наваколля, натхнёны Напалеонам ідэяй адраджэння незалежнай Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага, выступіў з войскам на баку французскай арміі ў 1811 годзе. Ён у чыне палкоўніка ўзначаліў 8-ы полк уланаў, які поўнасцю экіпіраваў за свае грошы. Пасля паражэння Напалеона Дамінік з рэштай французскай арміі пакінуў межы Расейскай імперыі. Імператар Аляксандр I мог дараваць патрыётам адраджэння ВКЛ, калі яны зноў прысягнулі б яму на вернасць, але шляхетны гонар не даў Дамініку пайсці на такі агідны крок — адважны палкоўнік загінуў у бітве пры Ганаў 30 кастрычніка 1813 года. Многія маёнткі Радзівілаў былі секвесціраваныя ў дзяржаўную казну ды разданыя згодлівым паслугачам. Але Вязынь застаецца ў маёмасці дачкі Дамініка, Стэфаніі Радзівіл (1809–1832). Маладзенькая Стэфанія была знакамітай прыгажуняй у салонах Паўночнай сталіцы, як цяпер гавораць — «петербургской штучкой». Нават вялікі А. Пушкін так захапіўся яе прыгажосцю, што прысвяціў ёй верш «Паж, ці пятнаццаты год», у якім Стэфанія была названа варшаўскай графіняй. У рукапісе паэта побач з вершам намаляваны вабны профіль нясвіжскай прыгажуні. З фундушу Стэфаніі Радзівіл у 1820 г. рэчыцкі ротмістр Антоній Багдашэўскі і набывае маёнтак Вязынь разам з засценкамі. Выбраўшы Вязынь як самае прыгожае месца, Багдашэўскія зрабілі ў ім сваю рэзідэнцыю.

Справа аб секвесціраваных маёнтках Радзівілаў цягнецца амаль 15 гадоў, і толькі ў 1835 г. у газ. «Tygodnik Petersburski» з'яўляецца паведамленне аб перадачы былога радзівілаўскага маёнтка Вязынь у маёмасць Багдашэўскага. Магчыма, такая маруднасць у продажы маёнтка была абумоўлена «разборкамі шляхты» пасля паўстання супраць расейскай улады ў 1831 годзе. Уся шляхта павінна была зноў пацвердзіць сваю лаяльнасць і вернасць расейскаму імператару. Менавіта спісы шляхты, якая прысягала на вернасць, і друкаваліся ў газ. «Tygodnik Petersburski», дзе сярод мясцовых афіцэраў чытаем імя ротмістра Антонія Багдашэўскага. Дарэчы, сам Антоній Багдашэўскі быў членам камісіі ад Менскага павета пры першым «разборы шляхты» ў 1795–1805 гг., калі мясцовыя ўладары павінны былі даказваць новай расейскай уладзе, што спрадвеку маюць свае шляхецкія гербы.

У Антонія Пятровіча Багдашэўскага (?–1836) не было спадчыннікаў, таму ён звяртаецца да свайго брата Стэфана Пятровіча(1776–?), суддзі наваградскага, і аддае Вязынь ва ўладанне яго сыну — свайму пляменніку Ігнацію Багдашэўскаму (1807–1864). Новы ўладар маёнтка быў вельмі цікавай асобай і вылучаўся сярод мясцовай шляхты разнастайнымі захапленнямі: ад эканомікі да мастацтва, і нават быў паэтам. Пачатковую адукацыю Ігнацій атрымаў у Менскай гімназіі, пасля паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе напэўна з натхненнем успрыняў яшчэ не знішчаны з аўдыторый патрыятычны дух «філарэтаў і філаматаў» Тамаша Зана і Адама Міцкевіча. Ігнацій пераймае ў вялікага Міцкевіча цікаўнасць да роднай гісторыі, рамантыку паданняў і баладаў: у 1826 г. ён выдае ў віленскай друкарні свой першы паэтычны зборнік «Kilka ballad i powieści». Першы твор



Вязынь. Старыя могілкі. На пагорку — рэшткі фундамента ўніяцкай царквы. Фота аўтара. 2005 г.

вязыньскага паэта звернуты да ўніяцкага святара невыпадкова, таму што бацька Ігнація, Стэфан, быў жанаты з Разінаю Блоцкаю, родзічкаю ўніяцкага мітрапаліта і арцыбіскупа Полацкага Язафата Булгака. Невыпадкова, напэўна, што малады выхаванец Віленскага ўніверсітэта адразу займеў пасаду сакратара Полацкага ўніяцкага арцыбіскупства (Разіна Блоцкая з часам будзе пахавана ў вязыньскім касцёле, які пабудуе сам Ігнацій). Паэт працягвае друкаваць у «Варшаўскім кур'еры» вершы і балады, якія з часам становяцца больш падобныя да папулярных сталічных рамансаў.

Сястра Ігнація, Антаніна, падбірала музыку да тэкстаў брата, і яны разам давалі так званыя «чацвяргі» ў сваім мінскім доме на Высокім рынку, дзе збіраўся ўвесь мінскі бамонд і былыя выхаванцы мінскай гімназіі: Антон і Людавіка Горваты, Апалінарый Свентаржэцкі, Міхал Корсак, Вейсенгоф... Дарэчы, на гэтыя вечарыны маглі прыходзіць Станіслаў Манюшка і Ян Дамель...

Бог адарыў вязыньскага ўладара не толькі талентам паэта, але і добрага гаспадара, арганізатара. У 1842 г. яго выбралі маршалкам шляхты Мінскай губерні і ён займеў чын калежскага асэсара. Ігнацій займаў пасаду мінскага маршалка з 1842 па 1861 гг., калі маршалкоўства было ліквідаванае і ўведзена пасада «предводитель минского дворянства». Такім чынам, вязыньскі ўладар быў апошнім мінскім маршалкам, ён быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны III ст., ордэнам св. Уладзіміра IV ст., медалём у памяць вайны 1853–1856 гг. У Вязыні працягвае працаваць знакаміты бровар, на якім вараць папулярны ў краі гатунак піва — цёмны вязыньскі портэр.

Ігнацій Багдашэўскі быў жанаты з Вікторыяй Фаміной, якая падаравала свайму мужу чатырох сыноў: Яна (1838), Альгерда (1842), Стэфана (1844), а самаму малодшаму бацькі даюць незвычайнае імя Атон-Генрых (1849) у памяць Атона I Вялікага, сына караля Германіі Генрыха, заснавальніка Рымскай імперыі. Спадчына маёнтка Вязынь падзялілася на чатыры часткі ў 1864 г., калі Ігнацій Багдашэўскі адышоў у іншы свет. Альгерд, напэўна, быў любімчыкам бацькі, бо прыдбаў Вязынь, Камароўшчыну, Лісаўшчыну, Паўлюцi і Павелкава.

Дарэчы, Атон стаў дбайным гаспадаром не толькі ў сваіх маёнтках, але і вёў грашовыя справы ў Менскім дабрачынным грамадскім аб'яднанні, займаў пасаду дырэктара таварыства ўзаемнага крэдыту. У Атона было тры дачкі: Станіслава, Сафія і Эмілія, над якімі пасля смерці бацькі ў 1907 г. узяў апеку сябра сям'і — Эмерык Чапскі. Напэўна, у Атосіне разам з Чапскімі часта балявалі ўладары маёнтка «Над-Нёман» Наркевічы-Ёдкі, бо Сафія Багдашэўская выйшла замуж за сына знакамітага вучонага Якуба Атонавіча Наркевіча-Ёдкі.

Стэфан Багдашэўскі вызначыўся тым, што ў 19 гадоў узяў удзел у паўстанні 1863 года і на яго спадчыну з маёнткам Фаніпаль быў накладзены секвестр, а бацька Ігнацій Стэфанавіч ад перажыванняў памірае ў 1864 годзе. Таму Стэфан і адправіў свайго сына Ігнація ў 1890 г. далей ад ліха — у Імператарскі інстытут права імя прынца П. Г. Альдэнбургскага ў Пецярбург.

Альгерд, уладар Вязыня, не захапляўся палітыкай, хоць і любіў паслухаць успаміны пра веліч Рэчы Паспалітай. Ён дбаў пра росквіт свайго раю на зямлі — маёнтка каля рачулкі Вязынкі. Попыт на цёмны вязыньскі портэр паступова знізіўся, бо з Еўропы прыйшла мода на светлыя гатункі піва — легер, але гаспадар не здаецца і адчыняе пры Вязыні сыраварню, здзіўляючы наваколле добрым «брахоцкім» сырам, на сучаснай мове — галандскім. Гэта была вельмі карпатлівая праца. Большасць навакольных гаспадароў проста здавала надой габрэям, якія плацілі штогод за карову да 20 рублёў срэбрам. Альгерд з часам так адбудоўвае і ўпрыгожвае Вязынь, што ў нататках пра Менск за 1885 г. вядомы краязнаўца Аляксандр Ельскі згадвае яе як мясціну, дзе захоўваюцца памятныя рэчы, творы мастацтва, кнігазборы і архівы. Вязынь напрыканцы XIX ст. уваходзіць у лік най-

важнейшых рэзідэнцый вакол Менска.

...А што ж з духоўнай спадчынай маёй малой радзімы? Шурпатыя старонкі старых дакументаў і тут прыадчынілі завесу таямнічай гісторыі вязыньскай капліцы, ад якой цяпер засталіся толькі рэшткі цаглянага падмурку на пагорку старых могілак.

Ужо ў XVII ст. на самым высокім месцы наваколля стаяла невялікая драўляная святыня, у якой адпраўлялі свае набажэнствы каталікі і ўніяты. У другой палове XVII ст. капліца была разрабаваная і спаленая казакамі І. Н. Залатарэнкі, якія напалі на Койданава і ваколіцы ў 1655 годзе. Казакі не цырымоніліся ні з каталікамі, ні з уніятамі — парубілі ўсіх, а мястэчка і наваколле было ўшчэнт знішчана...

У пачатку XVIII ст. з дазволу пана Кашыца, якога Радзівілы паставілі кіраваць маёнткам Вязынь, мясцовая шляхта паставіла новую капліцу на месцы спаленай. У капліцы захоўвалася нават такая святыня як антымінс — чатырохвугольны ільняны плат з выявою Езуса Хрыста ў труне. Па вуглах плата былі зашыты часцінкі святых мошчаў. Антымінс у 1733 г. прывезлі з Кіева, дзе яго асвяціў уладыка Афанасій Шаптыцкі, грэка-каталіцкі Мітрапаліт Кіеўскі і ўсея Русі. А 20 снежня 1736 г. бэнэдыктынкі з Вільні ахвяравалі добры фундуш на капліцу ў Вязыні. У адноўленай святыні зноў пачалі ўзносіць хвалу Богу каталікі і ўніяты.

З прыходам расейцаў у наш край напрыканцы XVIII ст. пачаліся незразумелыя разборкі і нават цэлая крымінальная справа: а хто быў гаспадаром капліцы з самага пачатку? Асабліва востра гэтае пытанне паўстала ў сярэдзіне XIX ст. пры далучэнні беларускіх уніятаў да расейскай праваслаўнай Царквы: наша культура была незразумелай і нават варожай для рускага чыноўніцтва.

Пытаннем пра вязыньскую святыню займаліся міністр унутраных справаў Расеі граф Блудаў Д.М. ды віленскі генерал-губернатар князь Даўгарукаў М.А. У гістарычным архіве захавалася асобная справа, з якой магчыма дазнацца пра гісторыю капліцы. Расейскія чыноўнікі скрупулёзна дапытвалі ўсіх, хто меў якое-небудзь дачыненне да святыні. Вось як адказаў на пытанне аб гісторыі капліцы Антоній Багдашэўскі: «... он пояснил: что сия стоящая в имении его Вязынь каплица действительно латинская, и он уверен в том: из показаний самых пожилых людей, из наружности оной и из внутреннего устройства, все в оной изображения Святых и целый прибор, который нашёл он в той каплице при занятии имения Вязынь в свое управление ещё прежде, в 1789 году, устроены по обряду Латинской церкви. Богослужение в оной, как с давнего времени, так и за время его владения этим имением отправлялось священниками латинского и греко-униатского исповедования <...>. Когда имение находилось в содержании графов Чапских, всегда жительствовал на помещичьем содержании священник латинский для отправления в означенной каплице богослужения и преподавания христианских треб шляхте и однодворцам, живущим в имении Вязынь, который всё суть также латинского обряда — на основании сего древнего обыкновения он считал долгом удерживать капеллана, а для выгоды крестьян греко-униатского исповедания, к тому ж имению принадлежащих, был для богослужения в той же каплице священник греко-униатский...»

А вось як гавораць пра гісторыю капліцы мясцовыя сяляне: «....живущие в окрестности Вязыня старожилыя люди числом 12 человек, из коих показали: одни, что, кем и когда построена вязынская каплица, не знают, а только слышали от предков, что она посвящена была ксендзом Койдановского латинского обряда Кордюковским и при оной зажизеннно Воеводиной Чапской завсегда удерживались латинские ксендзы, <...> только ведают, что на кладбищах сих, где каплица построена, хоронят умерших греко-униатского и латинского обрядов. Живущий ныне в имении Вязынь ксендз-бернардин Буткевич и ниже помещик Богдашевский к совращению униатов на латинский обряд никаких средств не предпринимают и о том ни от кого не ведущи; а другие, что на том месте, где ныне имеется каплица, была прежде таковая малая, но когда оную обворовали и сожгли, то на место оной с дозволения бывшего поверенного Радзивиллов Кащица сами шляхта, собравшись, вывезли дерево и поставили сию каплицу, которую посвятил Койдановский ксендз латинского обряда Кордюковский, и оная каплица завсегда была латинского обряда».

Далей можна даведацца, што вязыньскую капліцу кансэкравалі не толькі па каталіцкім абрадзе ў 1751 г., але, што «...в 1799 году сентября 30 дня, через епископа, а нынешнего митрополита Булгака и прочих в последствии времени производимых визит, что таким же образом посвящена по времени...» Гэты візіт мітрапаліта Язафата Булгака стаўся магчымы, напэўна, праз сваяцкія сувязі ўладыкі і брата Антонія, Стэфана, які быў жанаты з сваячніцаю Булгака, Разінаю Блоцкаю. Уладар Вязыня дбаў не толькі пра тое, каб пры капліцы быў свой святар, але ахвяраваў на яе начынне немалыя грошы. У той жа справе чытаем: «...то поелику все украшения в оной каплице — монстранция и прочие — сделаны за собственные его деньги и по форме свойственны латинскому богослужению... помянутая каплица устроена собственным его иждивением». Але, на жаль, капліца была зачынена і 2 снежня 1841 г. з усімі абразамі і срэбраным начыннем



Парк Шпалеры. Фота аўтара. 1987 г.

перададзена мінскаму праваслаўнаму архіепіскапу Антонію, а ксяндза-бэрнардына пры вязыньскім маёнтку было забаронена трымаць.

Апошнія звесткі пра вязыньскую капліцу я знайшоў у газетах за 1916 год. Ішла Першая сусветная вайна, і пад Станькавам быў арганізаваны аэрадром для цяжкіх расейскіх бамбардзіроўшчыкаў «Ілля Мурамец». Праз некаторы час да месца дыслакацыі пад Станькава з Пскова вылецелі тры «Мурамцы»: 188, 190, 192. 18 чэрвеня 1916 г. паветраны карабель пад 192, якім кіраваў А.І.Белякоў, пры заходзе на пасадку пацярпеў аварыю каля маёнтка Вязынь. Як потым было напісана ў рапарце: «...авария, очевидно, произошла от того, что перед посадкой корабль шёл на очень малой высоте и, как выяснилось потом, сломал шасси ещё в полёте, зацепив за церковный крест и свалив дымовую трубу с избы». Гаворка ідзе пра крыж шматпакутнай вязыньскай капліцы, якая стаяла на пагорку вязыньскага цвінтара. І комін над хатай узвышаўся на тым месцы невыпадкова, бо са старажытных часоў вакол цвінтара стаялі сялянскія хаты. Там жыў мой прадзед Язафат Сурмачэўскі.

...Ішлі гады, але Антон Багдашэўскі не здаваўся ў сваіх марах пабудаваць святыню ў маёнтку. Ён не даваў спакою ні мінскаму губернатару, ні Мінскай рымакаталіцкай духоўнай кансісторыі, ні койданаўскаму пробашчу. Мінскія чыноўнікі вырашылі на свой капыл усе просьбы неўтаймаванага верніка і зрабілі так, каб «і ваўкі былі сытыя і авечкі цэлыя» — далі пад будаўніцтва месца на лісаўскім цвінтары. Губернскі архітэктар зрабіў эскіз лісаўскага касцёла, але Багдашэўскі нават не стаў яго разглядаць. Мясцовы наднеманскі дэкан кс. Блашэвіч са скрухай пісаў у Мінск: «...во исполнение упомянутого Указа сим рапортую с присовокуплением, что на кладбище Койдановского костёла близ застенка Лисовщизна не только нет построенной каплицы, но никто таковой не намерен строить». Багдашэўскі ў сваіх памкненнях ужо абапіраецца не толькі на свае сілы, але і на падмогу мясцовых вернікаў — яны ўсёй грамадой пішуць койданаўскаму пробашчу: «... калі забаранілі ўтрымліваць капелана, то стала далёка ездзіць да парафіяльнага касцёла, бліжэйшы з якіх Койданаўскі знаходзіцца ў адлегласці 15 вёрст ад Вязыня. Па такой прычыне мы не можам наведваць ня толькі нядзельныя імшы, але і галоўныя святы. ...Іншыя бяз споведзі паміраюць, а немаўлят, каб ахрысціць, трэба па непагодзе і марозу везці да Койданаўскага касцёла. Для таго просім Вялікаможнага ксяндза і кіраўніка парафіяльнага мець на ўвазе нас няшчаслівых, пазбаўленых ... асяродку адзінага ксяндза са сваёй камендарыяй пры рымакаталіцкім касцёле ў Вязыні, які нашыя продкі збудавалі і з ахвяр нашых дзедзічаў вязыньскіх утрымлівалі для адпраўлення набажэнстваў, слухання споведзі, хрышчэння і святога пахавання. Пры тым касцёле на такую патрэбу недалёка ад нашых сядзіб ёсць стары дом для пражывання ксяндза, які мы, калі будзе патрэба і мажлівасць, паправім...»

Антоній прабіў сцяну чыноўніцкіх непаразуменняў, і нарэшце яго пляменнік Ігнацій Багдашэўскі на свае грошы ў 1844 г. пачынае будаваць у Вязыні мураваны касцёл. 18 лістапада 1847 г. новы невялічкі неагатычны касцёл пад тытулам Святой Тройцы быў асвечаны біскупам Мінскай дыяцэзіі Паўлам Раваю. У касцёле захоўваліся парэшткі св. Фаўстына. Колькасць вернікаў вязыньскай парафіі на 1910 год складала 500 чалавек. Да 1905 г. пробашчам касцёла быў вядомы сваёй духоўнай працай ксёндз бэрнардын Дамінік Мацвеевіч Брасевіч. «Брасевіч падтрымліваў духоўную моц, настаўляў тых, хто быў у роспачы; урыўкамі працаваў у канфесіянале; наведваў усіх, каму была патрэбна яго дапамога і духоўная падтрымка. Але ужо 8 гадоў прайшло (Брасевіч памёр у 1905. — І. С.), як ён пакінуу гэты свет і не было напісана ніводнага некралогу ў газеце, але ж народ памятае сціплага волата, а памяць аб ім застанецца ў сэрцах парафіянаў». (Nasze kościoły. Archidjecezja Mińska. T. 2. Warszawa–Petersburg, 1913 г.). З 1905 г. вязынскую парафію ўзначаліў ксёндз Браніслаў Арліцкі, які вярнуўся з душпастырскай працы ў Сібіры. Кс. Браніслаў узначальваў парафію ў Екацерынбурзе (1884–1905),

дзе асвяціў касцёл св. Ганны, пабудаваны на сродкі вядомага ўральскага прамыслоўца, католіка Альфонса Паклеўскага-Козела, які меў чын стацкага саветніка і быў узнагароджаны самім Рымскім Папам ордэнам за асаблівыя заслугі перад Касцёлам.

Дарэчы, кс. Браніслаў Арліцкі праводзіў у апошні шлях майго прадзеда Язафата Сурмачэўскага. У вязыньскім касцёле адбылася і яшчэ адна значная падзея, якая датычыцца гісторыі нашай сям'і — мой дзед Юзаф сустрэў тут сваю будучую жонку і маю бабулю Івашкевіч Юзэфу. Яна вельмі хараша спявала каталіцкія песні. Памятаю, як я знайшоў зжаўцелы вучнёўскі сшытак, дзе алоўкам былі запісаны маёй бабуляй на польскай мове каталіцкія песні яе сяброўак. Я і цяпер нібы чую яе звонкі і прыгожы голас. Раней манера выканання песняў была зусім іншаю: эстэтыка спеваў на пачатку XX ст. будавалася на энергічнай гармоніі пяшчотнага тэнару і высокага фальцэту. Цяпер ніхто так не спявае, можа, толькі ў аддаленых вёсках. Гэты голас прывёў да сэрца майго дзеда Юзафа яго абранніцу. Дзед праходзіў пасля працы каля вязыньскага касцёла і, пачуўшы нябесны спеў, зазірнуў у святыню — ці не анёл там спявае?...

У 1910 г. адбылася пастырская візітацыя ў Вязынь Яго Эксцэленцыі біскупа Яна Фелікса Цепляка. Аб гэтай падзеі быў напісаны артыкул у газ. «Kurjer litewski» за 19 чэрвеня 1910 года. Працытую яго цалкам, каб перадаць той настрой і атмасферу таго часу, калі ў Вязыні было свята каталіцкай веры: «Дзень 15.06.1910 года стаў для Вязыня і ваколіцаў адным з найважнейшых у парафіяльным жыцці. Упершыню за паўстагоддзя ўрачыстае набажэнства ў вязыньскім касцёле адправіў Яго Эксцэленцыя ксёндз біскуп суфраган Ян Фелікс Цепляк, які аб'язджаў з візітацыяй Мінскую дыяцэзію ад імя Апостальскага адміністратара Яго Эксцэленцыі арцыбіскупа Ключынскага.

Сорак гадоў занядбання. Паўстагоддзя без пастырскай візітацыі, без сакрамэнту бежмавання, без благаслаўлёнай апекі, якую дае вернікам біскуп касцёла. У дадатак да гэтага, касцёл вязыньскі, які з'яўляецца філіяй койданаўскай парафіі, прайшоў праз цяжкія выпрабаванні, асабліва калі пробашчамі ў Койданаве былі Пятроўскі і Эйзенблетэр, слынныя паслядоўнікі самотнай памяці ксяндза каноніка Сенчукоўскага. Аднак касцёл выстаяў, дзякуючы цвёрдай веры ўладара Вязыня Альгерда Багдашэўскага, які быў вымушаны прымаць у сябе гэтых паслядоўнікаў русіфікацыі касцёла, але не даў ім нават ступіць на парог святыні.

Гісторыя вязыньскага касцёла досыць кароткая. Пабудаваў касцёл амаль 70 гадоў таму назад Ігнацій Багдашэўскі, бацька сённяшняга ўладара Вязыня, на месцы зруйнаванага раней драўлянага касцёла, дзе ў крыпце змяшчаліся труны некалькі пакаленняў сям'і Багдашэўскіх. Тут была пахавана і пані Блоцкая, сястра апошняга ўніяцкага мітрапаліта Язафата Булгака. Непарушныя труны былі перанесены ў крыпту новага касцёла, дзе цяпер спачываюць рэшткі аж трох пакаленняў Багдашэўскіх. Ад пачатку кансэкрацыі касцёла і да самых рэпрэсій, звязаных з паўстаннем 1863 года, на дзень Святой Тройцы прыязджалі на святочную Імшу ў маленькую святыню біскупы з Мінска. Апошні раз Мінскі біскуп Адам Вайткевіч візітаваў касцёл і бежмаваў тут вернікаў аж у 1863 годзе. З таго года насталі для мясцовых вернікаў і для касцёла цяжкія, найгоршыя часы, але хвалі рэпрэсій не знішчылі веру дробнай шляхты, якая жыве тут, трымаючы ў душы знічь каталіцтва. Гэты зніч падтрымлівала ў часы рэпрэсій руплівая праца светлай памяці кс. Дамініка Брасевіча, апошняга бэрнардына, які 40 гадоў быў пробашчам маленькага касцёла. Пасля яго гэты абавязак перайшоў да кс. Арліцкага, які прыехаў служыць у Вязынь пасля 30-гадовай працы ў Пярмі. <...>

Натоўп быў такі вялікі, што было прынята рашэнне праводзіць Імшу не ў самім касцёле, а пры ім, каля званіцы. Такім чынам у ёй змаглі ўдзельнічаць усе вернікі, якія запаланілі пляц каля касцёла.

Ад старадаўняга вязыньскага палаца праходзіць доўгая алея са старых дрэваў да касцёла, які стаіць якраз насупраць маёнтка, дзе гасцюе дастойны Пастыр. А 11-й гадзіне перад палуднем, калі праходзіў сакрамэнт бежмавання, Яго Эксцэленцыя павінен быў падысці да ўвахода ў касцёл, бо да святыні набліжалася «белая працэсія», якую складалі дзеці з Воўчкавічаў. Гэта мілая для ўсіх працэсія дзяцей удзельнічала ва ўсіх мясцовых урачыстасцях, і мясцовы люд празваў яе «crucifer». Белая працэсія наблізілася да касцёла і размясцілася каля званіцы, дзе ўжо знаходзіўся дзіцячы аркестр з мінскага Дабрачыннага таварыства — ён падмяніў на колькі часу касцёльны хор і арган. Яго Эксцэленцыя, падняўшыся з трона, узяў біскупскія адзнакі і распачаў святую Імшу, якую дапамагалі весці пастыру шматлікія слугі касцёла, якія прыехалі на ўрачыстасць нават з далёкіх куткоў нашай дыяцэзіі. Аркестр выканаў рэлігійныя гімны, якія кранулі сэрцы вернікаў наймілейшымі гукамі. На прыступках касцёла з'явіўся ўсімі знаны і шанаваны ксёндз Міхал Сяўрук, дэкан мінскі. У абшырным і добра прадуманым казанні ён заклікаў парафіян да хрысціянскай еднасці і згоды, без якой Дух Святы не запануе сярод людзей. Прамова была сказана са звыклаю для кс. Сеўрука красамоўнасцю, якая надоўга застанецца ў памяці слухачоў.

Падчас набажэнства некалькі кропляў дажджу і цяжкія хмары, якія наплылі на Вязынь, здавалася, перайдуць у залеву, але, на шчасце, святая Імша пра-

цягвалася далей без перашкодаў.

Пасля набажэнства Яго Эксцэленцыя наведаў гасцінны палац Багдашэўскіх для кароткага пасілку, пасля якога зноў вярнуўся да касцёла, каб прадоўжыць сакрамэнт бежмавання ўсім застаўшымся кандыдатам. Пасля ўдзялення сакрамэнту ён выйшаў на прыступкі касцёла, апрануты ў залацістую інфулу і з пастаралам у руцэ. Яго Эксцэленцыя звярнуўся да вернікаў з кароткай, але сардэчнай прамовай, якая проста кранула людскія душы. Словы тыя не былі папярэдне падрыхтаванымі, а былі самымі шчырымі, з цёплымі пачуццямі дастойнага пастыра, які ведае, як найлепш давесці да сэрцаў тое, што было забаронена на паўстагоддзя. Нарэшце пастыр можа вольна сказаць сваім вернікам, што касцёл ёсць адзінай апекаю і адзінай абаронаю ў цяжкіх хвалях жыцця, і каб трываць у ім, трэба не забываць каталіцкую веру, ісці па жыцці пад яе штандарам і цурацца спрэчак, якія робяць людзей ворагамі. Між тым, знешні выгляд пачэснага слугі Касцёла напомніў многім вернікам некаторыя рысы папы Пія IX. Дастаткова пачуць некалькі словаў, прамоўленых Яго Эксцэленцыяй, каб адчуць мудрасць дастойнага слугі Касцёла. Такімі, прынамсі, і павінны быць адносіны біскупа да сваёй аўчарні. Яго Эксцэленцыя ўважлівы да ўсіх дзяцей Касцёла і, наколькі можа, апякуецца імі.

У канцы трэба адзначыць, што да здзяйснення такой візітацыі і набажэнства прыклаў шмат стараннасці і апекі Альгерд Багдашэўскі. Ён не пакладае рук у працы па ўпрыгожванні касцёла і заўсёды ўзорна ўтрымлівае святыню. Такога густоўнага дэкору, які ўпрыгожвае маленькі філіяльны касцёл у Вязыні, не ўбачыш у іншых парафіях.

А чацвёртай гадзіне па палудні ў гасцінным палацы апекуноў вязыньскага касцёла адбыўся абед, на які былі запрошаны больш за 50 асобаў з ваколіцаў і з самога Мінска. Гаспадар, ужо ў сталым узросце, Альгерд Багдашэўскі некалькімі словамі падкрэсліў вялікае значэнне візітацыі пастыра для ўсіх прысутных і ўзнёс тост за Яго Эксцэленцыю. У адказ пастыр прамовіў некалькі сардэчных словаў, якія госці выслухалі стоячы. Пасля прамовы біскуп падняў тост за здароўе годнага ўладара Вязыні. Пасля некалькіх тостаў Яго Эксцэленцыя пачаў збірацца ў дарогу, бо павінен быў ехаць далей на візітацыі ў Навасёлкі да пана Язафата Здзяхоўскага. Госці таксама выйшлі з палаца.

Апошняе благаслаўленне, апошні здымак на памяць усіх разам з Яго Эксцэленцыяй і гаспадаром маёнтка — і дзень 15 чэрвеня 1910 года перайшоў у наймілейшыя ўспаміны і для ўдзельнікаў урачыстасці, і для ўладара Вязыні. Вельмі паспрыяла святу і надвор'е, дзякуючы якому набажэнства і сакрамэнт бежмавання прайшлі на вольным паветры ў шляхетным старым парку Вязыні, які злучыў пад сваімі шатамі палац і касцёл».

...На вялікі жаль, ад неагатычнага касцёла цяпер застаўся толькі невялікі пагорак каля скрыжавання шашы Брэст–Масква і невялікай дарогі на Павелкава. Як выглядаў касцёл, можна ўбачыць толькі на старым здымку вядомага беларускага фотамайстра 1910-х гадоў Яна Балзукевіча. Іншы раз углядаюся ў сепію старога здымка, і хлопчык у саламяным брылі, які стаіць за павозкаю, мне здаецца маім дзедам Юзікам...

Касцёл, як і сам палац Багдашэўскіх, разрабавалі адразу пасля рэвалюцыі. Маёнтак прыстасавалі пад цэнтр Фаніпаль-Вязыньскага нацыянальнага польскага сельсавета. Руйнавалі святыню ўжо пасля вайны — павольна, расцягваючы на гады, нібы здзекаваліся з веры сваіх продкаў. На маленькай вежачцы на фасадзе касцёла яшчэ доўга жылі буслы, змайстраваўшы сабе ўтульную буслянку. Даканалі касцёл у 1958 годзе: на яго месцы была толькі купка друзу з цэглы і жвіру. Цэглу мясцовыя жыхары парасцягалі на свае мэты, збудаваўшы загончыкі для свіней. Над пагоркам-магілаю касцёла ў 1960-я гады яшчэ заставалася металічная агароджа лесвіцы ў сутарэнні касцёла, засыпаная жвірам. Мая бабуля апавядала, што пры знішчэнні касцёла асабліва вылучылася камсамолка-актывістка са Старога Фаніпаля. Пасля ганебнай працы яе раптам спаралізавала — так яна і памерла, не падымаючыся з ложка больш за 25 гадоў.

Усё, што было звязана са шляхетным прыгожым месцам, знішчана. Нават векавых дрэваў не засталося, толькі старая камяніца плябаніі сумна адлічвае свае гады ў адлюстраванні зарослай сажалкі. Шурпатыя цаглінкі былога жытла памятаюць і святара, і знішчаны касцёл Святой Тройцы, і чорныя гранітныя пліты з польскім надпісам BOGDASZEWSKI, пахаваныя пад алімпійскай шашой, і стогадовы драўляны «шасцярык», які знік ужо на пачатку XXI стагоддзя. У чыстую плынь рэчкі Вязынкі ўбілі керамічныя меліярацыйныя трубы,ператварыўшы яе ў невялікі раўчук.

...Толькі памяць непрыкметным воблакам успамінаў лунае над былым маёнткам Вязынь...

Святлана Адамовіч

# Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы ў Лошыцы



Лошыца, сядзіба Прушынскіх. Мал. Ю. Пешкі, пач. XIX ст.

Капліца Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы амаль на працягу двух стагоддзяў уваходзіла ў комплекс Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу, які быў створаны на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска ў XVIII — пач. XIX стагоддзя. Капліца з'яўляецца адной з самых ранніх сядзібных пабудоваў; у наш час, на жаль, яна знаходзіцца ў стане руінаў.

Пра існаванне ў Лошыцы драўлянай уніяцкай царквы вядома з XVII ст. (у той час маёнткам валодалі Друцкія-Горскія[1]): яна згадваецца ў шэрагу дакументаў XVII–XVIII стст., але дакладнае месцазнаходжанне святыні вызначыць амаль немагчыма. Прыкладна ў пачатку XVIII ст. царква была зачынена (магчыма, згарэла). На аснове візітных апісанняў за 1714, 1765 і 1766 гг. каралішчавіцкай уніяцкай царквы, да якой былі прыпісаныя парафіяне прылеглых вёсак — Мацэвічаў, Сініло і Лошыцы — можна сцвярджаць, што ў гэтыя гады культавых пабудоваў у Лошыцы не існавала.

У спісах парафіянаў уніяцкай царквы ў Каралішчавічах за 1784 г. жыхары Лошыцы не згадваюцца, і гэта сведчыць пра тое, што ў Лошыцы ўжо зноў была пабудавана свая святыня.

Першы вядомы нам інвентар лошыцкага маёнтка і каменнай царквы, якая знаходзілася на яго тэрыторыі, датаваны 1772 годам[2]. Згодна з апісаннем, ва ўказаны перыяд Лошыца належала Юзафу Прушынскаму, падкаморыю Мінскага ваяводства, кавалеру ордэна св. Станіслава[3]. У інвентары ёсць апісанне царквы: «Сама новая царква — каменная, з драўляным бабінцам, гонтаю крытая, з купалам пасярэдзіне, на якім крыж усталяваны; на бабінцы па вуглах таксама два крыжы жалезныя стаяць. Дзвярэй у царкву двое, адны насупраць другіх, на завесах, з засаўкамі, трэція размешчаныя збоку, таксама на завесах, з ланцужком... і замком вісячым; званоў вялікіх — два... Увайшоўшы ў царкву — насупраць алтар, перад ім прыступка з балясінамі, пафарбаваныя ў чорны колер. <...> Вялікі алтар сталярнай працы, пафарбаваны ў чорны колер, у ім — абраз Святой Тройцы. <...> Другі алтар разьбяны, пафарбаваны ў чорны колер і мастацкім золатам упрыгожаны, у ім — абраз Найсвяцейшай Панны Марыі на ліставой блясе. На ім дзве срэбныя кароны, аправа таксама срэбная. <...> Трэці алтар св. Мікалая з прыступкаю, пафарбаванаю ў белы колер <...> Абраз пераносны — з аднаго боку Найсвяцейшай Маці Божай Чанстахоўскай, з другога — святых Пятра і Паўла...»[4].

Даволі падрабязнае апісанне трох алтароў і рухомай маёмасці сведчыць пра тое, што царква была забяспечаная ўсім неабходным для богаслужэнняў.

На падставе дадзенай інфармацыі нельга сцвярджаць, што гутарка ідзе пра святыню, руіны якой у наш час існуюць на тэрыторыі былой сядзібы. Няма таксама дакладных сведчанняў пра яе рэлігійную прыналежнасць. Вядома, што сярод прадстаўнікоў роду Прушынскіх былі лю-

дзі праваслаўнага, уніяцкага і каталіцкага веравызнанняў. Аднак сям'я Ежы Антонія Прушынскага (бацькі Юзафа Прушынскага) вылучалася дбайнымі адносінамі менавіта да Рыма-каталіцкага Касцёла; яго сыны сталі манахамі і трое з іх «закончылі жыццё ў гэтым стане»[5]. Зыходзячы з вышэйсказанага можна меркаваць, што не пазней за 1770–1771 гг. (у інвентары 1772 г. адзначаецца, што царква[6] «пабудаваная нядаўна») Юзаф Прушынскі пабудаваў у сваім маёнтку каталіцкую святыню, пры якой яго сын Станіслаў Прушынскі ў 1780-я гады заснаваў алтарыю.

У Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы захоўваецца інвентар 1781 г., у якім пацвярджаецца сказанае вышэй. У дакуменце апісваюцца прадметы, што знаходзіліся ў святыні, — срэбныя, пазалочаныя і медныя прылады, метрычныя кнігі хросту, шлюбаў і пахаванняў (гэта пацвярджае факт, што касцёл з самага пачатку з'яўляўся парафіяльным), а таксама атрыбуты, прызначаныя для правядзення працэсій. У інвентары таксама апісваецца тэрыторыя, якая належала царкве па фундушавым запісе, і «рэзідэнцыя», што складалася з белай хаты з каморою і пякарняю, свірна, хлява, гумна і навеса. На момант візітацыі пробашчам у святыні быў Міхал Басюкевіч, прызначаны Юзафам Прушынскім, падстаростам мінскім, 23 верасня 1769 года і зацверджаны ў пасадзе мітрапалітам кс. Валадкевічам 27 чэрвеня 1770 года. З дакумента вынікае, што парафіяльны рыма-каталіцкі касцёл у Лошыцы быў пабудаваны ў 1769 г. па ініцыятыве і на сродкі Юзафа Прушынскага і тады ж кансэкраваны пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Паводле тэстамэнту Юзафа Прушынскага Лошыца ў 1779 г. стала ўласнасцю Станіслава Ксавэрыя Прушынскага. У



План-схема лошыцкага маёнтка (выкананая паводле «Дарожнай карты...» XVIII ст.).

«Актавых кнігах» Мінскага земскага суда знойдзена выпіска «Пра фундуш на Лошыцкую алтарыю, дадзены 29 лістапада 1787 г. генерал-ад'ютантам Польскіх войскаў Станіславам Ксавэрыем Прушынскім, падстаростам суда Мінскага ваяводства, у Віленскім земскім судзе зацверджанага 30 дня таго ж месяца і года. У ім гаворыцца: «...На касцёл і алтарыю ў маёнтку маім спадчынным Лошыца, што знаходзіцца ў павеце Мінскім, прызначаю 10 000 польскіх злотых на вечныя часы з выплатаю 7 % ад 100 на ўтрыманне алтарыі... Таксама аддаю ў дар жылы дом, які будзе пабудаваны для алтарыста[7], і пры ім сад памерам 1 морг»[8]. Акрамя сродкаў на ўтрыманне алтарыі, фундушам прадугледжвалася годнае забеспячэнне пабудаванага раней у маёнтку касцёла, кансэкраванага пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы. У фундушавым запісе Станіслаў Прушынскі адзначаў таксама, што каралішчавіцкі пробашч абавязаны быў наведваць хворых, прыпісаных да касцёла ў Лошыцы, праводзіць памерлых, хрысціць дзяцей і цэлебраваць урачыстыя набажэнствы...

Паколькі звестак пра адначасовае існаванне ў лошыцкім маёнтку і вёсцы каменнай царквы і каменнага касцёла няма ні ў адным з вядомых нам дакументаў канца XVIII — пач. XIX ст., лагічна меркаваць, што «касцёл», пра які ідзе гутарка ў фундушавым запісе, і «царква», апісанне якое ёсць у інвентарах 1772 і 1781 гг., — гэта адзін і той жа будынак. У «Акце фундацыі», пацверджаным у Мінскім земскім судзе 15 лістапада 1788 г., таксама сказана: «Лошыцкая алтарыя... новазаснаваная пры пабудаваным каменным касцёле ў тых жа ўладаннях маіх Лошыца пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы...»[9]. Як бачым, перад заснаваннем алтарыі С. Прушынскі не толькі забяспечыў усім неабходным лошыцкі касцёл, які ўжо існаваў пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

У інвентары Лошыцы, які быў складзены ў 1789 г. у сувязі з продажам Станіславам Прушынскім маёнтка свайму брату Антонію Прушынскаму, мінскаму падкаморыю, кавалеру ордэна св. Станіслава, ёсць кароткае апісанне лошыцкай алтарыі: «Касцёлік васьмівугольны, каменны, гонтаю крыты. Столь з дошак. На франтоне вісіць адзін звон. Гэты касцёл мае сваю асобную тэрыторыю за брамаю пры Мінскім гасцінцы...»[10].

Апісаныя ў дакументах XVIII ст. факты ілюструе «Дарожная карта», датаваная 1797 годам, на якой ёсць абазначэнне месца размяшчэння капліцы (карта захоўваецца ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва, выяўлена Р. Баравым)[11].

Тэрытарыяльна лошыцкі касцёл знаходзіўся ў Мінскім павеце Мінскай губерні, але быў прыпісаны да каралішчавіцкага касцёла Ігуменскага дэканата.

У 1796 г. была зроблена інвентарызацыя ўсіх касцёлаў і капліцаў Ігуменскага дэканата: у адным з дакументаў адзначаецца, што «лошыцкая капліца яшчэ не візітавалася», але ў той

жа час паведамляецца, што ў ёй «алтарыстам служыць былы базыліянін <...> кс. Чахоўскі, што жыве пры каралішчавіцкай плябаніі і кожную нядзелю і ў святы ездзіць у лошыцкі двор, ажыццяўляе малебны і духоўнае навучанне, а ў іншыя дні дапамагае кс. пробашчу каралішчавіцкаму і робіць гэта належным чынам...»[12]. У апісанні лошыцкага касцёла, складзеным у тым жа годзе, паведамляецца: «Ксяндза няма, таму што на невялікі аклад ніхто не згаджаецца... Дакументы касцёла захоўваюцца пры каралішчавіцкім касцёле... У 1789 г. ксяндзом пры каралішчавіцкім і лошыцкім касцёлах служыў Антоній Жукоўскі, пераведзены туды з Віленскай губерні»[13].

На жаль, жылы «дом для алтарыста», пра неабходнасць пабудовы якога гаварылася ў фундушавым дакуменце, нават да пачатку XIX ст. так і не быў пабудаваны. Ксёндз у Лошыцы пастаянна не знаходзіўся, але «службу вёў рэгулярна», прыязджаючы з Каралішчавічаў, дзе ў 1785 г. — таксама на сродкі Станіслава Прушынскага — быў пабудаваны каменны касцёл.

У аддзеле мастацтва Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка захоўваецца акварэль мастака Ю. Пешкі, падпісаная так: «Лошыца, сядзіба Прушынскіх за паўмілі ад Мінска». На акварэлі, выкананай у пачатку XIX ст., мы бачым сядзібныя будынкі, гаспадарчыя пабудовы, карчму і млын. На другім плане — невялікі касцёл, размешчаны паблізу става: мы бачым цэнтрычнае ў плане збудаванне, накрытае шатровым дахам са шлемападобным купалам, які ўкараноўвае барабан. Матэрыял сценаў і пакрыцця вызначыць цяжка, але з інвентарных апісанняў вядома, што каменны касцёл быў накрыты гонтаю.

Адзін з нешматлікіх падрабязных інвентароў лошыцкага касцёла датаваны 1818 г., таму варта падаць значны фрагмент гэтага дакумента: «...Унутры касцёла сцены пашкоджаныя, па ўсім перыметры ад працякання амаль усе падгнілыя. Столь без скляпенняў, з дошак, падлога цагляная. Алтар толькі адзін на сцяне аптычным жывапісам намаляваны, у ім невялікі знаходзіцца абраз Найсвяцейшай Панны Марыі ў драўлянай раме. Вакол гэтага абраза ёсць чатыры таблічкі, або воты, невядома з якога металу. Менса каменная, ад сцяны аддзеленая для абходу, абрусам накрытая, на ёй знаходзіцца драўляны цыбор''ый пафарбаваны. Збоку ёсць адна драўляная лаўка і драўляны канфесіянал. Касцёл без агароджы. Патрабуе значнай рэстаўрацыі...»[14]. Сярод рухомых рэчаў святыні ў інвентары пералічваюцца шэсць цынкавых вялікіх свяцільняў і дзве малыя, два крыжы — адзін «малы на табэрнакулюме» і адзін малы ў алтары, арнаты, старыя абрусы... У 1818 г. алтарыстам у касцёле служыў Войцех Знамяроўскі, доктар тэалогіі, канонік і пробашч каралішчавіцкі. Святая Імша адбывалася па суботах, нядзелях і святах; галоўнымі святамі лошыцкага касцёла былі дзень святога Станіслава, святых апосталаў Пятра і Паўла, Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі[15].

У справе «Аб закрыцці рыма-каталіцкіх капліцаў і філій» за 1839 г. ёсць ведамасць, складзеная Мінскім біскупам кс. Ліпскім з пералікам касцёлаў і капліцаў, якія мусілі быць зачыненыя. Сярод іх згадваецца і лошыцкая капліца. З-за абвастрэння сацыяльна-палітычных абставінаў функцыі многіх парафіяльных касцёлаў, улічваючы і тыя, якія знаходзіліся на тэрыторыях памешчыцкіх маёнткаў, былі забароненыя або значна абмежаваныя, богаслужэнні дазваляліся толькі для членаў сямей... Аднак дакументы сведчаць, што ў тыя гады касцёл у Лошыцы не быў зачынены і больш за тры дзесяцігоддзі заставаўся не толькі родавай, але і парафіяльнай святыняю, якая па-ранейшаму была прыпісаная да каралішчавіцкага касцёла Ігуменскага павета.

У рукапісных крыніцах да сярэдзіны XIX ст. будынак называўся касцёлам, але пазней складальнікі інвентарных апісанняў і іншых дакументаў сталі называць лошыцкі касцёл «капліцаю», што, зрэшты, не супярэчыць яго першапачатковаму прызначэнню.

Візітатар кляштараў Мінскай дыяцэзіі кс. Барталамей Юзаф Вішнёўскі пісаў: «...Як і сам рыма-каталіцкі касцёл (у Каралішчавічах), так і капліцы ў Лошыцы і ў Пашкевічах цалкам перароблены ў 1860–1861 гг.»[16]. На жаль, у архіўных калекцыях ніякіх дакументаў, звязаных з перабудоваю лошыцкай капліцы ў пачатку 1860-х гг., знайсці не ўдалося. Справа ў тым, што згодна з тагачасным заканапалажэннем уладальнік сядзібы не павінен быў узгадняць з дзяржаўнымі ўстановамі праектную дакументацыю на будаўніцтва або рамонт памяшканняў, якія знаходзіліся ў яго ўласнасці. Несумненна, усе гэтыя матэрыялы захоўваліся ў асабістым архіве Яўстафія Прушынскага (апошняга ўладальніка Лошыцы з роду Прушынскіх; пасля яго смерці маёнтак «па жаночай лініі» перайшоў да сына яго роднай сястры Станіславы — Яна Любаньскага), але пасля 1917 г. сляды сямейнага архіва Прушынскіх-Любаньскіх губляюцца, і сёння яго месцазнаходжанне невядомае.

Ёсць інфармацыя, што ў 1878 г. пробашчам каралішчавіцкага касцёла быў прызначаны кс. Вайноўскі, які зрэдку прыязджаў у лошыцкі маёнтак і праводзіў там богаслужэнні[17], але, верагодней за ўсё, прафіяльнаю капліцаю лошыцкая святыня ў згаданыя гады ўжо не была.

У артыкуле пра Лошыцу, апублікаваным у «Польскім геа-



Капліца ў Лошыцы, пач. XX ст.

графічным слоўніку» ў 1884 г., згадваецца «прыгожая капліца фундацыі Прушынскіх, узведзеная з каменю, у якой ужо *шмат гадоў* не праводзіцца богаслужэнне...»[18].

У канцы XIX – пачатку XX ст. былі праведзеныя працы па добраўпарадкаванні парку, рэканструкцыі сядзібных пабудоваў і будаўніцтве новых памяшканняў. Увесь комплекс быў абнесены новаю агароджаю з каванымі рашоткамі і брамаю. Можна меркаваць, што ў гэтыя гады малебны ў капліцы адбываліся толькі для членаў роду і іх блізкіх. Капліца ў Лошыцы з'яўлялася таксама сямейнаю пахавальняю. Пацвярджэнне гэтаму знаходзім у кнізе ўспамінаў Антонія Кяневіча, родная сястра якога Ядвіга (Ізя) была замужам за Яўстафіем Любанскім (фактычна перадапошнім уладальнікам лошыцкай сядзібы). На жаль, з імем Ізі Любаньскай звязаныя трагічныя падзеі, якія адбыліся ў Лошыцы ў чэрвені 1905 г.: яна скончыла жыццё самагубствам, кінуўшыся ў сажалку. Пра прычыны гэтай драмы доўга пляткарылі ў арыстакратычных колах губерні... А. Кяневіч у сваіх мемуарах згадаў пра малебен і пахаванне, якія адбыліся «ў малой капліцы пры ўязной браме»: «Там, у склепе каплічкі, былі змешчаны на вечны супакой парэшткі прыгожай, усім сэрцам любімай, але нешчаслівай сястры маёй»[19].

Як выглядала капліца ў гэты час, можна ўбачыць на фотаздымку, зробленым Балзукевічам не пазней за 1914 год. Выгляд будынка крыху адрозніваецца ад выявы, вядомай паводле акварэлі Ю. Пешкі, але розніца не вельмі значная і датычыцца ў асноўным даху — яго вышыні, формы, матэрыялу пакрыцця, малюнка франтонаў.

Новы этап у гісторыі Лошыцы пачаўся пасля рэвалюцыйных падзеяў 1917 г.: тады былы памешчыцкі маёнтак быў пераўтвораны ў адзін з найбуйнейшых навукова-даследчых цэнтраў Беларусі[20]. 1 верасня 1920 г. маёнтак быў перададзены ў распараджэнне Мінскай універсітэцкай камісіі для Агранамічнага дзяржаўнага ўніверсітэта[21], а затым уласнікам Лошыцы стаў Беларускі інстытут сельскай гаспадаркі.

Ёсць звесткі, што лошыцкую капліцу пачалі разбураць яшчэ ў канцы дваццатых гадоў: яе першапачатковае культавае прызначэнне супярэчыла савецкай ідэалогіі. Сцвярджаецца, што было нават прынята рашэнне пра знос капліцы, але «пасля няўдала закладзенай узрыўчаткі будынак толькі страціў купальны дах. Наспех накрыўшы пашкоджаную забудову, новыя ўладальнікі зрабілі ў ёй склад сельскагаспадарчага інвентара». Калі гэта і адбылося, то не раней за канец 30-х гадоў XX ст., таму што на фотаздымку, зробленым у сярэдзіне 1930-х гг. і ласкава дадзеным нам Аленай Васілеўнай Сямашка (дачкою агранома Васіля Сямашкі, які шмат гадоў працаваў у Лошыцы і жыў з сям'ёй на тэрыторыі былога маёнтка), бачны абсалютна не пашкоджаны будынак капліцы.

Як піша Н. М. Новікава, паводле аповедаў старажылаў, цела жонкі аднаго з апошніх уладальнікаў Лошыцы, Ядвігі Любаньскай, спачывала ў капліцы ў свінцовай труне, накрытай празрыстым векам і падвешанай на ланцугах. «Калі Лошыцкай МТС спатрэбіўся свінец для акумулятараў, капліцу спустошылі, косці выкінулі, труну выкарысталі для гаспадарчых патрэбаў. Заадно паздымалі крыжы і разабралі купал, каб аслабіць культавы характар пабудовы. Зраўнялі з зямлёю магілкі, якія былі вакол капліцы...»[22]. Пра магілкі ў дакументах ніякіх звестак няма, але, несумненна, на пагосце маглі знаходзіцца асобныя пахаванні членаў роду і святароў, якія служылі ў лошыцкай капліцы.

Падчас Другой сусветнай вайны ў Лошыцы размяшчаўся нямецкі гарнізон і ў будынку былой капліцы немцы захоўвалі зброю. Па сведчанні А. В. Сямашкі, якая ў тыя гады жыла разам з бацькамі на тэрыторыі лошыцкай сядзібы, у апошнія дні чэрвеня 1944 г. немцы, адступаючы, узарвалі капліцу разам з боепрыпасамі, якія ў ёй захоўваліся. Цяпер можна ўбачыць толькі яе руіны...

Можна ўпэўнена сцвярджаць,

што ініцыятарам будаўніцтва ў Лошыцы каменнага касцёла, кансэкраванага пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, быў Юзаф Прушынскі. Архітэктурна-стылістычныя характарыстыкі вонкавага выгляду святыні, сведчанні пра месца яе знаходжання і іншыя звесткі, запісаныя ў першых вядомых нам інвентарах 1769 і 1772 гг., дазваляюць датаваць будаўніцтва лошыцкага касцёла 1769 годам. Пасля пабудовы святыні жыхары маёнтка і вёскі, якія раней з'яўляліся парафіянамі ўніяцкай царквы ў Каралішчавічах, цэлымі сем'ямі пачалі пераходзіць у каталіцтва.

Станіслаў Ксавэрый Прушынскі, сын Юзафа, які стаў уладальнікам Лошыцы ў 1779 г., правёў там шэраг будаўнічых работ, у тым ліку працы па рамонце і ўпрыгожанні святыні. Атрымаўшы дазвол ад Віленскага біскупа, у 1787 г. ён заснаваў пры касцёле алтарыю.

Капліца была адной з найстарэйшых забудоваў лошыцкага комплексу. Нягледзячы на сціплыя памеры, дзякуючы архітэктурнаму ўбранню і дакладна выверанным прапорцыям будынак капліцы выглядаў даволі манументальна.

У 1980-я гг. лошыцкая сядзіба, у тым ліку і капліца, была ўключаная ў «Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і ўнесеная ў Дзяржаўны спіс помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння. Менавіта ў гэты перыяд пачаліся практычныя працы па даследаванні і рэстаўрацыі гэтага архітэктурнага помніка, але касцёльнага будынка яны да нядаўняга часу не датычыліся.

У сярэдзіне 1990-х гг. па ініцыятыве пробашча мінскага касцёла святых Сымона і Алены кс. Уладзіслава Завальнюка былі праведзеныя даследаванні руінаў капліцы. Архітэктар А. Малахоўскі выканаў праект яе рэстаўрацыі, але адсутнасць сродкаў і негатыўнае стаўленне гарадскіх уладаў да адраджэння лошыцкага касцёла ў яго першапачатковым статусе не дазволілі рэалізаваць праект у тыя гады.



Выгляд сядзібы з боку дарогі (былы Ігуменскі тракт), 1930-я гг.

Некалькі гадоў назад спецыялісты ААТ «Праектрэстаўрацыя» (навуковы кіраўнік Г. Левіна, аўтар праекта У. Старасцін, мастацтвазнаўца С. Адамовіч) распрацавалі праект кансервацыі руінаў лошыцкай капліцы. Аднак было б мэтазгодна разгледзець пытанне пра поўную рэстаўрацыю будынка капліцы з далейшай перадачай яго ў распараджэнне Касцёла. Гістарычныя звесткі і фотаздымкі капліцы з вынікамі натурных, хімічных і іншых даследаванняў дазваляюць аднавіць яе аблічча на канец XVIII ст. Гэта значна павысіла б гістарычную, культурную і эстэтычную каштоўнасць Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу XVIII–XX стст. і ўзбагаціла б яго тэрыторыю адной з самых ранніх і цудоўных пабудоваў — капліцаю Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы.

[1] НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 42042.
[2] НГАБ, ф. 1769, воп. 1, спр. 6, арк. 389–394.
[3] НГАБ, ф. 1769, воп. 1, спр. 6, арк. 389.
[4] НГАБ, ф. 1769, воп. 1, спр. 6, арк. 393–394.
[5] Новикова, Н. М. К вопросу об истории Лошицы и её владельцах (XVI–XX вв.) // Навукова-даследчая праца. — Мінск, 1997. — Вып. 2. — С. 41.
[6] Тэрмін «царква» ў дакументах тых часоў часта прымяняецца як пры апісанні праваслаўных, уніяцкіх, так і каталіцкіх святыняў. Згаданыя ў дакуменце назвы алтароў — Святой Тройцы, Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Мікалая — характэрныя для любой святыні, але інфармацыя пра пераносны абраз Маці Божай Чанстахоўскай больш указвае на рыма-каталіцкую прыналежнасць апісанай святыні.
[7] Алтарыст (святар) — чалавек, у абавязкі якога ўваходзіць абслугоўванне алтара (алтарыі) згодна з дадзеным фундушам (гл. «Podręczna encyklopedia kościelna». — Т. 1. — Warszawa, 1904. — S. 148.
[8] НГАБ, ф. 179, воп. 1, спр. 181, арк. 81.
[9] НГАБ, ф. 1769, воп. 1, спр. 19, арк. 489.
[10] НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 29, арк. 426.
[11] ЦГВИА, г. Москва, ф. ВУА 25246, л. 1.
[12] НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 244, арк. 34 адв.
[13] НГАБ, ф. 1781, воп. 27, д. 240, арк. 28 адв.
[14] НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 328, арк. 41 адв.
[15] Тамсама, арк. 42–43.
[16] НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 476, арк. 37 адв.
[17] НГАБ, ф. 1781,воп. 24, спр. 15896, арк. 5.
[18] Słownik Geograficzny… — Warszawa, 1884. — T. 5. — S. 740.
[19] Kieniewicz, A. Nad Prypecią dawno temu… — Warszawa, 1989. — S. 293.
[20] ДАМВ, ф. 188, воп. 1, спр. 12, арк. 494.
[21] НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 447, арк. 13.
[22] Новикова, Н. М. Формирование Лошицкой усадьбы на фоне историко-бытовой перспективы // Навукова-даследчая праца. — Мінск, 2001. — Вып. 3. — С. 55.



Святлана Радкевіч

# Шляхамі паўстанцаў 1863 года

Мілавідаўскі пленэр задумваўся яшчэ на пачатку вясны, падчас сакавіцкай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай паўстанню 1863 года і Кастусю Каліноўскаму. Яе ладзілі гісторыкі на чале з Анатолем Тарасам. Мастакі вырашылі таксама спрычыніцца сваёй творчасцю да памятных падзеяў. Выстава ў Інбелкульце была сабрана ў асноўным з твораў, намаляваных раней, і таму сёлетняя 150-гадовая дата натхняла на новыя працы.

...У апошні дзень траўня сем мастакоў энтузіястаў імчалі на трох самаходах па Брэсцкай шашы ў бок Мілавідаў. За шклом мільгалі мілыя сэрцу беларускія краявіды: стромкія ствалы белых бярозаў і чырванавата-тэракотавых соснаў, квітнеючыя лугі і жоўтае мора рапсавых палёў, паўнаводны пасля позняй вясны Нёман... Гадзіны праз тры мы ўжо спыніліся ля Белай капліцы, што ўрачыстасумна стаіць узбоч старажытнай Слонімска-Слуцкай дарогі, непадалёк ад вёскі Каўпакі. Мемарыяльная капліца была пастаўленая ўдзячным польскім народам яшчэ ў міжваенны час (1930–1933 гг.), побач — памятны камень ад шчырых беларусаў, а насупраць, праз шашу, — крыж-помнік палеглым праціўнікам. Увесь мілавідаўскі комплекс з'яўляецца добрым прыкладам па-хрысціянску ўшанаваных ахвяраў паўстання...

Менавіта тут, пад Мілавідамі, у былым Слонімскім павеце, 22 траўня (3 чэрвеня) адбыўся самы вялікі і жорсткі бой паміж царскімі войскамі і паўстанцамі. Тут, у лясным лагеры «Смалярня», злучыліся пяць паўстанцкіх атрадаў: Слонімскі, Ваўкавыскі, Наваградскі, Пружанскі і Гродзенскі — усяго больш за 800 чалавек. Узначальваў аб'яднаныя атрады адстаўны палкоўнік Аляксандр Лянкевіч, а 21 траўня штаб у Смалярні наведаў сам Кастусь Каліноўскі. Для разгрому паўстанцаў з Нясвіжа і Слоніма былі накіраваныя царскія войскі пад камандаваннем палкоўніка Булгарына. Бой доўжыўся некалькі гадзінаў. Загінула і было паранена каля 50 чалавек, і пахаваны яны тут у дзвюх магілах, асобна.

...Пакланіўшыся паўстанцам, мы прайшлі ў бок Смалярні — так і цяпер называецца той лес, дзе мясціўся паўстанцкі лагер (калісьці ў ім здабывалі смалужывіцу, і назва гэтай мясціны захавалася да нашых дзён). Агледзеўшы навакольныя краявіды, мастакі знайшлі прыгожую паляну для адпачынку і абеду. З захаду хутка насоўвалася навальнічная хмара. Маланка бліскала ўжо за лесам, і мы паспяшаліся ў Мілавіды, дзе нас чакалі ў школьным музеі. Але ў вёсках і мястэчках, аддаленых ад сталіцы, амаль заўсёды падчас навальніцы адключаецца электрычнасць. І тут была страшэнная бура — вецер валіў дрэвы, рваў драты, галіны падалі на шашу і на машыны...

Музейную экспазіцыю давялося аглядаць у цемры, трохі асвятляючы мабільнымі тэлефонамі экспанаты, пра якія мастакам расказвала дырэктарка школы — Марыя Хведараўна.

---

**Святлана Радкевіч** — мастацтвазнаўца. Нарадзілася на хутары Вяршаліна каля вёскі Вялікая Валахва Баранавіцкага раёна. Скончыла мастацкую школу імя І. Ахрэмчыка (1982) і Беларускую акадэмію мастацтваў (2001). Даследуе творчасць беларускіх мастакоў і гісторыю роднага краю. Жыве ў Мінску.

На жаль, памаляваць увечары не ўдалося, — дождж не сціхаў, а неба было чорнае. Мне здавалася, што гэта тыя ліхія падзеі нагадваюць нам пра сябе, каб мы жылі і «памяталі як аб нашым горы, так і аб нашых ахвярах, нашых пакутніках...У тым наш святы абавязак перад гісторыяй, маральны абавязак перад наступнымі пакаленнямі» (Васіль Быкаў).

...Вырашылі кіравацца на Гнойнае, дзе мастакоў гасцінна прынялі на начлег. У двор Ганны мастакі заходзілі па калена ў вадзе. «Такога моцнага дажджу я на сваім вяку не памятаю», — быццам апраўдваючыся за непагадзь, сустракала нас гаспадыня...



Мастак Генадзь Драздоў на пленэры.

Але назаўтра першая летняя раніца ўжо сонечна ўсміхалася, нібы дазваляючы творцам плённа працаваць. Пасля сняданку мы зноў выехалі на Мілавідаўскае поле бою. Мастакі размясціліся навокал: Аляксей Марачкін выбраў для сваёй імправізацыіі Белую капліцу; Генадзь Драздоў аблюбаваў пустуючы хутар са студняю; на фоне лесу, пад вялікім мастакоўскім парасонам, віднелася стройная постаць Міколы Купавы; вядомы скульптар Алесь Шатэрнік, які апошнім часам пачаў плённа займацца жывапісам, зручна ўладкаваўся на сваім жа самаходзе, што служыў яму і мальбертам, і лаваю; Лявона Грышука і Георгія Скрыпнічэнку прывабіла Смалярня, і яны падаліся бліжэй да паўстанцкага лесу. Зачараваныя белымі парасончыкамі сныці, зарасці якой захапілі навакольную прастору лугоў і ўзлескаў уперамешку з ружова-чырвонымі плямамі смолкаў і скрыпеню, мастакі не заўважалі, як бег час. Я ж не толькі назірала за творчым працэсам, але і распачала невялікі акварэльны эцюд. Дзякуючы таму, што Пан Бог падараваў нам добрае надвор'е, мы натхнёна і чынна працавалі большую палову дня, астатак якога вырашылі павандраваць шляхамі паўстанцаў.

...З Мілавідаў рушылі на Быцень. На старым мосце праз Шчару, непадалёк вёскі Чамялы, зрабілі прыпынак — тут пераправуляліся гродзенскія атрады. Справа ад ракі, у бок Дабромысля, гуло птушыным рознагалоссем вялікае балота — Пагоня. Шчара, якая ад вытоку ўвесь час бегла на поўдзень, у гэтым месцы робіць круты паварот на паўночны захад, прымае прыток водаў Грыўды, утварыўшы на сутоцы прыгожыя завадзі-азёры. Круглае гладкае лісце жоўтых гарлачыкаў, пагойдваючыся, нібы кілім, засцілае паверхню вады. Зацвітаюць балотныя ірысы. Як жа не палюбавацца такім боскім хараством!

...За Быценню дарога вілася



Вянок да помніка паўстанцам ад беларускіх мастакоў .

ўскрайкам лесу пад назваю Літва, які Мікола Купава вельмі ўпадабаў і зафіксаваў на фота. Старажытны Слонім сустракаў нас суботнімі вяселлямі і звонам бажніцаў. Нечакана на адной са слонімскіх плошчаў на нас нацэліўся сваім дулам танк, а побач вітаў велічны былы касцёл і кляштар бэрнардынаў.

...Тут, на Слонімшчыне, быў сфарміраваны адзін з паўстанцкіх атрадаў пад камандаваннем ротмістра кавалерыі Францішка Юндзіла, які змагаўся ў сваім павеце за лепшую долю для сялянаў і прывёў свой атрад пад Мілавіды.

...Наведаўшы на слонімскім Замосці, на пляцы Льва Сапегі, касцёл св. Андрэя, наш мастацкі эскорт вырушыў да Ружанаў. У пушчы, якая мае таемную беларускую назву Цемра, нас зноў чакала навальніца. Цікава, як тады, 150 гадоў назад, лясныя змагары ратаваліся ад дажджоў і холаду, па некалькі месяцаў знаходзячыся ў пушчы? Нам жа давялося з паўгадзіны сядзець у самаходах на стаянцы перад палацам, чакаючы, каб хоць трохі суцішыўся дождж.


Каля мілавідаўскай капліцы.

...Урачыста і велічна выглядалі абрысы чырвоных муроў, асветленыя раптоўным сонечным промнем на фоне цёмнашэрага неба. Пасля фотасесіі на фоне «беларускага Рыму» мы ўгаварылі вартаўніка пусціць нас у залы адрэстаўраванай уязной брамы на выставу вучня Аляксея Марачкіна. З Ружанаў да Косава наш шлях пралягаў пад першым чэрвеньскім ліўнем. Агледзеўшы косаўскі палац і сядзібу Т. Касцюшкі, праз Івацэвічы вярнуліся ў Гнойнае (сучаснае Даманава) на начлег.

З-за неспрыяльнага надвор'я мілавідаўскі мастацкі пленэр набыў характар гістарычна-краязнаўчай пілігрымкі, што давала творцам шмат ідэяў і ўражанняў аб жыцці гэтага краю, натхняючы на стварэнне новых палотнаў ужо ў майстэрнях.

У нядзелю, 2 чэрвеня, у Мілавіды завіталі неабыякавыя да сваёй гісторыі людзі. Кароткімі выступленнямі і ўскладаннем вянкоў і кветак да мемарыяльных помнікаў яны годна ўшанавалі нашых незабыўных герояў. І гучалі ў прамовах, як заклік, словы Кастуся Каліноўскага: «...Толькі дзецюкі — смела, бо з намі Бог і Праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо Боска моц вялікая, а народу многа». Раптам з'явіліся машыны ДАІ з крыкамі: «Освободите дорогу!..» Зноў, як і 150 гадоў назад, на Мілавідаўскім полі бою сышліся «дзве сілы» — так у 2013 годзе працягваецца супрацьстаянне, бо паўстанне і постаць Каліноўскага яшчэ не да канца асэнсаваныя і зразумелыя сучасным беларусам, а таму гістарычныя даследаванні і мастацкае ўвасабленне тых гераічных падзеяў павінна паслужыць з'яднанню і ўмацаванню нацыі, як словы і вобразы Праўды, сказаныя з любоўю да Беларусі.

*Фота аўтара.*


На выставе, прысвечанай паўстанцам 1863 года.

# ДАНУТА ЛОПАТ — ЛЁС АРЫСТАКРАТКІ



Данута Лопат.

Данута Ганна Лопат нарадзілася ў 1919 годзе ў Нясвіжы. Бацькі яе (дробны шляхціц Стэфан Лопат і баранэса Марыя фон Фелькерзам) пазнаёміліся зусім як героі рамантычных гісторый. У гады Першай сусветнай вайны Стэфан, які атрымаў медыцынскую адукацыю, быў мабілізаваны доктарам у расійскую царскую армію. На вайне ён сустрэў сваё каханне. У палявым шпіталі, куды ён быў накіраваны, працавала сястрой міласэрнасці Марыя, дачка расійскага адмірала фон Фелькерзама. Дапамагаць параненым і хворым салдатам лічылася годным заняткам для дзяўчат з арыстакратычных сем'яў.

Маладыя людзі вырашылі пажаніцца, але, як у сапраўднай рамантычнай гісторыі, бацькі былі супраць іх шлюбу: для фон Фелькерзамаў, якія ўваходзілі ў вышэйшы свет Пецярбурга, саюз іх дачкі з невядомым вайсковым доктарам лічыўся мезальянсам.

Аднак лёс распарадзіўся па-свойму. Неўзабаве ў Расіі выбухнула рэвалюцыя і Фелькерзамы вымушаны былі ўцякаць з Санкт-Пецярбурга да сваякоў у Германію. А Стэфан і Марыя сталі мужам і жонкай і пераехалі жыць у Брэст, які ў той час апынуўся ў складзе Польшчы. Стэфан атрымаў ад бацькоў грошы і адкрыў уласную клініку.

У Марыі і Стэфана нарадзіліся тры дачкі. Данута была другім дзіцем. У 1918 годзе нарадзілася Ірына, а ў 1921-м — Ала. У 1924 годзе сям'ю напаткала вялікае няшчасце: у маленькай Алы выявілі страшнае захворванне — запаленне абалонак галаўнога мозгу. Дзяўчынку не змаглі выратаваць, і яна літаральна згарэла ад хваробы, пражыўшы ўсяго тры гады.

Сёстры Ірына і Данута выхоўваліся ў розных традыцыях. Ірына была любімай дачкой Марыі, у жылах якой цякла нямецкая кроў, і таму выхоўвалася ў нямецкім стылі. Данута была прывязана да бацькі і гадавалася Стэфанам і яго сваякамі ў польскіх традыцыях. Маці даволі халодна ставілася да малодшай дачкі, таму Стэфан Лопат, засмучаны яе абыякавасцю, вырашыў аддаць Дануту ў школу пры манастыры сясцёр назарэтанак у Варшаве, дзе дзяўчына правяла адзінаццаць гадоў свайго жыцця. У красавіку 1931 года сям'ю Лопатаў напаткала новая трагедыя: Стэфан, які ўсё жыццё прысвяціў лячэнню хворых, памёр з-за памылкі дактароў (прычынай смерці сталі ўскладненні пасля няўдала зробленай аперацыі). Пахавалі Стэфана на старых каталіцкіх могілках у вёсцы Дарава (Ляхавіцкі раён), недалёка ад маёнтка, дзе ён нарадзіўся. Яго смерць стала сапраўднай сямейнай трагедыяй і шокам для супрацоўнікаў яго клінікі. Пазней Данута Лопат прысвяціла яму шчымлівы аўтабіяграфічны верш на польскай мове:

*Цвінтару дараўскі,*
*хаваеш магілы нашых айцоў, сясцёр*
*і братоў, да цябе прыбылых,*
*ад свежых магілаў балюча мне стала.*
*Айцову магілу яны нагадалі.*

*Мой татачка любы, хоць зоркі і месяц*
*так ззяюць на небе, не бачу цябе я!*

*Уначы толькі снішся мне ціха, таемна.*
*Хоць няма тут цябе, адчуваю — ты побач.*
*Даўно ўжо знікла сям'і нашай кола,*

*няма ўжо мамы, сясцёр і цябе.*
*Так дрэнна мне, татачка, без цябе!*

*Бачу Брэст Літоўскі і бальніцу нашу,*
*старую Юльку кухарку і вулачку бачу,*
*якой мяне Юзаф у школу праводзіў штодня.*

*Цябе, ойча, бачу, як у белым халаце*
*ціха, бясшумна ходзіш па палатах,*
*чуваеш над чалавечым жыццём, што як свечка:*
*увечары свеціць ясна, а ранкам ужо гасне.*

*Дамоў хачу вярнуцца, да труны тваёй,*
*пасля сысці ціхутка ды зноў быць з табой.*


Марыя фон Фелькерзам.

Данута скончыла школу незадоўга перад Другой сусветнай вайной. Дзяўчына вырашыла стаць медсястрой. Першым месцам яе працы быў шпіталь у Харошчы. Калі Германія напала на Польшчу, а праз сямнаццаць дзён на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Украіны ўвайшлі часткі Чырвонай Арміі, Данута вырашыла збегчы ў Румынію, але за дваццаць кіламетраў ад мяжы была затрымана супрацоўнікамі НКУС. Некалькі месяцаў яна правяла ў турме ў Вінніцы, а ў чэрвені 1940 г. за спробу перасячэння мяжы была асуджана на пяць гадоў працоўных лагераў і адпраўлена ў Сібір. Пазней яна так успамінала аб судовым працэсе: «У канцы чэрвеня я была ўначы выклікана ў залу суда. Зала суда знаходзілася ў будынку турмы, дзесьці ў склепе, недалёка ад карцара. Я мела "шчасце" не раз наведаць карцар і нават некалькі разоў была "жыхаркай" гэтага памяшкання памерам метр на паўтара. У зале стаяў вялікі стол і некалькі крэслаў, знаходзілася там каля дваццаці мужчын у мундзірах. Старшынёй суда быў начальнік турмы. Маленькі, руды, несімпатычны чалавек. У суправаджэнні двух супрацоўнікаў НКУС я прадстала перад судом. "Ветлівыя" спадары сядзелі за сталом, а я разам з канваірамі стаяла. Зачыталі мне прысуд на падставе артыкула 254 (мусіць). Жаданне перайсці мяжу, хоць да мяжы было не менш дваццаці кіламетраў і некалькі гор. Я атрымала 5 гадоў сібірскіх лагераў. Расхваляваўшыся, я засмяялася. Высокі суд глядзіць са здзіўленнем на маю дзёрзкасць. Старшыня сказаў, што я магу напісаць Сталіну ліст з просьбай аб скарачэнні тэрміну. Я ўжо ведала эфекты падобных лістоў пасля шматмесячнага знаходжання ў Вінніцы і зноў засмяялася. Мусіць, гэта было мяжой нервовай узрушанасці! Мяне спыталі: "Чаму вы смеяцеся?". Я адказала, што не моцна засмучаная гэтым тэрмінам, таму што не адседжу яго да канца. Здзіўленне суда было яшчэ большым. Старшыня спытаў, чаму я не адседжу вызначанага тэрміну. Я адказала: "Таму, што неўзабаве Германія абвесціць вайну СССР". У зале запанавала цішыня. Потым яны загадалі праводзіць мяне ў карцар. Гэта быў апошні карцар у Вінніцы, нас ужо рыхтавалі да адпраўкі ў Сібір».


Стэфан Лопат.

Як вядома, пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз Сталін даў згоду на фарміраванне з былых


Данута Лопат разам з мужам Станіславам Касінам, 1943 г.

польскіх ваеннапалонных войска пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса. Даведаўшыся аб гэтым, Данута Лопат разам з дзвюма сяброўкамі, не маючы ежы і грошай, мінула дзясяткі кіламетраў, каб дасягнуць базы генерала Андэрса ў Бузулуку. Там яна адразу атрымала працу ў палявым шпіталі, куды прыбывалі былыя зняволеныя, змучаныя хваробамі. Данута Лопат прайшла з войскам генерала Андэрса ўвесь баявы шлях. У 1943 годзе ў Тэгеране яна выйшла замуж за хірурга Станіслава Касіну, таксама былога ваеннапалоннага. У наступным годзе Данута, ужо цяжарная, дзяжурыла пры цяжкім пацыенце, і ён выпадкова стукнуў яе ў жывот, з-за чаго дзіця памерла адразу пасля нараджэння.

Пасля заканчэння вайны Данута з мужам жыла ў Вялікабрытаніі. Многія салдаты з арміі Андэрса не жадалі тады вяртацца на Радзіму, баючыся палітычных рэпрэсій, аднак Данута вельмі хацела дадому і настаяла на вяртанні ў Польшчу. У пасляваенны час Данута Лопат-Касіна працавала медсястрой у варшаўскім шпіталі, выкладала ў школе для медсясцёр. У 1960 годзе яна пачала працу на студыі медыцынскіх фільмаў: пісала сцэнары, займалася рэжысурай. Яе аўтарству належаць два падручнікі для медсясцёр, якія асіcціруюць пры аперацыях. Памерла Данута Лопат у 2000 годзе, пахавана ў Варшаве.

## Данута Лопат

* * *

Дзе вы, кветкі палявыя?
Тыя, з наваградскай зямлі,
што, галовы схіліўшы, пад ногі ляглі,
калі я хадзіла ў ліпені рана
чабор, ружы й валошкі ў букеты збірала.

Ці спяваюць там птушкі: івалгі й салоўкі?
Ці хоркае дзік, дзяцел стукае зноўку?

Не чую шум ветру, не бачу таполяў,
што стаяць у задуменні, не ведаюць болю
быць далёка ад іх, ад магілаў родных,
сярод многіх іншых так моцна адрозных.

Не ведаю, ці вярнуся яшчэ на айчыну,
і цётка пакліча: «Любая дзяўчынка,
скажы, бо не бачу, што тут напісана?».
І Анэля запросіць супольна вячэраць,
з касцёла вясковага звон так старанна
малітву вячэрнюю зараз абвесціць.

Коні на вадапоі заіржуць вясёла,
Болек даў ім сена, так паўсюль наўкола.
Сабака сам забрэша на ворагаў далёкіх,
госць, што прыпазніўся, прыйдзе да парога.

Гэта мроі, прывідныя мары!
Тлумяць голаў маладую, чаму —
не растлумачыць.
Цётка не пакліча, бо ўжо ў магіле,
бабуля, Янак, Ганулька ўжо сюды не прыйдуць,
пра іх засталіся толькі ўспаміны,
там, у зямлі сібірскай, целы іх спачылі.

*Падрыхтаваў Дзмітрый Загацкі.*

*Успаміны Дануты Лопат аб знаходжанні ў турме ў Вінніцы, а таксама матэрыялы аб яе жыцці былі ласкава перададзены аўтару яе дачкой Марыяй Касіна.*

*Пераклад вершаў з польскай мовы Юліі Шэдзько.*

# Марцін Шангаўэр. ПАКЛАНЕННЕ ПАСТУХОЎ. НАРАДЖЭННЕ ЕЗУСА



З творчасцю Марціна Шангаўэра (к. 1435/40–1491) у нямецкім мастацтве заканчвалася эпоха готыкі і адкрываўся свет Рэнесанса. Ён першы ў шэрагу вялікіх мастакоў і графікаў Германіі Новага часу — усё пачыналася з яго. Слава мастака шырока распаўсюдзілася ў Еўропе — яго імя і творы, перш за ўсё гравюры, атрымалі папулярнасць у Італіі, дзе доўгі час мала ведалі нямецкае мастацтва.

Марцін Шангаўэр нарадзіўся ў Кольмары, на Верхнім Рэйне, у сям'і залатых спраў майстра, які перасяліўся з Аўгсбурга. Двое з яго братоў таксама сталі мастакамі: Паўлюс працягнуў бацькаву справу, а Людвіг стаў жывапісцам. Натуральна, што першыя веды па мастацтве юны Марцін атрымаў у майстэрні бацькі. Спецыялісты мяркуюць, што потым ён мог вучыцца жывапісу ў ананімнага Майстра Штаўфэнбергскага Алтара, а майстэрству гравюры на метале — у альзасца Лупрэхта Руста. У цэлым пра мастака засталося вельмі мала біяграфічных звестак. Ёсць пісьмовае сведчанне аб тым, што ён накіраваўся ў Нідэрланды і вучыўся ў знакамітага Рагіра ван дэр Вэйдэна. Шангаўэр (што было рэдкім у той час) зрабіў падарожжа па моры ў Іспанію. Каля 1460 года ён канчаткова асеў у родным Кольмары. Маляваў алтарныя карціны для касцёлаў і кляштараў у гарадах Германіі. Памёр, хутчэй за ўсё, падчас эпідэміі чумы ў Брайзаху або ў Кольмары.

Нямецкі мастацтвазнаўца Герт Зёдэр так вызначыў прычыны неўміручай славы Шангаўэра ў еўрапейскім мастацтве: «Гэтае захапленне ёсць выразам ўдалага спалучэння самых перадавых верхнерэйнскіх традыцый мастацтва і ўзорна ўспрынятага нідэрландскага жывапісу з самастойнай творчасцю, поўнай эмацыйнай пранікнёнасці і жывапіснай прыгажосці. Аднак яно таксама ўвасабляе пачатак вызвалення мастака з стану рамесніка і з-пад прыгнёту цэха»[1].

Невялічкая карціна (як кажуць музейшчыкі на сваім слэнгу, «карцінка») «Пакланенне пастухоў» належыць да спелага перыяду творчасці ўжо прызнанага мастака. Ён выканаў шэраг работ для ўпрыгожвання касцёлаў, валодаў тэхнікай фрэскі (на жаль, з яго спадчыны засталося мала, у тагачасных дакументах згадваецца значна больш яго твораў). Але, безумоўна, у маленькім па памеры творы ў Шангаўэра спрацоўваў даўні інстынкт спадчыннага залатых спраў майстра. У берлінскай карціне найбольш адчуваецца подых нідэрландскага жывапісу, якім ён натхняўся. Месца дзеі з цяжкасцю можна назваць інтэр'ерам. Фігурная кампазіцыя разгортваецца пад навесам, адкрытым у краявід з трох бакоў. Каля ніжняга краю карціны ў левым куце мастак паказаў няхітрыя рэчы ганімых падарожнікаў: два клункі ды крывы дарожны кій — вось уся маёмасць Святой Сям'і. Але самае каштоўнае — чырвоная тканіна з залатой вышыўкай – служыць першым прытулкам для Немаўляткі. Маленькае, здаецца, бездапаможнае цельца Езуса ляжыць на белай пялюшцы, якая разам з чырванню посцілкі стварае сімвалічную гаму чысціні і ахвяры. Але ручкі Дзіцяці складзены ў малітоўным жэсце, якім Ён адказвае на пакланенне людзей каля Яго.

Мадонна ўкленчыла над Езусам і моліцца. Цёмна-сіні колер Яе шатаў ламанымі гатычнымі складкамі залівае чырвань посцілкі халоднай плынню. Танюсенькім пэндзлем мастак вымалёўвае пяшчотныя рысы маладога твару Марыі, кучаравыя пасмы Яе валасоў, што спадаюць на плечы. Вобраз Мадонны – цэнтральны ў карціне, у ім увасобілася ўся сіла веры хрысціянскага мастака. За Мадоннай стаіць св. Юзаф — пажылы чалавек з сівой барадой. Яго тонкія рукі счапіліся пальцамі — у гэтым жэсце мастак працягвае тэму хвалявання і трывогі, што апанавалі Юзафа, адказнага за Сям'ю ў цяжкіх абставінах. Яркая чырвань яго вопраткі побач з халодным колерам у постаці Мадонны набывае яшчэ больш вострую драматычную інтанацыю і працягвае каларыстычную дамінанту, заяўленую мастаком у колеравым атачэнні фігуры Дзіцяці.

Проста над Езусам — галовы вала і асла. У маленькай прасторы хлява ледзь хапае месца. А ў правай частцы карціны, ужо па-за навесам, мастак паказаў фігуры трох пастухоў, сведкаў цуду нараджэння Збаўцы. Простыя людзі ў лахманах здымаюць капелюшы і ўкленчваюць перад Хрыстом. У іх тварах адлюстраваліся ўсхваляванасць і радасць. Яны — першыя пасланцы чалавецтва, далучаныя да Хрыста. А на фоне карціны разгортваецца краявід: у левай частцы гэта падобны да сцэнічнай дэкарацыі пагорак з раслінамі на паверхні, а ў правай — далёкая перспектыва, якую задаюць рака, ціхамірнае мястэчка з белымі домікамі і пагоркі-палі да самага далягляду.

Калі жывапісны твор Шангаўэра мы назвалі маленькім па памерах, то медзярыт «Нараджэнне Езуса» для гравюры мае вялікія памеры (амаль блізкія да згаданай карціны). Гэты аспект і тэматычнае адзінства дазваляюць зрабіць цікавыя параўнанні трактоўкі формы і вобразаў. Шангаўэр быў наватарам перш за ўсё ў гравюры. На гэтым полі ён далёка апярэдзіў сваіх паўночнаеўрапейскіх сучаснікаў. Ягонымі творамі захапляўся, вучыўся на іх, скупляў і калекцыянаваў малады Альбрэхт Дзюрэр.

...Тут дзея разгортваецца ўжо не пад хісткім навесам, а ў архітэктурным асяроддзі. Мастак дае прытулак Святой Сям'і ў закутку закінутай пабудовы з гатычнымі скляпеннямі і аркадай. Тэма пакланення набывае, такім чынам, больш урачыстае гучанне, становіцца правобразам Імшы. Святая Сям'я спынілася ў паўразбуранай пабудове, але ў архітэктуры чытаецца выразны нямецкі рацыянальны пачатак. Сцяну на першым плане нехта, здаецца, знарок разабраў, каб адкрыць для нас камерную і ў той жа час велічную сцэну пакланення Дзіцяці. Каменныя квадры, амаль некранутыя разбурэннем, ляжаць у ранейшым парадку. І толькі вышэй, на стрэлістай арцы, камень точаць шчыліны і селяцца на канструкцыі паўзучыя расліны. Па пластыцы цэнтральныя фігуры кампазіцыі значна больш дынамічныя, чым у жывапісным творы. Мастак дэманструе тут абсалютна новую для нямецкай гравюры віртуознасць штрыха і святлаценевых кантрастаў.

Паўстае вечнае пытанне адносна іерархіі жанраў і відаў мастацтва. Ці традыцыйная (некаляровая) гравюра менш багатая за жывапіс, які валодае бясконцасцю колераў і адценняў? На гэта дае адказ пецярбургскі знаўца нямецкага мастацтва Цэцылія Нэсельштраўс: «Шангаўэр упарадкаваў штрыхоўку, распрацаваўшы градацыі перакрыжаваных штрыхоў. Гэта дазволіла значна пашырыць дыяпазон тонавых пераходаў ад светлага да цёмнага і дамагчыся глыбіні ценяў»[2]. Перакanайцеся ў гэтым самі, параўноўваючы два творы. Графічны аркуш не саступае па сіле выразнасці жывапісу.

Кампазіцыя медзярыта больш сканцэнтраваная, больш «рэч у сабе», і гэтаму спрыяе кампазіцыйны каркас архітэктуры. Але Шангаўэр не быў бы немцам, калі б адмовіўся ад галасоў, што ўплятаюцца ў агульны хор услаўлення Усявышняга. На арцы, у самым правым верхнім кутку аркуша — тры анёлы спяваюць, разгортваючы перад сабою доўгі скрутак. Праз цэнтральную арку бачны яшчэ адзін нябесны вястун — ён прывёў пастухоў да сціплага прытулка Святой Сям'і. Самы смелы з іх ужо ўкленчвае на парозе, стукаючы кіем па каменнай падлозе...

Свет радуецца і святкуе! Просты люд першым пачуў Добрую навіну пра Нараджэнне Езуса. Узрадуемся ж і мы!

*Валеры Буйвал*

---

[1] Gert Soeder. Martin Schongauer. — Dresden, 1984. — С. 1.

[2] Искусство зарубежных стран. Средние века, Возрождение. Под ред. Ц.Г. Нессельштраус. — Москва, 1982. — С. 307.

---

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

## CONTENTS

Article by P. Bielinski «*John XXIII: That All of Them May Be One...*» opens this issue of «*Our Faith*». It was written on the occasion of the canonization of Blessed Pope John XXIII (p. 2-4).

A. Shustak OP in his article «*The Tortoise and the Cock*» interestingly talks about the radicalism of the Christian faith (p. 5-8).

Article by M. Pashuk «*Element ("el) in the Books of the Bible*» is dedicated to the linguistic peculiarities of the Bible (p. 9-11).

Article by L. Lauresh «*The Church in Lida*» is dedicated to the 690th anniversary of the founding of one of the largest Catholic center, the city of Lida (p. 12-15).

«*A Priest Is a Servant...*» so tells in his monologue fr. U. Gulaj, the parish priest of the Church of the Exaltation of the Holy Cross in Lida (p. 16-19).

R. Macijewski in his article «*The Eighth Day of Creation?*» tells the readers about the danger of cloning beings (p. 20-25).

«*Peasants from Paulava to a Friend of Mankind*» is the material of historian A. Shpunt dedicated to an interesting person fr. J. Brzostowski (p. 26-31).

M. Skobla in his literary critic essay «*Signs of Anxiety*» tells of a new book of poems by A. Viartinski «*We Will Live*». Here we also place poems of the poet, and after them poems by Ukrainian journalist and poetess I. Snarskaya (p. 32-39).

«*The Four Loves*» is the title of the work by English writer and theologian C.S. Lewis, we propose an excerpt from this work (Chapter III. Eros) translated by Y. Shedzko (p. 40-43).

V. Buival offers his readers a translation from Danish narration by A. Oehlenschlägera «*Raihmut fon Adoht*», where it is written in an entertaining form about the miraculous return to the life of one of God's creations (p. 44-50).

Restorer I. Surmacheuski in the essay «*Wiazyn, Vyazyn, Viazan...*» shows the readers his sweet places (p. 51-58).

Article by architect S. Adamovich is dedicated to the Chapel of the Nativity of the Blessed Virgin in park Loshitsa (Minsk) (p. 59-63).

S. Radkevich in her article «*By the Ways of Rebels in 1863*» tells the story how a group of Belarusian artists paid tribute to the victims of the uprising on the occasion of its anniversary (p. 64-66).

Dz. Zagatski in his article «*Danuta Lopat. The Fate of the Aristocrat*» tells the story of one of the sacrificial Belarusian catholic woman (p. 67-69).

B. Buival in column «*Gallery*» introduces another masterpiece of art, work by M. Schongauer «*Adoration of the Shepherds. The Nativity of Jesus*» (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel von P. Bjalinsky „Johannes der XXIII.:"Dass alle eins sind …"", der anlässlich der Kanonisierung des selig gesprochenen Papstes Johannes des XXIII. geschrieben wurde (S. 2-4).

A. Schustak OP reflektiert im Artikel „Schildkröte und Hahn" über den Radikalismus des christlichen Glaubens (S. 5-8).

Den sprachlichen Besonderheiten der Bibel ist der Artikel von M. Paschuk „Das theophorische Element (*'el*) in den Büchern der Bibel" gewidmet (S. 9-11).

Dem 690. Jahrestag der Gründung einer der größten katholischen Gemeinden – der Stadt Lida – ist der Artikel von L. Lauresch „Die Farny-Kirche in Lida" gewidmet (S. 12-15).

„Der Priester ist ein Diener …" behauptet in seinem Monolog der Priester U. Gulaj, der Vorsteher der Kirche der Erhöhung des Heiligen Kreuzes in Lida (S. 16-19).

P. Mazijeuski erzählt im Artikel „Der achte Tag der Schöpfung?" über die Gefährlichkeit des Klonens von Lebewesen (S. 20-25).

„Die Bauern von Paulawa – dem Freund der Menschheit" heißt das Material des Geschichtswissenschaftlers A. Spunt, das der interessanten Gestalt des Priesters J. Bshastousky gewidmet ist (S. 26-31).

M. Skobla erzählt im literaturwissenschaftlichen Essay „Die Zeichen der Unruhe" über das neue Buch mit Gedichten und Poemen von A. Wjarzinski „Wir werden leben". In diesem Artikel befinden sich auch Gedichte des Poeten, ihnen folgen Gedichte der ukrainischen Journalistin und Poetin I. Snarskaja (S. 32-39).

„Vier Arten der Liebe" heißt das Werk des englischen Schriftstellers und Theologen C. S. Lewis, dessen Fortsetzung in der Übersetzung von J. Schedsjko (Abschnitt III. „Freundlichkeit") veröffentlicht ist (S. 40-43).

W. Bujwal bietet den Leserinnen und Lesern die aus dem Dänischen übersetzte Erzählung von A. Oehlenschläger „Reichmuth von Adocht", in der in einer spannenden Weise über die wunderbare Rückkehr eines Geschöpfes Gottes zum Leben erzählt wird (S. 44-50).

Der Restaurator I. Surmatscheuski führt die Leserinnen und Leser im heimatkundlichen Essay „Wiazyn, Wjasynj, Wjasanj …" durch die seinem Herzen lieben Orte (S. 51-58).

Der Kapelle der Geburt der Heiligsten Gottesmutter im Gehöft- und Parkkomplex Loschyza (Minsk) ist der Artikel der Architektin S. Adamowitsch gewidmet (S. 59-63).

S. Radkewitsch erzählt im Artikel „Auf den Wegen der Aufständischen aus dem Jahr 1863" darüber, wie eine Gruppe belarussischer Maler anlässlich des Jubiläums der Opfer des Aufstandes in Ehren gedacht hat (S. 64-66).

Ds. Sagazki erzählt im Artikel „Danuta Lopat – Schicksal einer Aristokratin" über das Leben einer aufopfernden belarussischen Katholikin (S. 67-69).

W. Bujwal macht in der Rubrik „Galerie" die Leserinnen und Leser mit einem weiteren Meisterwerk der Weltkunst – mit dem Bild von M. Schongauer „Anbetung der Hirten. Geburt Christi" – bekannt (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma rozpoczyna się artykułem P. Bielińskiego «Jan XXIII: Aby byli jedno» powstałym z okazji kanonizacji papieża Jana XXIII (s. 2-4).

A. Szustak OP w artykule «Żółw i kogut» fascynująco opowiada o radykalizmie chrześcijańskiej wiary (s. 4-8).

Cechom języka Biblii został poświęcony artykuł M. Paszuk «Teoforyczny element (*'el*) w księgach Biblii» (s. 9-11).

690-leciu założenia jednego z największych środowisk katolickich — miasta Lidy — został poświęcony artykuł L. Łauresza «Farny kościół w Lidzie» (s. 12-15).

«Kapłan jest sługą…» — twierdzi w swoim monologu proboszcz lidzkiego kościoła Podwyższenia Świętego Krzyża ks. Uł. Hulaj (s. 16-19).

R. Maciejewski w art. «Ósmy dzień stworzenia?» mówi o niebezpieczeństwie klonowania żywych istot (s. 20-25).

«Włościanie Pawłowa — przyjacielowi człowieczeństwa» — taki tytuł ma publikacja historyka A. Szpunta poświęcona ciekawej osobie ks. J. Brzostowskiego (s. 26-31).

M. Skobla w eseju literaturoznawczym «Znaki niepokoju» opowiada o nowej książce wierszy i poematów A. Wiarcinskaha «Będziemy żyli». Obok zostały zamieszczone wiersze poety, a tuż za nimi — wiersze poetki i dziennikarki z Ukrainy I. Snarskiej (s. 32-39).

«Cztery miłości» — taki tytuł ma dzieło angielskiego pisarza i teologa C. S. Lewisa, której ciąg dalszy drukuje się w tłumaczeniu J. Szedźko (Rozdział III. «Przywiązanie») (s. 40-43).

W. Bujwał proponuje Czytelnikom tłumaczenie z języka duńskiego opowiadania A. Oehlenschlägera «Reichmuth von Adocht», w którym zajmująco mówi się o cudownym powrocie do życia Bożego stworzenia (s. 44-50).

Restaurator I. Surmaczeuski w eseju krajoznawczym «Wiazyn, Wiazyń, Wiazań…» prowadzi Czytelników po miłych jego sercu stronach rodzinnych (s. 51-58).

Kaplicy Narodzenia Najświętszej Bogarodzicy w Łoszyckim miejskim parku został poświęcony artykuł architekty S. Adamowicz (s. 59-63).

S. Radkiewicz w artykule «Drogami powstańców 1863 r.» opowiada, jak grupa białoruskich malarzy uszanowała pamięć ofiar powstania z okazji jego jubileuszu (s. 64-66).

D. Zahacki w artykule «Danuta Łopat — los arystokratki» opowiada o życiu jednej z ofiarnych białoruskich katoliczek (s. 67-69).

W. Bujwał w rubryce «Galeria» zapoznaje Czytelników z kolejnym arcydziełem sztuki światowej — obrazem M. Schongauera «Pokłon pasterzy. Narodzenie Jezusa» (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero della rivista inizia l'articolo di P. Bialinski "Jan XXIII: "Perché tutti diventino uno solo", scritto in occasione della canonizzazione del benedetto Papa Giovanni XXIII (p. 2-4).

A. Szustak OP nell'articolo "Tartaruga e gallo" riflette sul radicalismo della fede cristiana (p. 5-8).

Alle particolarità linguistiche della Bibbia è dedicato l'articolo di M. Pašuk "Elemento teoforico (*'el*) nei libri della Bibbia" (p. 9-11).

Al 690° anniversario di uno dei più grandi ambienti cattolici, la città di Lida, è dedicato l'articolo di L. Laureš "La Chiesa principale di Lida" (p. 12-15).

"Sacerdote è un servo…" afferma nel suo monologo il parroco della Chiesa dell'Esaltazione della Santa Croce di Lida U. Guliaj (p. 16-19).

R. Maciejewski nell'articolo "L'ottavo giorno della Creazione?" parla del pericolo di clonazione di esseri viventi (p. 20-25).

"I contadini di Paulau all'amico dell'Umanità" è il titolo del materiale dello storico A. Špunt dedicato alla persona del prete J. Bžastouski (p. 26-31).

Ě. Skobla nel saggio "I segni dell'inquietudine" racconta del nuovo libro di poesie di A. Viarzinski "Vivremo". Accanto sono pubblicate i versi del poeta insieme alle poesie di poetessa e giornalista bielorussa che vive in Ucraina I. Snarskaja (p. 32-39).

"Quattro Amori" è il titolo del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis tradotto da J. Šedzko (si pubblica la parte successiva, il Capitolo III "L'affetto") (p. 40-43).

V. Bujval propone all'attenzione dei lettori la traduzione dal danese del racconto di A. Oehlenschlägera "Raihmut fon Adoht" che racconta in un modo emozionante del ritorno alla vita della creatura divina (p. 44-50).

Nel saggio dedicato alla storia locale "Wiazyn, Wiazyń, Wiazań…" il restauratore I. Surmačeuski porta i lettori nei luoghi cari al suo cuore (p. 51-58).

Al Campanile della Nascita della Santissima Madonna della tenuta di Lošiza (Minsk) è dedicato l'articolo dell'architetto S. Adamovič (p. 59-63).

S. Radkevič nell'articolo "Sulle strade degli insorti del 1863" racconta come il gruppo dei pittori bielorussi ha commemorato la memoria delle vittime della rivolta in occasione del suo anniversario (p. 64-66).

Dz. Zagazki racconta della vita di una cattolica bielorussa piena di abnegazione "Danuta Lopat, il destino di una nobile" (p. 67-69).

Il critico d'arte V. Bujval nella rubrica *Galleria* presenta ai lettori un altro capolavoro dell'arte mondiale, il quadro di Martin Schongauer "L'Adorazione dei Pastori" (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — фарны касцёл у г. Ліда. Фрагмент гравюры паводле малюнка Напалеона Орды.


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 4 (66)/2013.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 16.12.2013 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 1336.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»ЛП № 02330/0552734 ад 31.12.2009.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*



*Марцін Шангаўэр.*
*Нараджэнне Езуса.*
*Каля 1475 г. Медзярыт. 25,9х17 см.*



*Марцін Шангаўэр.*
*Пакланенне пастухоў.*
*Каля 1472 г. Дрэва, алей. 37,5х28 см.*
*Берлін, Дзяржаўныя музеі.*

